КАНДРАТ КРАПІВА

СТАМБУЛ

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 history.nn.by

# Наша Гісторыя

№ 6(35) — 2021

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

ISSN 2617-2305

ВІКТАР ФРАНКЛ: ЯК ВЫЖЫЦЬ У ТУРМЕ

«ГОРАД ЗАСЫНАЕ, ПРАЧЫНАЕЦЦА МАФІЯ»

## КАГО ЛЮБІШ? ЛЮБЛЮ БЕЛАРУСЬ!

1863–1864

16+

**Шаноўныя сябры!**

У жніўні спаўняецца тры гады з пачатку выхаду нашага часопіса. Час праляцеў імгненна, і нават крыху не верыцца, што столькі ўсяго зроблена. Першы нумар, здаецца, быў зусім нядаўна, а гэты, які вы трымаеце ў руках, ужо 35-ы. Разляцелася больш за 200 тысяч асобнікаў!

Усе гэтыя гады мы стараліся рабіць прыгожы, разнастайны, змястоўны і інфарматыўны, цікавы для рознай аўдыторыі часопіс. І бачылі рэальны жывы водгук з боку грамадства: за гэты час мы набылі трывалае кола чытачоў і падпісчыкаў, лік якіх ідзе на тысячы. Гэта натхняе і стымулюе да далейшай працы.

З ліпеньскага нумара (№7) падпіску будзе прымаць сама Рэдакцыя, сама яна бярэцца часопіс і дастаўляць чытачам. Абавязваемся рабіць гэта старанна і сумленна, зладзіўшы сістэму распаўсюду, якая будзе працаваць без збояў. Досвед працы па такой схеме маем яшчэ з другой паловы нулявых гадоў.

Салідарнасць з боку чытачоў надае нам упэўненасць.

Мы вельмі зацікаўленыя, каб менавіта падпіска па новай сістэме стала асноўным сродкам яго далейшага распаўсюду. Бо менавіта наяўнасць вялікай падпіскі з папярэдняй аплатай дазваляе выданню лепш планаваць наклад (чым ён вышэйшы — тым меншы сабекошт!).

Дык падпісвайся! Як гэта зрабіць — падрабязна распісана на першай старонцы часопіса.

А гэты нумар часопіса распачынаецца матэрыяламі пра паўстанне 1863–1864 гадоў (**старонкі 4–17**). Дагэтуль ідуць спрэчкі, ці апраўдана яно было, ці мелі сэнс панесеныя тады страты і пакуты, ці правільна зрабіў Кастусь Каліноўскі, што застаўся ў краіне пасля разгрому партызанскага руху, а не выехаў у эміграцыю. У тым уздыме было шмат візіянерства, але шмат і нерэалістычных спадзяванняў — у тым ліку на стварэнне «рускага легіёна», які дазволіць адначасова з паўстаннем у Польшчы, Беларусі і Літве падняць паўстанне таксама ў Расіі. Паўстанне стварыла легенду, якая вяла людзей, яны верылі, што «не мы, дык нашыя косці здабудуць свабоду». А памяць пра палеглых і высланых жыве даўжэй, чым памяць пра тых, хто да паўстання не далучыўся. Пароль жа паўстанцаў «Каго любіш?» — «Люблю Беларусь!» захаваўся ў архівах паліцыі і быў пераадкрыты ў XX стагоддзі. Натхняючы ўжо новыя пакаленні.

**Наша Гісторыя**
6/2021

history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Валянціна Андрэева

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — фота Кастуся Каліноўскага, апрацаванае з дапамогай нейрасеткі Русланам Чатыркам.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X,
УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 707-73-29

**E-mail:** history@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 15.06.2021.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 1391.
Наклад 4500.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Дзівімакс».
Вул. Аэрадромная 125, пам. 5В, 220007, г. Мінск.
УНП 190147176. ЛД 02330/53 ад 14.02.2014.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/44 ад 18.02.2014 г.

# Падпісацца? Праз Рэдакцыю!

Пачынаючы з наступнага нумара (№7 за 2021 год), праводзіць падпіску і дастаўляць часопіс будзе сама Рэдакцыя. Кошт — 7 рублёў за адзін нумар. Пры падпісцы на паўгоддзе зніжка — 35 рублёў за шэсць нумароў. Гэта значыць, што вы плаціце за пяць і шосты атрымліваеце ў падарунак.

Аформіць падпіску можна двума спосабамі.

1. **Усіх, хто карыстаецца інтэрнэтам,** просім зайсці на сайт **Nashakrama.by**, выбраць часопіс, перыяд падпіскі і аплаціць анлайн па картцы. Можна ў любы момант падпісацца адразу на год! Падпіска на найбліжэйшы нумар пры анлайн-замове будзе прымацца да 14 дня месяца, у які́м выходзіць новы нумар часопіса.
2. **Хто не карыстаецца інтэрнэтам**, можа прыйсці ў любы банк ці на пошту і зрабіць аплату за падпіску па рэквізітах, указаных ніжэй. Пасля выражце і запоўніце квітанцыю, змешчаную ў нізе старонкі. Дашліце яе нам лістом па адрасе: 220004, Мінск, а/с 62. Альбо адпраўце звесткі ў тэлеграм ці вайбер на нумар +375 33 311 28 43.

**Рэквізіты для аплаты** ў банку ці на пошце (праз «адвольны плацеж» ці «плацеж па рэквізітах» — «произвольный платеж» или «платеж по реквизитам»):

*Атрымальнік плацяжу:* Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы»
*УНП атрымальніка:* 190786828
*Рахунак атрымальніка:* BY84BLBB30120190786828001001
*BIC банка атрымальніка:* BLBBBY2X
*Прызначэнне плацяжу:* Падпіска на часопіс «Наша гісторыя» на перыяд ........
*Сума плацяжу:* ........

**!** Вельмі просім усіх прыярытэтна карыстацца спосабам 1. Пры ім будзе меней збояў і меншая нагрузка на калектыў Рэдакцыі пры апрацоўцы замоваў.

Тэлефон для даведак па пытаннях падпіскі: +375 33 311 28 43.

**ПАДПІСНЫ АБАНЕМЕНТ**
на часопіс **«Наша гісторыя»**

| Кошт падпіскі | | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|

На **2021** год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| / | / | / | / | / | / | | | | | | |

Каму

Куды














**тэма**

**4 «Не мы, дык нашыя косці здабудуць свабоду».**

Пра лёсы пяцёх братоў Козел-Паклеўскіх расказвае ваенны гісторык **Віталь Чырвінскі**



**12 Як падчас паўстання 1863 года спрабавалі разбудзіць Расію.** Што выйшла з гэтай рамантычнай ідэі

пошта і водгукі

**11 «Блізкае да шчымлівага болю ад асалоды чуць, чытаць»...** «Мы павінны выкарыстоўваць час мудра»...

біяграфіі

**18 Трэці народны.** Крапіва адкрываў сваю асабістую ракавіну рэдка, але тыя, каму ён адкрываўся, бачылі зусім іншага чалавека, піша кандыдат філалагічных навук **Павел Навуменка**



**28 Псіхолаг Віктар Франкл: як выжыць у турме.** Хто ведае, *навошта* жыць, можа вытрымаць любое *як*


Тэлефон для кантакта ______________________

Нумар рахунку (чэка, квітанцыі аб аплаце) ______________________

______________________

Дасласць на адрас 220004, Мінск, а/с 62
не пазней за 15-ы дзень месяца,
у якім выходзіць новы нумар часопіса.



















**пра-свет**

40 **Горад засынае, прачынаецца мафія.** Калі брэндам піцы Італія ганарыцца, то мафія, «Камора», «Ндрангета», — боль. Піша **Андрэй Дзмітранок**

48 **М'янма: чаму там уладу трымае армія**

**прыгоды жыцця**

52 **Вясёлае жыццё савецкага марака**

**турыстычныя кірункі**

60 **Стамбул.** Альфа-горад, другі Рым, мяняецца на вачах

76 **Верхняя Лужыца.** Карэнныя славяне Нямеччыны. Пра гэты адданы сваёй культуры народ піша **Сяргей Грунтоў**








**кнігі**

73 **Мёртвая рука**

**жывая гісторыя**

85 **«На вайне не хварэлі доўга. Альбо паміралі, альбо папраўляліся».** Двойчы кавалер ордэна Чырвонай Зоркі адсвяткаваў сваё стагоддзе, ачуняўшы ад каранавіруса





**спадчына**

90 **Агуркі.** Няспелая паўднёвая ягада на беларускім стале. Піша доктар гісторыі **Алесь Белы**

**што пішуць**

96 **Самалётамі на Мінскае мора...** Стары Мінск быў такі... А потым пастаўкі нафты скараціліся... Прамаргалі…







BERNARDINAI.LT

Паштоўка на памяць аб паўстанні 1863–1864 гадоў.

# «Не мы, дык нашыя косці здабудуць свабоду»

**Паўстанне 1863 года выявіла вялізную колькасць людзей, якія ўзялі на сябе смеласць уключыцца ў барацьбу за свабоду роднага краю, рызыкуючы пры гэтым не толькі сваім дабрабытам, але і ўласным жыццём. Пра лёсы пяцёх братоў Козел-Паклеўскіх расказвае ваенны гісторык Віталь Чырвінскі.**

1863 год. Чэрвень. На ўзлеску ашчэрылася доўгая прамавугольная яма. Мужчынскія целы акуратна ссунутыя на бачок адно да аднаго каля пясчаных сценак ужо вечнай для іх «кватэры». А на ўскрайку магілы два трупы з выцягнутымі счарнелымі тварамі плячо да пляча.

Згорблены ў роспачы сівы шляхціч нязграбна ўкленчыў на свежавыкапаным пяску: тут ляжаць яго сыны. 25-гадовы Вінцэнт і самы малодшы, а таму і самы любімы ў сям'і 16-гадовы Міхал-Генрык. Надзея, што сярод дзясяткаў целаў паўстанцаў, забітых у нядаўнім баі з карнікамі, не будзе яго сыноў, разбілася аб рэчаіснасць. Вялікае гора ўвайшло ў шчаслівы дагэтуль дом Яна-Напалеона Козел-Паклеўскага, ганаровага куратара

гімназій Мінскай губерні, уладальніка некалькіх маёнткаў на Вілейшчыне і дамоў-камяніц у Вільні.

### Будучыня роду і краю

Якія думкі турбавалі Яна-Напалеона Козел-Паклеўскага 25 снежня 1862 года? Ён акурат вярнуўся са святочнай імшы ў невялічкім драўляным касцёле, які дзесяць гадоў таму быў пабудаваны ў Вялікай Сэрвачы з яго ініцыятывы ды на яго грошы, і сядзеў у прасторнай зале ўласнай двухпавярховай камяніцы. Пра што можна было думаць пад трэск дроваў у каміне за святочным сталом, падзяліўшыся перад тым аплаткамі з каханай жонкай Юзэфай, малодшымі сынамі, мясцовым ксяндзом і сябрамі, якіх запрасіў у госці?



### Козел-Паклеўскія

Паводле польскага гербоўніка, выдадзенага ў пачатку XX стагоддзя ў Варшаве, у 1415 годзе пасол вялікага князя Вітаўта Козел зацвердзіў дамову пячаткай са сваім родавым гербам: перакуленым уніз паўмесяцам і трыма стрэламі.

Адбылося гэта ў малапольскім мястэчку Вісліца. Першапачаткова прадстаўнікі роду жылі на прыдняпроўскіх землях. Вядома, што на пачатку XVI стагоддзя адзін з Козелаў (Савіч) перасяліўся на Ашмяншчыну.

На пачатку XVII стагоддзя прадстаўнікі роду, якія дагэтуль выкарыстоўвалі розныя варыяцыі свайго прозвішча (Козелы, Казелло, Казелы, Паклеўскія), пачалі называцца Козел-Паклеўскімі або Паклеўскімі-Козел. Прыдомак да прозвішча ўтварыўся ад назвы маёнтка Паклева Ашмянскага павета.

Хіба што імкнуўся зазірнуць у таемнае заўтра: сваё, сваёй сям'і і, імаверна, сваёй Бацькаўшчыны. Бо нямала ўжо зрабіў для яго: мець пяцярых сыноў — гэта вялікае багацце і магутны падмурак пад будучыню роду і краю.

### Два браты, два камандзіры

Вінцэнт быў другім у сям'і, старэйшым на год быў Ян. Першыя дваццаць гадоў жыцця братоў можна апісваць пад капірку. Месца нараджэння — радавы маёнтак Вялікая Сэрвач на Вілейшчыне. Хрост — у найбліжэйшым касцёле. Бесклапотныя дзіцячыя гульні. Пачатковая хатняя адукацыя. Поўная падлеткавых прыгодаў выправа ў далёкі Санкт-Пецярбург. Вучоба ў школе гвардзейскіх падпрапаршчыкаў, вайскова-інжынерная акадэмія.

Абодва яны паслужаць у расійскай арміі. Старэйшы, Ян, толькі год, а пасля выйдзе ў адстаўку ў чыне паручніка і накіруецца ў Францыю, дзе паступіць на інжынерны факультэт знакамітай Ваеннай школы ў Парыжы. Вінцэнт жа пасля выпуску будзе накіраваны ў Вільню, а сваю афіцэрскую кар'еру скончыць у фінскім Свеаборгу ў званні штабс-капітана.

У 1861 годзе браты зноў зоймуцца адной справай. Гэтым разам — падрыхтоўкай паўстання.

Ян узначаліць падпольную арганізацыю чырвоных у Мінску. Увосень 1862 года пераедзе ў Вільню, дзе ўвойдзе ў камітэт падрыхтоўкі паўстання. Будзе адным з найбліжэйшых паплечнікаў Кастуся Каліноўскага. Маючы шырокія армейскія сувязі, здолее здабыць і вывезці з Расіі штабныя карты. За ім ужо была пасада ваеннага начальніка Вілейскага павета, але з-за пераследу з боку ўладаў Ян вымушаны пераехаць



WIKIMEDIA COMMONS

**Ян Козел-Паклеўскі** (1837–1896).

у Варшаву. Там ён увойдзе ў склад Цэнтральнага паўстанцкага ўрада.

Вінцэнт тым часам створыць рэвалюцыйную арганізацыю ў Вілейскім павеце, а затым, як раней Ян, стане ваенным кіраўніком Вілейскага павета і зоймецца нарыхтоўкай зброі і агітацыяй у паўстанцкія атрады.

### У «вайсковым парадку, з разгорнутымі штандарамі»

У атрадзе Вінцэнта Козел-Паклеўскага галоўным чынам сабраліся людзі цывільныя: шляхецкая моладзь, студэнты, гімназісты, мяшчане, сяляне. Кіраўнік атрада абраў месцам для лагера лясныя гушчары на самым памежжы Вілейскага і Барысаўскага паветаў, адстаўныя афіцэры маглі бесперашкодна займацца з інсургентамі вайсковай падрыхтоўкай.

Атрад (да 200 чалавек) арганізацыйна падзялілі на штаб, тры плутоны (па-сучаснаму ўзводы) і касінераў (збольшага сяляне, узброеныя косамі, перапрабленымі на дзіды). І яго першая выправа была неймаверна прыгожай. ▸

Каб папоўніць шэрагі добраахвотнікамі, малады камандзір зладзіў марш-парад. У «вайсковым парадку, з разгорнутымі штандарамі, спяваючы патрыятычныя песні», паўстанцы прайшлі праз навакольныя вёскі і фальваркі.

У першыя ж дні мая адстаўны штабс-капітан расійскай арміі Вінцэнт Козел-Паклеўскі разам з паплечнікамі наведаў мястэчка Альковічы і ў касцёле, запоўненым мясцовымі жыхарамі і сялянамі навакольных вёсак, зачытаў маніфест паўстання. Дарма што малады ксёндз спалохаўся і не зачытаў сам: рашучасці ў паўстанцаў было досыць. Канспіратыўная падрыхтоўка да паўстання скончана. Цяпер — да зброі!




**У касцёле Альковічаў, што збудавалі побач з тым старым касцёлам, дзе зачыталі маніфест паўстання.** Пра тое, як гэты касцёл у савецкія часы ратаваў ад знішчэння ягоны бацька, тады хлопчык-піянер, у №1/2020 «Нашай гісторыі» пісаў Антон Рудак.

### Вартавы ўсё праспаў

Раніцай 8 мая, пераправіўшыся ўброд праз Вілію, атрад Вінцэнта Козел-Паклеўскага ўвайшоў у мястэчка Даўгінава. Усё адбылося, з аднаго боку, па-вайсковаму дысцыплінавана і рашуча, з іншага — па-заліхвацку нахабна. Вінцэнт сіламі аднаго ўзвода захапіў установу паліцэйскага асэсара і знішчыў вартавыя пастарункі. Другі ўзвод размясціў у цэнтры мястэчка ў раёне рынку, а сам

### На гэтым здымку Козел-Паклеўскі, але не Вінцэнт

Гэтае фота нярэдка прысутнічае ў публікацыях як партрэт Вінцэнта Козела-Паклеўскага. Але гісторык Вольга Гарбачова выявіла ў зборах Літоўскага дзяржаўнага гістарычнага архіва арыгінальны фотаздымак з надпісам на адваротным баку. Згодна з подпісам, на здымку Яўстафій Козел-Паклеўскі з Віленскай губерні. Ён быў студэнтам Горацкага земляробчага інстытута і далучыўся да паўстанцаў 24 красавіка 1863 года, калі тыя напалі на мястэчка Горкі. Пазней быў асуджаны на 12 гадоў катаржных работ.

На жаль, пакуль не атрымалася знайсці сапраўдную выяву Вінцэнта Козел-Паклеўскага, але гэта не значыць, што яе няма. Вось як яго апісвалі следчым захопленыя ў палон паўстанцы: *«Вялікага росту, твар смуглявы, вуграваты, чорныя валасы, без барады і вусоў».*





разам з байцамі трэцяга ўзвода, склаўшы на зямлю зброю, увайшоў у касцёл, дзе ўзяў удзел у святой імшы. А пасля зачытаў маніфест паўстання.

Інсургентаў зноў пабольшала, і атрад рушыў у бок Докшыцаў. А назаўтра каля вёскі Тараканаўка (у 1968 годзе будзе перайменавана ў Салаўёўку) паўстанцы сутыкнуліся з дзвюма ротамі ўрадавых войскаў. Завязалася перастрэлка, Козел-Паклеўскі загадаў адступіць і выбірацца пад прыкрыццём лясоў.

Аднак за ўцекачамі рушыла пагоня, таму належала перш адарвацца, а пасля напасці знянацку: для простага бою паўстанцаў было замала. Вінцэнт Козел-Паклеўскі задумаў зрабіць на вузкай грэблі ля Мацькаўцоў (цяпер аграгарадок Вілейскага раёна) засаду на казацкую сотню. Мабыць, усё б атрымалася, каб не вартавы, які павінен быў пабудзіць атрад апоўначы. Небарака гэтак моцна сагрэўся алкаголем, што проста праспаў. Калі ранкам паўстанцы прадралі вочы, казакі былі ўжо на грэблі. Няясна толькі, чаму вартавы ў такой сітуацыі пазбег трыбуналу.

### Першы бой, які стаў апошнім…

Свой першы буйны бой супраць урадавых войскаў Вінцэнт Козел-Паклеўскі правёў 16 мая на беразе ракі Ілія каля вёскі Уладыкі. Ён жа стаў для яго і апошнім. Атрад быў атакаваны пяццю ротамі Новаінгерманландскага, Крамянчугскага і Велікалуцкага палкоў пад агульным камандаваннем палкоўніка Аляксандра Гала.

Расійскім вайскоўцам дапамог мясцовы селянін, які ў спадзеве на ўзнагароду выбег насустрач салдатам і абвясціў, што «мяцежнікі ўначы перапраўіліся з правага берага на левы бераг Іліі і размясціліся ў лесе». Селянін паказаў і брод, каб абаронцы імперыі выйшлі паўстанцкаму лагеру ў тыл.

Акружаны з усіх бакоў і прыціснуты да ракі, Вінцэнт Козел-Паклеўскі здолеў арганізаваць адпор. Ён падпусціў стралковыя ланцугі на 50 метраў, адкрыў знішчальны агонь і на левым флангу адкінуў праціўніка назад да вёскі.

Змагаўся да апошняга (куля трапіла ў галаву). Ужо калі камандзір загінуў, частка атрада паспрабавала ўратавацца на плытах, але ўцекачоў расстралялі з берага. Быў забіты і юны ▶



**«Атака. 1863 год».** Лінарыт. Аўтар Мікола Купава, 1976 год.

брат Вінцэнта Міхал-Генрык. «У тым баі загінулі найлепшыя людзі, цвет Вілейскага павета», — успамінаў адзін з удзельнікаў тых падзей, якому пашанцавала выжыць.

Паўстанцкая публіцыстыка адгукнулася на гэтую трагічную падзею пафаснымі артыкуламі. Страты праціўніка моцна перабольшвалі, а Вінцэнта Козел-Паклеўскага параўноўвалі з царом Леанідам — тым самым легендарным царом Спарты, які ў 480 годзе да нашай эры гераічна загінуў падчас бітвы пад Фермапіламі. Цяпер на месцы той легендарнай бітвы пліта з эпітафіяй паэта Старажытнай Грэцыі Сіманіда Кеоскага: «*Падарожнік, ідзі абвясці нашым грамадзянам у Лакедэмоніі, што, іх запаветы захоўваючы, тут мы касцямі палеглі*».

### Разбітая «Скала»

Брат Вінцэнта Ян працягваў змаганне. Дзейнічаў пад паўстанцкай мянушкай «палкоўнік Скала». У снежні 1863 года дыктатар паўстання Рамуальд Траўгут прызначыў яго на пасаду камандзіра III корпуса паўстанцкіх войск, які павінен быў дзейнічаць у Літве-Беларусі. Але па-сапраўднаму паваяваць найстарэйшы з сыноў Козел-Паклеўскага ў паўстанні не паспеў. Пакуль ён ездзіў у Бельгію, каб набыць тры тысячы стрэльбаў для свайго корпуса, паўстанцкія атрады ўжо спынілі сваю баявую дзейнасць.

У франка-прускай вайне 1870–1871 гадоў Ян Козел-Паклеўскі камандаваў брыгадай пяхоты, узначальваў штаб 24-га французскага корпуса. І тут ён сышоўся з расійскім консулам, які прапанаваў арганізаваць выданне часопіса для прапаганды панславізму.

### З журнала баявых дзеянняў войскаў у Барысаўскім павеце Мінскай губерні

Сукупнымі дзеяннямі гэтых дзвюх ротаў хеўра была пастаўлена ў самае адчайнае становішча, акружаная амаль з усіх бакоў, прыціснутая да ракі. Мяцежнікі, аднак жа, не думалі аб здачы. З паўгадзіны працягвалася канчатковая жорсткая сутычка, злучаная з агнястрэльным боем. Нарэшце, не бачачы магчымасці супраціву, частка паўстанцаў, якая склала агульную кучу, накшталт калоны, кінулася ў раку і дала такім чынам стральцам, якія занялі бераг, добрую мішэнь для іх стрэлаў. Мала хто з тых, хто шукаў выратавання, дасягнулі другога берага.

Былыя паплечнікі-паўстанцы такога сяброўства не ўхвалілі і абвінавацілі колішняга камандзіра ў здрадзе. Заставалася толькі вяртацца на радзіму.

А на радзіме ў ім бачылі колішняга бунтаўніка і адразу ж арыштавалі, хоць на той час ужо выйшлі прынамсі тры маніфесты аб палягчэнні пакарання розным катэгорыям паўстанцаў. Зрэшты, у 1863-м Козел-Паклеўскага павесілі б. А цяпер, калі мінула 10 гадоў, разгорнутыя паказанні і прысяга на вернасць расійскаму імператару захавалі нашчадку роду жыццё. У якасці пакарання яго толькі разжалавалі ў шарагоўцы і звычайным салдатам адправілі ў Туркестанскае генерал-губернатарства.

Ян Козел-Паклеўскі адслужыў у горадзе Верны (цяпер Алматы, Казахстан) і застаўся ў Сярэдняй Азіі як спецыяліст у ваенна-інжынернай справе. У 1883 годзе атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. Памёр у Бабруйску, дзе і быў пахаваны.

### «…посидит под замком, да подолее…»

У верасні 1863 года было афіцыйна абвешчана аб заканчэнні баявых дзеянняў расійскіх войскаў у Мінскай губерні Паўночна-Заходняга края. З пяці братоў Козел-Паклеўскіх без пакарання за ўдзел у паўстанні не застаўся ніводны. 21-гадовага Зянона і 18-гадовага Юзафа пасля задушэння паўстання саслалі ў Сібір салдатамі. Пасля адбыцця службы вяртацца жыць на Бацькаўшчыну ім было забаронена.

Паўстанне было задушана, скончылася, але арышты людзей, нейкім чынам звязаных з паўстаннем, працягваліся.Ператрусы ў шляхецкіх маёнтках былі будзённай справай. У турму ў Вілейцы, пабудаваную ў 1856 годзе і разлічаную на 100 арыштантаў, пхалі не толькі былых інсургентаў, але і тых, каго падазравалі ў спачуванні паўстанню.

Міхаіл Мураўёў-Вешальнік прызнаваўся: «Вельмі часта




**Бой паўстанцаў супраць урадавых войскаў.**




**Карыкатура на генерал-губернатара Міхаіла Мураўёва-Вешальніка.**

я саджаю мяцежнікаў без найменшай віны, нават падазрэнняў няма. Ну, у такім выпадку я заўсёды думаю: пасядзіць пад замкам, ды як мага даўжэй — а можа, нешта ды адшукаецца».

Пачаўся неймаверны ціск на Рымска-каталіцкую царкву. Забаранялася «будаваць і рамантаваць касцёлы, капліцы, філіі без дазволу галоўнага начальніка края; рабіць царкоўныя працэсіі і рабіць абвесткі без ведама і дазволу мясцовага цывільнага начальства; не дапускаць прызначэння ксяндзоў у прыходы без згоды галоўнага мясцовага начальства і больш за тую колькасць, якая павінна быць па ліку парафій, а таксама не дазваляць уступаць у манаства і ў семінарыі без дазволу галоўнага начальства; спыніць адвольнае бадзяжніцтва рымска-каталіцкага духавенства, якое, карыстаючыся бестурботнасцю мясцовага начальства, раз'язджала свабодна па цэлым краі, беспакарана прапаведавала мяцеж, паўставала адкрыта супраць урада і, быўшы бясшлюбным, распальвала страсці ў жанчын, якія, як вядома, надта лёгка захапляюцца» (з «Всеподданейшего отчета» Міхаіла Мураўёва па кіраванні Паўночна-Заходнім краем).

## Забароненыя песні, адзенне, колеры

Узброеных паўстанцаў пакрысе павыціскалі з лясоў. Хтосьці з іх трапіў на шыбеніцу, хтосьці здолеў уцячы ў эміграцыю. Частка стаілася ў чаканні, што пранясе.

Актыўная фаза паўстання спынілася. Але з Польшчы прыйшла мода на колеры і адзенне супраціву. Мужчыны насілі чатырохкутныя шапачкі (канфедэраткі) і высокія боты, жанчыны — медальёны з Маці Божай Чанстахоўскай, і ўсе — жалобнае чорнае або фіялетавае адзенне.

Пачалася бязлітасная барацьба ўладаў супраць любых формаў грамадзянскага пратэсту. Мэйнстрымам часу стала слова «забарона» ў адносінах да, здавалася б, звычайных праяваў цывільнага жыцця.

Афіцыйнае аб'яўленне забароненых рэчаў і дзеянняў адбылося 7 чэрвеня 1864 года. Спяваць песні і гімны, якія могуць быць інтэрпрэтаваныя як «патрыятычныя», — забаронена. Насіць вопратку чорнага, фіялетавага і белага колераў — забаронена. Выйсці на шпацыр у чорным капелюшы з чорным парасонам — забаронена. Выкарыстоўваць адмысловую біжутэрыю з танных матэрыялаў (крыжыкі, пярсцёнкі, брошкі, завушніцы, запінкі, бранзалеты, паясы, спражкі) — забаронена. ▶




**Мінчанка Феліцыя Галаўня.** Чорны колер сімвалізаваў жалобу па ахвярах і высланых.

Тут прычына была ў дэманстрацыі таго факта, што каштоўныя металы асабістых упрыгожанняў пайшлі ў скарбонку падтрымкі паўстанцкага руху.

За парушэнні прызначалі велізарныя грашовыя штрафы або нават турэмнае зняволенне. Трапіў першы раз — штраф 25 рублёў. Другі раз забралі за канфедэратку ці венгерку на галаве — 50 рублёў. Пасля ішоў арышт і канфіскацыя маёмасці. За жалобнае адзенне не каралі толькі ў выпадку, калі памёр нехта са сваякоў і ў кішэні маецца афіцыйны дазвол ад паліцыі.

Тым не менш пратэсная мода протрымалася на вуліцах польскіх і беларускіх гарадоў больш за дзесяць гадоў.

### Проста пагорак

Целы Вінцэнта і Міхала-Генрыка Козел-Паклеўскіх знайшлі свой вечны спачын пад алтаром храма, фундаванага некалі іх бацькам. На сваё шчасце, Напалеон-Ян Козел-Паклеўскі не дажыў да таго дня, калі касцёл у Сэрвачы разабралі па бярвенцы і перавезлі ў суседнюю вёску Давыдкі, каб пабудаваць яшчэ адзін сельскі клуб. Цяпер на месцы храма і магілы яго сыноў проста пагорак, адзначаны невялікім металічным крыжам. ◆



**Той самы драўляны касцёл у Вялікай Сэрвачы Вілейскага раёна**, пад алтаром якога, відаць, былі пахаваныя целы Вінцэнта і Міхала-Генрыка Козел-Паклеўскіх. Фота пачатку XX стагоддзя.

### «Не мы, дык нашы косці здабудуць свабоду»

Гэтыя неверагодна моцныя словы сучасныя публіцысты прыпісваюць камандзіру вілейскіх паўстанцаў Вінцэнту Козел-Паклеўскаму. Вядома, што яны былі напісаныя на адной з мармуровых пліт пад імёнамі тых, хто загінуў у маі 1863 года каля Уладыкаў.

Тыя пліты знаходзіліся ўнутры помніка-капліцы, усталяванай у 1930-я гады на Рынкавай плошчы мястэчка Ілья ў гонар палеглых паўстанцаў. Галоўным ініцыятарам і фундатарам гэтай велічнай для мястэчка пабудовы вышынёй 14,5 метра быў нашчадак аднаго з мясцовых паўстанцаў памешчык Мечыслаў Багдановіч. На фасадзе капліцы быў надпіс: «У гонар палеглых за свабоду. 1863 год».

У 1954 годзе гэты помнік быў разбураны на загад мясцовых уладаў, а на яго месцы пабудавалі клуб.



Раскажыце нам пра вашу родавую вёску або дом, квартал у горадзе — для нашай рубрыкі **«Нацыянальная геаграфія»**.

У ёй ужо пісалі пра:
Калоднае, Столінскі раён;
Бершты, Шчучынскі раён;
Чыжоўскія могілкі, Мінск;
Унорыца, Рэчыцкі раён;
Трашчычы, Карэліцкі раён;
Мачуль, Столінскі раён.

## «Блізкае да шчымлівага болю ад асалоды чуць, чытаць»

Нечаканасцю ў № 2/2021 стала публікацыя зоркавай Ірыны Ляшкевіч. Зоркавай сапраўды. Ведаю праз Фэйсбук.

Публікацыя адмысловая, змястоўная, з гонарам за Мачуль.

Параўнаў лексіку вёскі з Брэстчыны са словамі сваёй вёскі з Міншчыны.

*Осісё*, *онёво* і *онінё* — моўныя шэдэўры, першы раз убачыў.

*Квашаніна* ў нашай шляхты і мужыкоў была агульным словам. *Гладышы*, *глечыкі* — тое ж самае.

*Карэц*, *кварта* і асабліва *кадоўб*, *кадоўбчык* — блізкае да шчымлівага болю ад асалоды чуць, чытаць.

*Трапкач* быў без літары *с* наперадзе.

Шляхта ў нас у Чэрвеньскім раёне была каталіцкай. Прыблізна 50 на 50 адсоткаў у сельсавеце.

Дзякуй аўтарцы і выдаўцам.

**Мікалай Галко, Мінск**

## «Наша гісторыя» ратуе ад дрэнных думак

Мандэла 27 гадоў сядзеў, Дубоўка — 28. Так што ў нас не так усё і кепска. Часта сябры пытаюцца, як гэты наш час перажыць, нават рыхтуюцца да турмы. Гэта страшна і неяк не ўкладаецца ў галаве. Людзі, якія столькі могуць зрабіць для нашай краіны, сядзяць ці думаюць пра краты.

Раю «Нашу гісторыю», ратуе ад дрэнных думак і натхняе ўзорамі:




«З падачы Мандэлы турму ператварылі ва ўніверсітэт. Кожны чытаў лекцыі па тым, у чым разбіраўся. “Уяві, мы прыйдзем да ўлады і ты станеш міністрам эканомікі, не ўпадай у адчай, падумай, як будзеш ратаваць эканоміку”».

**Юлія Чаргінец, Мінск**

## «Мы павінны выкарыстоўваць час мудра»

Хірург з Мінска Алена Церашкова падзялілася лістом, які атрымала з магілёўскай турмы ад свайго брата Максіма Вінярскага. «Сённяшні час шмат каму падаецца занадта змрочным, — піша ён, — але, як казаў у свой час спадар Нэльсан, мы павінны выкарыстоўваць час мудра і памятаць: добрую справу можна пачаць у любую хвіліну» («Наша гісторыя», №5 за 2021 год).

А вось Вольга Залатар, маці пяцярых дзяцей са Ждановіч пад Мінскам, піша з мінскай «Валадаркі» сваёй сяброўцы Кацярыне Андрыеўскай: «Ты добра прыдумала, што адправіла мне сваю далоньку. Пацiскаю тваю руку і адпраўляю сваю пяцярню. З Божай дапамогай усё будзе добра. Нядаўна прачытала пра трохгадовае зняволенне Якуба Коласа на “Валадарцы”. Тады маладому паэту здавалася, што няма прасвету, жыццё спынілася. Упэўнена, што светлыя і цёмныя палосы чаргуюцца. Галоўнае — не згубіць сябе, ведаць, хто ты ёсць, і застацца сабой. І яшчэ ў мяне ёсць адчуванне, што пасля майго вызвалення будзе лепш, чым было. Я магу жвава ўявіць сабе, як мы будзем за вялікім сталом піць гарбатку з самаробнымі смакоццямі, смяяцца і радавацца, што мы ёсць адзін у аднаго: такія шчырыя сэрцам, чулыя, шчодрыя, адданыя, любячыя і прыгожыя.

Каценька, сонейка, далучайся да флэшмобу “Воля вандруе па Беларусі”. За мяне адпраўляйся ў падарожжа па нашым родным краі і дасылай мне свае гісторыі з паштовачкамі ці на А4. І публікуй у сацсетках з адпаведным хэштэгам. Я пабачу розныя цікавасці, убачу нашы скарбы тваімі вачыма!»




А журналістка Ала Шарко на той жа «Валадарцы» на аснове ілюстрацый з «Нашай гісторыі» робіць уласныя малюнкі (на выяве ўверсе). Натхнілі яе, у прыватнасці, публікацыі Маргарыты Тарайкевіч пра Бельгію (3/2021), Алеся Белага пра ядловец (3/2021) і Андрэя Дзмітранка пра Фларэнцыю (4/2021).

## «Мой каханы муж дзякуе»

Паважаная «Наша гісторыя»!

Дзякую кожнаму чалавеку, хто прыклаў руку да з'яўлення на свет вашых выпускаў!

Мой каханы муж Кім Самусенка ўжо больш за сем месяцаў знаходзіцца на «Валадарцы». Ён заўсёды пазітыўна адгукаецца пра артыкулы ў вашым часопісе. Кіму, як чалавеку з актыўнай жыццёвай пазіцыяй, важна чытаць новыя гістарычныя даследаванні, бо ён захапляецца гісторыяй, а з некаторых часоў і творыць яе.

Я і сама, як гісторык па прафесіі, захапляюся вамі.

**З павагай, Алеся Жыткова**

**Ад рэдакцыі**

Дарагія чытачы, дасылайце нам тэмы ды ідэі артыкулаў, успаміны, сямейныя гісторыі (і нават рэцэпты!) на **history@nn.by**. А таксама падпісвайцеся, каб штомесяц гарантавана атрымліваць «Нашу гісторыю» ў паштовую скрыню.

# Як падчас паўстання 1863 года спрабавалі разбудзіць Расію




БІБЛІЯТЭКА УРУБЛЕЎСКІХ ЛІТОЎСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

Малюнак 1863 года, які сімвалізаваў **сяброўства і адзінства Літвы, Польшчы і Расіі.**

**Паўстанне 1863 года ў Польшчы, Беларусі і Літве не было чыста антырасійскім — інсургенты найперш выступалі супраць «подлага, рабаўнічага ўрада» Расійскай імперыі. Планавалася, што ў шэрагах паўстанцаў з'явіцца і «рускі легіён». Што выйшла з гэтай рамантычнай ідэі, піша Васіль Герасімчык.**

## Камітэт рускіх афіцэраў

Яшчэ нічога не было вырашана з паўстаннем, а ў гарадах і мястэчках былой Рэчы Паспалітай многія тысячы людзей збіраліся на набажэнствы і спявалі забароненыя песні, адзначалі важныя гістарычныя даты. У гісторыю гэты час увайшоў пад назвай «маніфестацыйны рух» — вось толькі яго ўдзельнікі, відаць, думалі не пра тое, каб увайсці ў гісторыю.

Уявіце: 1 ліпеня 1861 года з нагоды гадавіны Люблінскай уніі да Нёмана для сімвалічнага спаткання накіравалася да 5 тысяч чалавек з Польшчы, Беларусі і Літвы. А праз тры месяцы пад Гародлам на Люблітшчыне ў 448-ю гадавіну заключанай тут у 1413 годзе уніі паміж Каралеўствам Польскім і Вялікім Княствам Літоўскім сабралася больш за 10 тысяч чалавек, каб спяваць разам: па-польску, па-беларуску і па-літоўску. Менавіта тады падрыхтавалі зборнічак «Песні набожныя» на беларускай мове.

Царскі ўрад называў такія мерапрыемствы незаконнымі. Іх душылі войскам, удзельнікам прысуджалі штрафы і арышты,

былі нават забойствы. Бо адчувалі, што псіхалагічнае ўздзеянне ад падобных дэманстрацый закладае міну пад расійскае панаванне ў краі.

І са свайго боку ўлада мела рацыю: пад уплывам гэтага мірнага руху ўвосень 1861 года паўстала таемная арганізацыя нават унутры расійскага імперскага войска. За лічаныя месяцы яна аб'яднала больш за 200 чалавек, нязгодных з сілавымі метадамі ўласнага ўрада. Арганізацыя атрымала назву «Камітэт рускіх афіцэраў у Польшчы».

Пачынальнікам выступіў 20-гадовы паручнік Васіль Каплінскі, родам з мястэчка Халопенічы Барысаўскага павета. У 1860 годзе ён скончыў Артылерыйскую акадэмію ў Пецярбурзе, а падчас вучобы далучыўся да рэвалюцыйнага гуртка пад кіраўніцтвам Зыгмунта Серакоўскага і Яраслава Дамброўскага.

У Камітэце рускіх афіцэраў у Польшчы пераважалі ўраджэнцы былога Вялікага Княства Літоўскага. Збольшага гэта былі афіцэры ніжэйшага рангу. Па падліках савецкіх гісторыкаў, якія вызначылі рэлігійную прыналежнасць амаль 300 з 449 вядомых удзельнікаў арганізацыі, 59,2% сяброў камітэта былі каталікамі, 35,5% — праваслаўнымі, 4,5% — лютэранамі. А сярод найбольш актыўных удзельнікаў арганізацыі доля праваслаўных сягала 68%.

На пачатку 1862 года да кіраўніцтва таемнай афіцэрскай арганізацыяй у Каралеўстве Польскім далучыўся і сам Яраслаў Дамброўскі, які прыбыў са сталіцы імперыі на вайсковую службу. Сумесна з Каплінскім ён распрацаваў план узброенага паўстання, сэнс якога заключаўся ў падвойным удары вайсковымі злучэннямі на чале з афіцэрамі камітэта на Варшаўскую цытадэль і крэпасць Новагеоргіеўск (Модлін). А пасля паспяховага захопу сталіцы Польшчы планавалася распачаць фарміраванне рускіх рэспубліканскіх войскаў для пераносу паўстання ўглыб Расіі і пачатку сапраўднай рэвалюцыі.

### «Тры рускія пакутнікі»

Амбіцыйным планам здзейсніцца, аднак, было не суджана: улады сыгралі на апярэджанне. У лютым 1862 года камітэту быў нанесены нечаканы ўдар — жандары арыштавалі Васіля Каплінскага, у якога знайшлі сшытак з нелегальнай адозвай «Велікарус» і выпіскамі з артыкула Аляксандра Герцэна «З кім Літва?».

Каплінскі не ішоў на супрацоўніцтва са следствам. Аднак у 4-м стралковым батальёне пачаліся ператрусы і арышты. У выніку «за распаўсюджванне паміж ніжэйшымі чынамі крайне ▸

**Яраслаў Дамброўскі**

(1836–1871) — польскі і французскі рэвалюцыянер і вайсковы дзеяч. Нарадзіўся ў Жытоміры на Украіне, вучыўся ў Брэст-Літоўскім кадэцкім корпусе. Ваяваў у складзе расійскага войска на Каўказе, з 1859 года вучыўся ў Пецярбургу ў Мікалаеўскай акадэміі Генеральнага штаба. Там стаў адным з заснавальнікаў канспіратыўнага гуртка апазіцыйна настроеных афіцэраў.
У 1862 годзе прыехаў у Варшаву і кіраваў падрыхтоўкай да паўстання. Пасля яго задушэння прысуджаны да 15 гадоў катаргі, але ўцёк з маскоўскай турмы і здолеў выехаць за мяжу. Быў адным з лідараў польскай эміграцыі, спрабаваў ствараць польскія вайсковыя фармаванні. Стаяў на левых пазіцыях, таму ў 1871 годзе ўзяў актыўны ўдзел у дзеяннях Парыжскай камуны, быў камендантам Парыжскага ўмацаванага раёна і камандуючым войскамі заходняга сектара абароны Парыжа. Загінуў 23 мая 1871 года.




**Лагер расійскага войска ў цэнтры Варшавы.** 14 кастрычніка 1861 года ў Царстве Польскім было ўведзена ваеннае становішча.

шкодных ідэй, якія мелі мэтаю зварухнуць у іх дух адданасці і падпарадкавання законным уладам» 16 чэрвеня 1862 года ў Новагеоргіеўскай крэпасці былі расстраляныя тры афіцэры: Іван Арнгольт, Францішак Растоўскі і Пятро Слівіцкі, апошні з якіх заставаўся жывы нават пасля залпу 12-ці салдат і быў дабіты стрэлам з пісталета. Пасля гэтага расстраляныя афіцэры сталі ўспрымацца ў якасці «трох рускіх пакутнікаў».

На тым рэпрэсіі не спыніліся. Паручнік Станіслаў Абрамовіч атрымаў тры месяцы арышту і тры гады паліцэйскага нагляду, а шараговец Леў Шчур быў пакараны «шпіцрутэнамі, праз сто чалавек шэсць разоў» і на 12 гадоў сасланы на катаргу на руднікі. Васіль Каплінскі быў пазбаўлены дваранства і на 6 гадоў сасланы на катаргу на заводы. На радзіму ён ужо ніколі не вярнуўся, памёр 16 снежня 1884 года ў Томскай гарадской бальніцы.

## Эфект бумеранга

Смяротны прысуд удзельнікам Камітэта рускіх афіцэраў у Польшчы выклікаў хвалю тэрору супраць царскіх чыноўнікаў.

15 чэрвеня ў варшаўскім Саксонскім садзе ледзь не забілі намесніка цара Аляксандра Лідэрса, які зацвердзіў смяротны прысуд, а 21 чэрвеня стралялі ўжо ў прызначанага замест яго Канстанціна Мікалаевіча, брата імператара Аляксандра II.

26 ліпеня і 3 жніўня два замахі былі здзейсненыя на памочніка Канстанціна маркіза Аляксандра Веляпольскага. Урэшце сітуацыя стала настолькі трывожнай, што ў жніўні ў Польшчы было ўведзена ваеннае становішча, якое распаўсюдзілася таксама на Вільню, Гродна, Беласток і Брэст.

Па абвінавачанні ў замахах арыштавалі варшаўскіх рабочых Людвіка Ярашынскага і Яна Жоньцага, якіх павесілі 9 і 14 жніўня.

У расійскай афіцыйнай прэсе выканаўцаў замахаў называлі «ультракаталікамі». Аднак сапраўдным ініцыятарам гэтай хвалі тэрору быў 24-гадовы Андрэй Патабня (Потебня), які паходзіў з сям'і нашчадкаў запарожскіх казакоў, нарадзіўся ў Палтаўскай губерні і быў выпускніком Полацкага кадэцкага корпуса, дзе навучаўся адначасова з Мельхіёрам Чыжыкам з Мінска, будучым паўстанцкім камандзірам. Сам Патабня так ахарактарызаваў свой учынак у дачыненні да Лідэрса: «Я засадзіў яму ў галаву Арнгольта і Слівіцкага».

Менавіта Андрэй Патабня замяніў Васіля Каплінскага на чале Камітэта рускіх афіцэраў у Польшчы і працягнуў падрыхтоўку да паўстання, прызначанага на жнівень 1862 года. І тут неспадзяванка: кіраўнікі створанага ў Варшаве польскага Цэнтральнага нацыянальнага камітэта (ЦНК) пастанавілі перанесці дату ўзброенага паўстання — на нявызначаны тэрмін. Нягледзячы на гэта, Яраслаў Дамброўскі працягнуў рыхтаваць выступленне, але 14 жніўня быў арыштаваны.

### Шпіцрутэны

жаргонная назва цялесных пакаранняў, што шырока ўжываліся па ўсёй Еўропе: пакаранага праганялі праз шыхт салдатаў, якія білі яго лазінамі, вымачанымі ў салёнай вадзе, а пазней жалезнымі прутамі. У Еўропе пад уплывамі ідэй Асветніцтва з канца XVIII стагоддзя такія пакаранні забараняюць. У Расійскай імперыі дэ-юрэ іх скасавалі ў 1863 годзе, але на практыцы мясцовыя суды прызначалі аж да 1904 года.




### Андрэй Патабня

нарадзіўся ў небагатай шляхецкай сям'і на Палтаўшчыне (цяпер Сумская вобласць Украіны). У 1856 годзе скончыў Канстанцінаўскі кадэцкі корпус. Служыў падпаручнікам у Шлісельбургскім палку.
Быў адным з арганізатараў рэвалюцыйнага Камітэта рускіх афіцэраў, у чэрвені 1862 года зрабіў спробу забіць намесніка Царства Польскага Аляксандра Лідэрса, пасля чаго з'ехаў у Лондан. У лютым 1863-га вярнуўся ў Польшчу, каб узяць удзел у паўстанні.
Яго старэйшы брат, Аляксандр, класік сусветнага мовазнаўства, стаў членам-карэспандэнтам Пецярбургскай акадэміі навук (1875). З 1945 года яго імя носіць Інстытут мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук Украіны.

## «Не распусціцца ў польскай справе…»

Нелегальныя выданні, якія друкаваліся на тэрыторыі Расійскай імперыі, а таксама прывозіліся з Заходняй Еўропы, перш за ўсё з Лондана, дзе месцілася Руская вольная друкарня, ужо ў 1862 годзе сталі шмат пісаць пра будучы «рускі легіён». Шырокі распаўсюд атрымала пракламацыя рускага рэвалюцыйнага публіцыста

Мікалая Агарова «Што трэба рабіць войску?». 7 сакавіка адзін яе экзэмпляр выявілі ў Гродне ў салдата Кірыла Емельянюка.

Публіцысты былі перакананыя, што вызваленне Расіі ад самаўладдзя залежыць ад вызвалення Польшчы. Таму афіцэраў імператарскай арміі заклікалі не ўдзельнічаць у гвалце і задушэнні выступленняў: «Вы павінны стаць за іх, і толькі тады вы сваёй крывёй зможаце змыць з сябе плямы пакутніцкай крыві». У пракламацыі «Рускія афіцэры — салдатам рускіх войск у Польшчы» адзначалася: «Мы складзём вольныя дружыны і паспяшаемся ў Расію на дапамогу нашым».

Мікалай Агароў, натхнёны прыкладам Італіі, дзе дабіваліся поспеху паўстанцы Джузэпэ Гарыбальдзі, усё актыўней заахвочваў да стварэння ў Польшчы рускага рэспубліканскага войска на падставе таемных таварыстваў, арганізаваных Камітэтам рускіх афіцэраў: «Гэта хутчэй мірна-заваявальніцкі паход. Утвораныя таварыствы павінны прыняць кіраўніцтва над войскамі і весці іх, такім чынам, з усіх бакоў на Маскву і Пецярбург, усюды падымаючы народ на садзейнічанне і памнажаючыся прыбылымі добраахвотнікамі-ратнікамі, пакідаючы па дарозе вёскі і гарады зацвярджаць самім свой унутраны парадак з ліквідацыяй казённага чыноўніцтва і кідаючы заклік на агульны Земскі сабор».

### З пракламацыі «Што трэба рабіць войску?»

«А чаго хоча паляк? Волі! А чаго хоча мужык? Волі! Дык яны хочуць аднаго і таго ж — волі! І за што іх біць?»

Пасля правалу першапачатковага плана паўстання Андрэй Патабня ўсталяваў сувязі з рэвалюцыйнай арганізацыяй «Зямля і воля», якая ўяўляла сабой федэрацыю таемных гурткоў у 13-ці ці 14-ці расійскіх гарадах. Пецярбургскую яе суполку ўзначальваў Мікалай Уцін, сын купца-мільянера, будучы заснавальнік і кіраўнік рускай секцыі I Інтэрнацыянала, якія трапіў у таемныя аб'яднанні дзякуючы Віктару Каліноўскаму, брату Кастуся. «Зямля і воля» рыхтавала паўстанне сялян на вясну 1863 года, разлічваючы на дапамогу палякаў, і падтрымлівала сумесны лозунг «За нашу і вашу свабоду».

**«Зямля і воля» рыхтавала паўстанне сялян на вясну 1863 года, разлічваючы на дапамогу палякаў, і падтрымлівала сумесны лозунг «За нашу і вашу свабоду»**

Пры канцы верасня 1862 года ў Лондане адбыліся перамовы паміж удзельнікамі рускіх і польскіх таемных суполак. На прапанову Андрэя Патабні і Міхаіла Бакуніна ўсе пагадзіліся, што на базе той часткі рускага войска, якая далучыцца да польскага паўстання, будзе ўтвораны «рускі легіён». Пры першым жа зручным выпадку ён павінен пакінуць межы Польшчы і пад сцягам арганізацыі «Зямля і воля» ісці падымаць сялянства на тэрыторыі Расіі ў разліку на выкліканую грабежніцкім характарам аграрнай рэформы чарговую хвалю актывізацыі пратэставага руху вясною 1863 года.

Вынікам гэтай сустрэчы стаў ліст Герцэна «Рускім афіцэрам у Польшчы», дзе былі такія словы: «Вы павінны імкнуцца да таго, каб ваш саюз з Польшчай зварухнуў бы нашу земскую справу. Не распусціцца ў польскай справе, а захаваць сябе ў ёй дзеля рускай справы».

### «Хто выратуе Расію?» — «Войска!»

Расійскі ўрад, занепакоены ростам таемных суполак і радыкалізацыяй моладзі, вырашыў дзейнічаць на апярэджанне — і 6 кастрычніка абвясціў пра рэкруцкі набор. У войска намерыліся забіраць моладзь, якая лічылася нядобранадзейнай: каля 12 тысяч чалавек.

Пад уплывам гэтай навіны лідары варшаўскага ЦНК вырашылі паскорыць падрыхтоўку паўстання. Дату пачатку рэкруцкага набору яшчэ ніхто не ведаў, але цяпер менавіта яна была запланавана як дата пачатку паўстання.

Расійскі публіцыст-рэвалюцыянер Аляксандр Герцэн лічыў такую паспешлівасць страшнай памылкай: «Праз 2–3 гады рэкруты праймуцца духам волі; яны паўсюль, дзе б ні апынуліся, далучацца да супольнай справы. Калі вы... зробіце інакш, вы паведзяце гэтых небарак на пагібель, як жывёл, і спыніце рух у Расіі яшчэ на паўстагоддзя; ▸

што ж датычыць Польшчы, то ў кожным разе вы яе незваротна згубіце».

5 лістапада 1862 года ў Лондане была выдадзена новая пракламацыя — «Афіцэрам рускіх войскаў ад Камітэта рускіх афіцэраў у Польшчы»: «Мы не хочам быць ка́тамі... Вы бачыце, што для нас выбару няма: мы далучымся да справы волі. Мы аб'явім, што рускі народ узносіць сцяг вызвалення, а не падпарадкавання славянскіх плямён. Мы не зганьбім рускага племені працягам грахоў пецярбургскага імператарства: лепш падзем ахвяраю ачышчэння, ахвяраю выкуплення... "Хто выратуе Расію?" — "Войска!"».

Яшчэ праз месяц у Пецярбургу адбылося афіцыйнае замацаванне саюза паміж польскімі і рускімі прыхільнікамі сілавога спосабу скасавання самадзяржаўя ў Расійскай імперыі. Спецыяльная дамова з шасці пунктаў, складзеная па-французску, абвяшчала пра стварэнне Камітэта свабоднай Расіі, незалежнае становішча «рускага легіёна» ў Польшчы і матэрыяльную дапамогу яму. Рускі бок намагаўся адтэрмінаваць выступленне на вясну 1863 года і абяцаў «дзейсную дыверсію» ў Паволжы.

Цяпер належала наладзіць узаемаадносіны паміж рускімі афіцэрамі і прадстаўнікамі варшаўскага ЦНК у гарадах. Планавалася нават стварыць адзін цэнтр на чале з Патабнёю і Зыгмунтам Падлеўскім, адным з лідараў варшаўскіх чырвоных, для каардынацыі баявых дзеянняў. Але гэтая гранічна важная праца так і не была зроблена.

У студзені 1863 года пачаўся рэкруцкі набор — і разам з ім было абвешчана паўстанне.

## З маніфеста аб пачатку паўстання Марыі Ільніцкай

А зараз мы звяртаемся да цябе, маскоўскі народ! Наш традыцыйны пароль — воля і братэрства народаў. Таму мы даруем табе нават забойства нашай Айчыны, даруем нават кроў Прагі і Ашмянаў, гвалту на вуліцах Варшавы і катаванні ў цытадэльных падзямеллях. Даруем табе, бо і сам ты, — бедны і забіты; трупы тваіх дзяцей гайдаюцца на царскіх шыбеніцах, пракрокі твае мерзнуць у снягах Сібіры. Але калі ты ў гэты рашучы момант не адчуеш унутры сябе згрызоты за мінулае, не пачуеш святой прагі аб лепшай будучыні, калі ў нашай барацьбе ты будзеш дапамагаць тырану, які нас забівае, а цябе топча, то — гора табе! Бо мы, перад аблі́ччам Бога і ўсяго свету, зрачэм цябе на ганьбу вечнага падданства і вечныя пакуты рабства; мы выклікаем цябе на страшны бой знішчэння, апошні бой еўрапейскай Асветы з дзікім Варварствам Азіі!

## Удар па аднадумцах

Падзеі ў ноч з 22 на 23 студзеня сталі сапраўднай неспадзяванкай для пераважнай большасці сяброў Камітэта рускіх афіцэраў у Польшчы. Толькі некаторыя з іх ведалі пра пачатак выступлення і месца збору.

На паперы ўсё было гладка, але на справе прызначаныя польскай паўстанцкай арганізацыяй кіраўнікі не жадалі ісці на супрацоўніцтва з рускімі афіцэрамі. Уявіце: на поўдні Польшчы, у Кельцах, расійскі афіцэр Дабрагоўскі з пачаткам паўстання вывеў з горада на дамоўленае месца некалькі соцень салдат, але паўстанцы на чале з Апалінарыем Куроўскім проста адмовіліся ад іх дапамогі.

Яшчэ горш тое, што палякі нанеслі ўдар па гарнізонах, дзе было нямала тых, хто спачуваў паўстанцкай справе. Бакунін адносна гэтага адзначаў: «Цэнтральны камітэт у Варшаве, які спачатку, здавалася, быў схільны да саюзу з рэвалюцыйнай партыяй у Расіі і вельмі разлічваў на спачувальны настрой войскаў, размешчаных у Польшчы, здаецца, у апошнюю крытычную хвіліну зусім змяніў думку і, не давяраючы станоўчым і дастаткова грунтоўным запэўніванням нашых афіцэраў, здаецца, паверыў, што разлічваць на дапамогу рускіх войскаў было б глупствам, а што трэба карыстацца іх маральным узрушэннем і ваганнем, каб нечакана напасці на іх і абяззброіць». У выніку з 24 атак на гарнізоны адносным поспехам завяршыліся толькі 6. Ды і тое ўжо на наступны дзень занятыя гарады і мястэчкі былі пакінутыя.

Царскія ўлады тым часам не спалі. Яны неадкладна распаўсюдзілі чуткі, што паўстанцы лютуюць і не шкадуюць нават палонных. Як вам, прыкладам, такая навіна: 23 студзеня натоўп сялян на чале


KOMITET CENTRALNY

JAKO TYMCZASOWY

Rząd Narodowy.



**Маніфест аб пачатку паўстання.**

з ксяндзом Пякарскім напаў на горад Сураж Беластоцкага павета — і іх ахвярамі сталі «радавыя Сяргей Іваноў і Сіла Андрэеў і барабаншчык Васіль Кузьмін, з якіх першым адрэзаныя былі языкі і запхнутыя ім жа за партупеі, а апошняму выразаныя былі дзетародныя часткі і пакладзеныя яму ж у кішэні шаравараў; ва ўсіх трох былі разбітыя чарапы і ў двух абрэзаныя насы і губы».

Пасля такіх апісанняў афіцэрам, якія, можа, і былі прыхільнікамі рэвалюцыйнай справы, схіліць салдат да ўдзелу ў паўстанні было фактычна немагчыма. Таму некалькі соцень з іх самастойна далучыліся да паўстанцкіх атрадаў. Ці можна было ў такіх умовах спадзявацца стварыць «рускі легіён»?



**Міхаіл Бакунін** — расійскі рэвалюцыянер, тэарэтык анархізму, ідэолаг рэвалюцыйнага народніцтва.

**«Адзін факт існавання рускага легіёна каштаваў бы некалькіх перамог на полі бою»**

## 42 тысячы падробных маніфестаў

І тым не меней Бакунін працягваў нагадваць ЦНК пра патрэбу ў такой вайсковай адзінцы і прапаноўваў сваю дапамогу, адзначаючы, што толькі калі да паўстанцаў далучыцца значная колькасць расійскіх вайскоўцаў, да барацьбы супраць самадзяржаўя можна будзе прыцягнуць і сялян.

«Адзін факт існавання легіёна каштаваў бы некалькіх перамог на полі бою», — піша Бакунін з Лондана. Але першы дыктатар паўстання Людвік Мераслаўскі быў праціўнікам такіх ідэй.

Тым часам у Польшчу проста з Лондана едзе Андрэй Патабня — з надзеяй хоць неяк паспрыяць стварэнню так неабходнага «рускага легіёна». У другой палове лютага ён быў ужо ў атрадзе Мар'яна Лангевіча ў раёне Пескавой Скалы непадалёк ад Кракава. «Я наважыўся застацца тут. Надзеі зрабіць што-небудзь мала; паспрабуем. Ваш А. П.», — піша ён да Герцэна і Агарова.

У ноч з 4 на 5 сакавіка 1863 года Патабня ўзяў удзел у сутычцы на ўскраіне мястэчка Скала, дзе змагаўся шараговым касінерам.



WIKIMEDIA COMMONS

**Бітва пад Пескавой Скалой** у сакавіку 1863 года, у якой загінуў Андрэй Патабня.

Падчас атакі ён быў смяротна паранены. Ягонымі апошнімі словамі была фраза: «Дай вам Бог поспеху ў барацьбе супраць тыранаў».

Апошняй спробай арганізацыі «рускага легіёна» сталі падзеі ў Казані ў красавіку 1863 года, адкуль планавалі падняць паўстанне ў Паволжы, каб захапіць размешчаны непадалёк Іжэўскі ружэйны завод, распаўсюдзіць выступленне на Урал і Дон, а затым злучыцца з паўстаннем на захадзе. Дзеля гэтага рэвалюцыйная арганізацыя ў Вільні знайшла грошы — і накладам у 42 тысячы быў надрукаваны падробны царскі маніфест. Але адзін з удзельнікаў «Казанскай змовы» данёс на таварышаў. У выніку пяцёра чалавек былі расстраляныя, а яшчэ 31 адпраўлены за краты або на катаргу.

«Рускі легіён» так і не паўстаў. Спадзяванні рускіх рэвалюцыянераў, выхаваных на прыкладзе дзекабрыстаў, былі разбітыя аб суровую рэчаіснасць. Войска, у тым ліку і шматнацыянальны афіцэрскі корпус, у пераважнай большасці сваёй засталося верным імперыі. ◆



На сваім надмагільным помніку на Усходніх могілках Мінска Крапіва нагадвае Ювенала, у лаўровым вянку.

# Трэці народны

**Вечна змрочны, пахмурны стары, які спіць у прэзідыумах і вагаецца разам з лініяй партыі. Такі стэрэатып Кандрата Крапівы склаўся на фоне партрэтаў старога чалавека, які пражыў рэдкасныя для XX стагоддзя 95 гадоў. Але рэальнасць была іншай. Гэты чалавек першыя дзве трэці жыцця прайшоў «між кропелькамі». Крок туды, крок сюды — гібель. Да таго ж, трагічнае асабістае — смерць траіх дзяцей. Крапіва адкрываў сваю асабістую ракавіну рэдка, але тыя, каму ён адкрываўся, бачылі зусім іншага чалавека, піша кандыдат філалагічных навук Павел Навуменка.**

## Нестабільнасць і хісткасць

Першымі беларускімі літаратарамі, уганараванымі званнем «Народны паэт БССР», сталі ў 1925 і 1926 гадах Янка Купала і Якуб Колас. Само званне тады юрыдычнага статусу, праўда, не мела — абодвум песнярам толькі прысвоілі 17-ы, найвышэйшы, клас дзяржаўнага служачага і сталі плаціць адпаведны гэтаму класу штомесячны аклад.
А ў 1956 годзе званне «Народны пісьменнік БССР» атрымала



ФОТА ВАЛЯНЦІНЫ АНДРЭЕВАЙ

афіцыйны статус і было нарэшце прысвоена зноў. Уганараваным стаў Кандрат Крапіва.

Сёння, калі савецкая літаратура ўспрымаецца ўжо як нешта далёкае, такі выбар здаецца цалкам заканамерным. Літаратурная біяграфія Кандрата Крапівы — даволі саладжавы міф, які мае мала дачынення да рэчаіснасці, але сфарміраваны бясконцым тыражаваннем у школьных і ўніверсітэцкіх падручніках.

Гэты міф з вобразам быццам бы сатырыка, але ручнога, выклікаў і выклікае натуральнае адпрэчванне. І вось ужо нехта з новага пакалення малюе вечна змрочнага, пахмурнага старога, які паціху храпе на пасяджэннях, форумах і з'ездах і баіцца слова сказаць насуперак устаноўкам зверху.

«Герой Сацыялістычнай Працы, народны пісьменнік Беларусі, доктар філалагічных навук, акадэмік Акадэміі навук БССР, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР некалькіх скліканняў, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і БССР ...». Мноства званняў, прэмій і ўзнагарод будуць найлепшым доказам просталінейнаму падыходу: аблашчаны ўладай — значыць, нічога літаратурна вартага не мог стварыць па змаўчанні. І ці можа ў прынцыпе сумяшчацца такая ўганараванасць з нейкай самастойнасцю на літаратурным полі?

Аднак пры ўважлівым аналізе біяграфіі Кандрата Крапівы заўважна, што «паспяховая» кар'ера гэтага аўтара, калі меркай поспеху лічыць пасады, прэміі і ўзнагароды, пачалася толькі пасля Другой сусветнай вайны. А да гэтага часу, то-бок прыблізна да 50-годдзя, характэрнымі рысамі біяграфіі Крапівы будуць хутчэй нестабільнасць і хісткасць.

Характэрна, што пасля трыумфальнага паказу ў Маскве камедыі «Хто смяецца апошнім» у 1939 годзе Кандрату Крапіве за праяўленую літаратурную адвагу ў разгар рэпрэсій супраць літаратуры і пісьменнікаў у даважку да ордэна Леніна ўручылі і мабілізацыйную позву — яго, як кадравага афіцэра, адпраўлялі на сумна вядомую сваімі непамернымі стратамі асабовага складу савецка-фінскую вайну. Камандзірам кулямётнай роты. Інакш кажучы, яму быў выпісаны ордар на геройскую смерць. Але ён выжыў.

## Чаму Крапіва?

Галоўнай прычынай з'яўлення ў 1956 годзе новага «народнага пісьменніка» была патрэба ▸

**Кандрат Крапіва**
(сапр. Кандрат Кандратавіч Атраховіч, 1896–1991), ураджэнец невялікай вёскі Нізок Уздзенскага раёна, з якой, апрача яго, выйшлі яшчэ паэт Паўлюк Трус і пісьменніца Лідзія Арабей. Да Першай сусветнай вайны паспеў, адвучыўшыся ў гарадскіх вучылішчах у Стоўбцах і Койданаве, здаць экстэрнам экзамен на званне народнага настаўніка і год папрацаваць у Мнішанах на Валожыншчыне. Пасля ваяваў, у 1-й палове 1920-х настаўнічаў на роднай Уздзеншчыне.

У 1925 годзе пераехаў у Мінск, скончыў БДУ. Працаваў у Інбелкульце, рэдакцыях газет. Быў сябрам літаратурных аб'яднанняў «Маладняк» і «Узвышша».

Пасля Другой сусветнай вайны зрабіў кар'еру ў навуковай сферы, быў дырэктарам Інстытута мовазнаўства, віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук БССР, акадэмікам. Акадэмічныя слоўнікі беларускай мовы, якія выкарыстоўваюцца і дагэтуль, выходзілі пад ягонай рэдакцыяй і часта асацыююцца менавіта з ім.

Першы верш апублікаваў у 1922 годзе і працягваў пісаць да 1980-х. У асноўным ягонае імя вядомае па шматлікіх байках, большасць якіх напісаная яшчэ да вайны («Дыпламаваны баран», «Ганарысты парсюк», «Жаба ў каляіне», «Сука ў збане» і многія іншыя), а таксама па драматургічных творах («Хто смяецца апошнім», «Брама неўміручасці» і інш.)

▶ ў рэпрэзентатыўнасці, стварэнні ілюзіі знешняга дабрабыту ў беларускай савецкай літаратуры. Янкі Купалы на той момант не было ўжо чатырнаццаць гадоў, Якуб Колас, слабы здароўем (26 пнеўманій у апошнія гады жыцця) і адкрыта стомлены да таго часу ад свайго нялёгкага жыццёвага і літаратурнага лёсу, на ролю парадная фігуры ў «вітрыне літаратуры» ўжо не падыходзіў. Ды, зрэшты, неўзабаве і памёр. Але і дапусціць нават думкі пра заняпад, пра тое, што цяпер ужо няма каму з беларускай літаратуры «трымаць ранейшую планку», было нельга.

Дарэчы, партыйны апарат на працягу ўсёй савецкай эпохі выразна аддзяляў сапраўды значных літаратараў ад другарадных. Сярод народных пісьменнікаў Беларусі другарадных літаратараў практычна няма. Годны творца мог па нейкіх прычынах і не трапіць у лік «абраных», але пасрэднасць вельмі рэдка ўдастойвалася месца ў пантэоне.

Чаму ж у 1956-м на ролю новага народнага быў абраны менавіта Крапіва? Тады, на фоне хрушчоўскай адлігі, напэўна, было цалкам магчыма дараваць Крапіве яго колішнюю літаратурную дзёрзкасць і незалежнасць, смеласць камедыі «Хто смяецца апошнім» (той, якую сам Панцеляймон Панамарэнка рэдагаваў-рэдагаваў, ды не дарэдагаваў), недапушчальны смех, які мяжуе з адкрытым «сцёбам» у ацэнцы савецкай сістэмы і яе функцыянераў у бліскучым «Мілым чалавеку», забароненым пасля пастаноўкі ў 1946 (!) годзе, ды так і не вернутым пасля на сцэну, не кажучы ўжо пра «грубыя памылкі і зрывы» ўзвышэнскага перыяду.



З сям'ёй.

Другой прычынай было, хутчэй за ўсё, тое, што дзесьці ў тагачасных вярхах палічылі: непакорлівы сатырык і камедыёграф утаймаваны і ўжо не даставіць асаблівых непрыемнасцяў. Толькі закрытыя сёння архівы, магчыма, раскажуць, наколькі сур'ёзнай была «прапрацоўка» Кандрата Крапівы пасля прэм'еры «Мілага чалавека». Але ў тым, што яна была сапраўды жорсткай, няма ні найменшага сумневу: дзесяць гадоў пасля той злашчаснай прэм'еры ён будзе пісаць бяззубыя і безаблічныя п'есы, у якіх мала чаго засталося ад ранейшай з'едлівасці.

Зрэшты, падобнае можна сказаць бадай пра кожнага са значных пісьменнікаў савецкай пары. Савецкая сістэма ўтаймоўвала кожнага па-свойму, але выключэнняў з правілаў сярод народных практычна няма. Амаль у кожнага ёсць працяглыя перыяды творчага застою, заняпаду, а то і маўчання.

### Фенаменальная жывучасць

Адной з галоўных якасцяў Кандрата Крапівы можна лічыць яго фенаменальную — у самым прамым сэнсе слова — жывучасць. Ён пражыў на гэтым свеце вельмі шмат, амаль 95 гадоў, і жыў, можна сказаць, адзін за ўсю сям'ю. З васьмі старэйшых братоў і сясцёр Кандрата Атраховіча сямёра памерлі ў дзяцінстве — выжыла, акрамя яго, толькі адна сястра.

**Кандрата назвалі Кандратам у гонар бацькі**: у старыя часы ў гэтым была народная варажба на жыццё. Так рабілі, калі старэйшыя дзеці ў сям'і паміралі.

**З васьмі старэйшых братоў і сясцёр Кандрата Атраховіча сямёра памерлі ў дзяцінстве**

І ў сталым узросце было шмат магчымасцяў да пары скласці галаву. Крапіва непасрэдна

ўдзельнічаў у чатырох войнах: Першая сусветная ў 1915–1918 гадах; Грамадзянская ў 1920–1922; савецка-фінская ў 1939–1940, Другая сусветная ў 1941–1942 гадах. У апошняй, праўда, ён быў ужо не пяхотным ці кавалерыйскім афіцэрам або камандзірам кулямётнай роты, як у папярэдніх, а франтавым карэспандэнтам. Відавочна, што экзістэнцыйныя праблемы ў біяграфіі Крапіве даводзілася вырашаць на тым базавым узроўні, без якога ўсе наступныя не маюць сэнсу.

Да гэтага трэба яшчэ дадаць рознабаковую адоранасць і прыроджаную адвагу. Залічаны на пачатку Першай сусветнай вайны ў школу прапаршчыкаў, выпускнік народнага вучылішча Кандрат Атраховіч паспяхова яе скончыць і будзе пры ёй жа на кароткі час пакінуты як выкладчык для наступных навабранцаў. А адпраўлены неўзабаве на аўстра-венгерскі ўчастак фронту, у армію легендарнага генерала Аляксея Брусілава, ён і там сябе праявіць як бліскучы франтавы пяхотны афіцэр, стаўшы георгіеўскім кавалерам і за пару гадоў даслужыўшыся да самага высокага сярод беларускіх пісьменнікаў звання — штабс-капітана.

**У 1915–1918 — на імперыялістычнай вайне.** Скончыў Гатчынскую школу прапаршчыкаў, быў узводным афіцэрам у вучэбнай частці ў горадзе Асташкаў, што каля возера Селігер у Расіі. У Асташкаве Кандрат Атраховіч закахаўся ў купецкую дачку Кацярыну Абакшыну, але бацька загадаў ёй ісці замуж за другога. Ужо старымі людзьмі Кандрат і Кацярына знайшлі адно аднаго і да 90 гадоў перапісваліся.



**1916 год.**

Пасля гэты розумам, адвагай і крывёй заслужаны будучым пісьменнікам немалы афіцэрскі чын разам з Георгіеўскімі крыжамі прынясе яму нямала непрыемнасцяў — нядобрае «афіцэр — залатыя пагоны» не-не, ды і прамільгне ў водгуках «добразычліўцаў» у перадваенны час, а а вобраз легендарнага Тулягі з камедыі «Хто смяецца апошнім», якога авантурыст Гарлахвацкі шантажуе і выкарыстоўвае тым, што ён нібыта падобны да знаёмага яму ў мінулым дзянікінскага палкоўніка, — непасрэдная адсылка да ўласнай біяграфіі аўтара.

## За асабістую мужнасць на Брусілаўскім фронце ён стаў георгіеўскім кавалерам

Я пытаўся ў яго пра крыжы — глянуць хоць адным вокам на залатога афіцэрскага «георгія» было б цікава. Як і паглядзець на маладога Крапіву ў вайсковай форме штабс-капітана, з шашкай





**Каця і Кандрат.** Малюнак Анатоля Александровіча.

▶ і ордэнамі на парадным мундзіры. Крапіва толькі ўсміхнуўся з маёй неразумнасці. Знойдзеныя пры ператрусе, такія фотаздымкі і рэгаліі самі па сабе ўжо азначалі смяротны прысуд: маўляў, захоўваеш, чакаеш, што вернуцца паны... Таму са здымкаў Крапівы ў Першую сусветную мне знаёмы толькі адзін — курсант школы прапаршчыкаў у сціплым мундзіры.

## Крапіва ваяваў на чатырох войнах: Першая сусветная, Грамадзянская, савецка-фінская і Другая сусветная

«Хісткасць» становішча Крапівы вынікала не толькі з палітычных альбо грамадскіх абставін, а перш за ўсё з сукупнасці сямейных «парываў» і «пераваротаў». Пасля ранняй смерці маці і новага шлюбу бацькі Крапіва згубіў ролю спадчынніка, будучага гаспадара і карміцеля сям'і, а разам з гэтым — раней цалкам відавочныя перспектывы тыповага

**Па вяртанні з фронту Кандрат ажаніўся з Аленай Махнач** — яе сям'я пераехала ў Нізок з вёскі Замосце пасля таго, як там згарэла іх хата. Кандрат і Алена пражылі больш за 40 гадоў (жонка памерла ў 1964 пасля цяжкай хваробы). Кандрат перажыў жонку на два з паловай дзясяткі гадоў. Трое з чатырох яго дзяцей памерлі ці загінулі пры яго жыцці.

**Кандрат Крапіва не дзяліўся нават з дзецьмі, за што канкрэтна атрымаў узнагароды на «царскай вайне».** У аўтабіяграфіі пра баі з вялізнымі чалавечымі ахвярамі на Румынскім фронце напісаў лаканічна: «Там я ўпершыню атрымаў баявое хрышчэнне, не раз бываў у сур'ёзных пераплётах, зусім не ведаючы, што гэта толькі кветачкі і што наперадзе яшчэ не адна вайна і не адзін пераплёт».

сялянскага лёсу. Ён вымушаны быў вызваліць раней законнае месца ў бацькоўскай гаспадарцы і паспрабаваць забяспечваць сябе самастойна.

Цалкам неабходнае дзеля ўсяго гэтага новае канструяванне ўласнай біяграфіі завершыцца пасля дванаццаці гадоў «часовых» станаў пераездам у пачатку 1925 года ў Мінск. Толькі з гэтага часу ў траекторыі Крапівы з'явіцца выразна накіраваны вектар: паралельна з літаратурнай працай ён, ужо трыццацігадовы



Жонка **Алена Канстанцінаўна.**

пісьменнік, у 1926 паступіць ва ўніверсітэт, які скончыць ў 1930 годзе.

## Крапіва быў фенаменальна жывучы. Унікальная жыццёвая сіла адчувалася ў ім нават пасля 90 гадоў

### За межы дазволенага

Уварваўшыся на літаратурны небасхіл у пачатку 1920-х (імпульсам для тагачаснага камандзіра кавалерыйскага эскадрона Чырвонай арміі паслужылі прачытаныя ў газеце гумарыстычныя вершы на роднай мове), Крапіва хутка стане вядомым і папулярным аўтарам на старонках літаратурнай перыёдыкі.

Запісаўшыся ў пралетарскі па духу «Маладняк», ён літаральна на каленцы штодня складае вострыя, дзёрзкія, часам вульгарныя вершы і байкі на надзённыя тэмы. Ад яго дастаецца і сусветнай буржуазіі, і кансерватыўнай беларускай вёсцы, і старэйшаму пісьменніцкаму пакаленню (нашаніўцам або адраджэнцам), і сабратам па літаратурным цэху — маладнякоўцам, і кулаку, і вясковай моладзі, і «пралетарскаму» гораду ды яго забавам, і тэатру, і балету, і г. д., і да т. п.

Гэтая яркая паэзія, якая дэманструе выдатнае валоданне народнай мовай і гэтую ж мову бліскуча мадэрнізуе ўжо для ролі літаратурнай, часам — падкрэслена агітацыйная,


З дэлегатамі «Маладняка». 1925 год.

часам — несправядлівая (аўтару даводзілася праз пару гадоў дапісваць прабачэнні ў сам тэкст верша, напрыклад, Янку Купалу ў вершы «Янкавы казкі»), на жаль, амаль уся сышла за літаратурны гарызонт і для сучаснага чытача — школьнага ці нават універсітэцкага — практычна недаступная.

Крапіва наўмысна не ўключаў многае з ранняй паэзіі (як і навелістыкі) 1920-х ні ў адзін збор твораў, а тое, што ўключаў, — рэдагаваў і прыгладжваў, часам перапрацоўваючы да непазнавальнасці. Яго можна зразумець: многія вершы і апавяданні, напісаныя ім у тую эпоху, у пазнейшыя часы цалкам цягнулі на абвінаваўчую частку прысуду суровага пралетарскага суда або сумна вядомай «тройкі».

Падпарадкоўваючыся інстынкту сапраўднага сатырыка, Крапіва яшчэ ў маладнякоўскі перыяд часта выходзіў далёка за рамкі дазволенага ў тую пару. Напрыклад, у вершы «Пралетарый і буржуй. Блытаніца паняццяў» буржуй — гэта змардаваны селянін у даматканай світцы, з чорнымі мазольнымі рукамі: ён — уласнік, у яго ёсць лапік поля, хата з крывой саламянай страхой, конь, карова, пара свіней і жонка з паўтузінам дзяцей у дадатак. А пралетар — укормлены гарадскі чыноўнік у пінжачнай пары, з залатым гадзіннікам-цыбулінай і самазадаволенай мордай — у яго, бачыце, нічога няма ва ўласнасці, толькі сціплая зарплата дзяржслужачага.

Архіўныя матэрыялы, з якіх можна было б меркаваць пра літаратурны рынак Беларусі першай траціны XX стагоддзя, чытацкія перавагі, пісьменніцкія поспехі і папулярныя кнігі, сведчаць пра аглушальную тагачасную папулярнасць тоненькіх паэтычных зборнікаў Кандрата Крапівы. Для паэзіі гэта наогул рэдкасць, а для сялянскай, а гэта значыць скупавата-прыжымістай, тагачаснай Беларусі — феномен. Многія кароткія эпіграмы і вершы ▶

**Першая літаратурная спроба была па-руску**, яшчэ пры цару — даслаў вершы ў часопіс «Жизнь для всех» — адтуль адказалі, што творы не маюць мастацкай вартасці. Пасля гэтага Крапіва 8 год не пісаў. Здаўшы экстэрнам іспыт на народнага настаўніка, год працаваў у вёсцы Мнішаны пад Пяршаямі.

## Балет

Першы раз, як жыў на свеце,
Быў я ўчора на балеце,
Дык няхай яго з балетам!
Нежывога разбярэ там:
Як пакажа штукі ўсе,
Дык аж трасца затрасе.
Сеў я гэта й жду балета.
Тут як выскачыць кабета,
А на ёй дык (вось фасон!)
Не спадніца — парасон,
Ногі голыя і рукі
І — давай паказваць штукі:
Як павернецца бачком,
Як закруціцца ваўчком, —
Без касцей кабета, здэцца,
Як нагнецца ды мігнецца,
Ды пакажа сцегнякі, —
Аж вар'ююцца дзядзькі.
Цётка ж добрая не скупа:
Як заголіцца да пупа,
Як падыме йшчэ нагу,
Дык сказаць я не магу,
Што тут робіцца з дзядзькамі:
Плешчуць, ляскаюць рукамі,
Лямантуюць — «брава»! «біс»! —
Нібы іх кусае гіз.
А кабета — ножку вышай
І ў паветры кола піша
Так прынадна над партнёрам,
Аж... глядзець нек стала сорам.
Тут сусед мой — дзядзька гладкі —
Годзе ўжо даваць у ладкі,—
Ў захапленні выгнуў спіну
І, пусціўшы з рота сліну,
Небарака аж зароў,
Як бугай той да кароў.
Але тая маладзіцца,
Як стрыгунка-жарабіца,
Падбрыкнула ды бягом.
Ёй жа сыплюцца ўздагон
«Біс», і воплескі, і «брава», —
Не на жарты ўсіх забрала.

▶ сатырыка, той жа «Балет», сталі своеасаблівай народнай паэзіяй і яшчэ ў 1980-я пераказваліся бабулямі і дзядулямі ўнукам — і на вёсцы, і ў горадзе.

### «Камуфляжная» стратэгія

Крапіва даволі хутка развітаецца з «Маладняком» і стане адным з заснавальнікаў «элітнага» «Узвышша». Кароткае пяцігадовае знаходжанне ў ім стане, напэўна, самым шчаслівым і плённым перыядам у яго пісьменніцкім жыцці. У гэты час з яго творчасці сыдзе траскучая агітацыйнасць, а аб'ектам яго бліскучай сатыры робіцца ўжо не толькі вёска з яе мужыком.

Менавіта ва «Узвышшы» Кандрат Крапіва засяродзіцца ў паэзіі на байцы, а ў прозе — на сатырычным апавяданні. Менавіта ў гэтых жанрах напоўніцу праявілася дамінантная рыса ягонай творчасці — глядзець на жыццё і на падзеі з пазіцыі мужыка, сялянскага свету, светапогляду і філасофіі. Гэта было не зусім сучасна з пазіцый нават галоўных ідэолагаў «Узвышша», Уладзіміра Дубоўкі і Адама Бабарэкі. Але вясковы свет у часы «Узвышша» складаў 85% насельніцтва Беларусі, а наперадзе маячыў недалёкі ўжо «вялікі пералом», які назаўжды зламаў хрыбет вясковай Беларусі.

Узвышанскія апавяданні Крапівы бліскучыя, але амаль невядомыя шырокаму чытачу. Многія з іх («Кляса», «Падарожнае», «Вось тут і пішы») так і не выйшлі за рамкі часопіснай публікацыі, а многія пасля былі перароблены да непазнавальнасці («Хвост», «Ідэі»). Але нават тыя, што ў больш ці менш першапачатковым выглядзе ўвайшлі ў ягоны збор твораў, даюць уяўленне пра іх арыгінальнасць і літаратурны ўзровень («Людзі-суседзі», «Мой сусед», «Певень»). У гэтых апавяданнях Кандрат Крапіва прымудраецца ствараць «выяву ў выяве», рабіць падтэкст роўным самому тэксту, усяляк адасабляючыся, як аўтар, ад аб'екта і суб'екта апавядання. Пісьменнік, па сутнасці, стварае тую «камуфляжную» стратэгію, якая дазволіла яму пазней вывесці на тэатральныя падмосткі п'есы, неймаверныя з пункту гледжання савецкай ідэалагічнай машыны, і заплаціць за гэта меншую цану, чым многія яго таварышы па «Узвышшы».



«ЗВЯЗДА», ЯЎГЕН ПЯСЕЦКІ

**Рабочы стол у музеі Узды.**

**«Маладняк» і «Узвышша»**
літаратурныя аб'яднанні, якія існавалі ў БССР у 1920-я гады.

«Маладняк» узнік у лістападзе 1923 года як гурток маладых паэтаў пры аднайменным часопісе. Ставіў сабе за афіцыйную мэту «ідэі матэрыялізму, марксізму і ленінізму ажыццявіць у беларускай мастацкай творчасці». Часта маладнякоўцы супрацьпастаўляліся старэйшаму пакаленню літаратараў, знаходзіліся ў пошуках новых формаў творчасці, нярэдка перабіраючы ў гэтым меру.

«Узвышша» вылучылася з «Маладняка» ў траўні 1926 года, яго заснавальнікі пастулявалі ў сваёй дзейнасці развіццё традыцый нацыянальнага адраджэння і творчае выкарыстанне навацый сусветнай мастацкай культуры.

## Крапіва быў майстрам «камуфляжнай» стратэгіі



Хрэстаматыйны прыклад — апавяданне «Вось тут і пішы», адзін з самых выдатных твораў малой прозы 1920-х гадоў. Крапіве ўдаецца «ўпіхнуць» у невялікі і вельмі яркі аповед пра адносіны ўздзенскага канакрада

**«Біблія» — першая паэма Крапівы, апублікаваная ў 1926 годзе.** У паэме ў парадыйным святле пераказвалася Біблія. У эпоху бязбожніцтва і змагання з рэлігіяй займела шырокую папулярнасць. Антырэлігійныя вершы, парадыйныя малітвы — цэлы раздзел творчасці Крапівы 1920–1930-х. Ці было ягонае бязбожніцтва вынікам жахаў Першай сусветнай і Грамадзянскай войнаў? Магчыма.

Янкі і скупшчыка крадзенага Янкеля шматпланавую і вельмі актуальную ва ўсе часы тэму: пра што пісаць, як пісаць, для каго пісаць. І, нарэшце, пасля высвятлення гэтых вечных праблем літаратуры, — як не патрапіць у жорны савецкай ідэалагічнай машыны, з якой жарты дрэнныя...

Недапісаны раман «Мядзведзічы» стаў апошнім значным празаічным творам Крапівы, пасля публікацыі якога і наступнай халоднай ацэнкі крытыкі ён, па яго ўласных словах, назаўжды пакінуў прозу і сышоў у драматургію, дзе справы яго пайшлі нашмат больш паспяхова. «Мядзведзічы» — раман-хроніка, у якім, нягледзячы на досыць сціплы аб'ём, аўтару ўдалося змясціць пятнаццаць гадоў жыцця вёскі Мядзведзічы і спыніцца (не завяршыўшы твор) перад самай калектывізацыяй. Многія лічылі гэты раман, разам з «Вязьмом» Міхася Зарэцкага і «Лявонам Бушмаром» Кузьмы Чорнага, перадгісторыяй «Палескай хронікі» Івана Мележа.

### Унікальныя п'есы

Чатырма сваімі п'есамі («Канец дружбы», «Хто смяецца апошнім», «Мілы чалавек» і «Брама неўміручасці») Крапіва, як мне здаецца, уваходзіць у класічны пантэон беларускай драматургіі.

Кожная з гэтых чатырох п'ес унікальная: «Канец дружбы» — уменнем, максімальна адхіліўшыся ад таго, што адбываецца на сцэне, вывесці абсалютна праўдзівыя характары і калізіі суровай эпохі калектывізацыі ў максімальна рэалістычным і цвёрдым варыянце (і гэта — у 1933 годзе!). Вядома, у тую эпоху дубаваты і кар'ерыстычны Карнейчык быў абвешчаны героем свайго часу, а сумленны і кампетэнтны Лютынскі — «паслугачом буржуазіі», ну але што ж...

«Хто смяецца апошнім» — самая хрэстаматыйная з крапівоўскіх п'ес. Ніхто з беларускіх пісьменнікаў не адважыўся ў 1939 годзе напісаць п'есу, у якой штуршком да дзеяння з'яўляецца памылковы заход у Інстытут геалогіі маладзенькага лейтэнанта ў форме НКВД, у які дырэктарам, прайшоўшы скрозь сіта партыйных інстанцый, прызначаны абсалютны невук і няздара, але гэта няважна, абы партыйны ды ідэйны быў... ▶




**Злева направа: Максім Танк, Кандрат Крапіва, Аркадзь Куляшоў, Міхась Лынькоў.** 1944 год.

### «Хто смяецца апошнім»: Крапіва схапіў нерв

«Гледачы змаглі ўбачыць і пачуць: беспадстаўна нікога ў СССР не арыштоўваюць. Нават Гарлахвацкі застаўся на волі. Чэсны чалавек (як Чарнавус, як Туляга) заўсёды мае магчымасць даказаць, што ён ні ў чым не вінаваты... Адным словам, дзе-нідзе сапраўды мелі месца некаторыя перагібы. Але іх ужо выкрылі партыя бальшавікоў і асабіста таварыш Сталін. Таму чэсным савецкім грамадзянам, шчыра адданым справе камуністычнага будаўніцтва, няма чаго хвалявацца. Спіце спакойна, ноччу за вамі ніхто не прыйдзе.

Крапіва ўдала схапіў галоўны нерв, што мучыў тагачаснае грамадства. І, як мог, суцешыў яго. ...Стварыў казку, якую падобна дзецям чакалі людзі "ўнізе" і якую палічылі вельмі карысная "уверсе"».

*Кінарэжысёр Уладзімір Арлоў*

Ужо згаданы «Мілы чалавек» бязлітасна распісаў савецкую бюракратычную сістэму і трапіў пад забарону, адышоў у нябыт, як і «Жартаўлівы Пісарэвіч» Максіма Гарэцкага, — для абедзвюх гэтых п'ес беларуская сцэна засталася закрытай дагэтуль.

І, нарэшце, «Брама неўміручасці», напісаная Крапівой на сконе восьмага дзясятка гадоў, у якой ён бязлітасна, са сваіх «узвышанскіх» пазіцый паказаў вынік 60-гадовага будаўніцтва сацыялізму і выхавання «новага чалавека». Хто толькі не прабіваўся да доктара Дабрыяна па неўміручасць: і міністры, «націскаючы» на тэлефоннае права, і грамадзяне ды грамадзянкі ўсіх масцяў і прафесій. І толькі адна вясковая бабка прыйшла прасіць неўміручасці для сваёй дарагой кароўкі... Вобраз сціплай вясковай бабулі, якая вымольвала неўміручасць для сваёй гадаванкі — апошняя даніна павагі драматурга і сваёй пажыццёвай літаратурнай праграме, і той калісьці шматлюднай і жывой вёсцы, якой ужо не было.

### «Застаўся б у вёсцы — быў бы Лявон Бушмар»*

У далёкім ужо 1987 годзе я, тады яшчэ зусім малады аспірант-другагодка, які рыхтаваў кандыдацкую дысертацыю па прозе Кандрата Крапівы, напрасіўся на кароткае інтэрв'ю з ім самім, якое перарасло ў пяцігадзінную гутарку, па-свойму цікавую для абодвух яе ўдзельнікаў.

Да Крапівы мяне завёў бацька, пісьменнік Іван Навуменка: без добрай рэкамендацыі я б да яго дабіраўся доўга і цяжка, і яшчэ не факт, што дабраўся б. «Вось вам мой хлопец, Кандрат Кандратавіч», — коратка адрэкамендаваў ён мяне і сышоў са сцэны — у свой недалёкі, былы крапівоўскі кабінет у Акадэміі навук. Пасля таго, як у 1982 годзе Крапіва сышоў на пенсію, бацька заняў ягоную пасаду віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук БССР.

Тады, у самым пачатку гарбачоўскай перабудовы, калі вецер будучых глабальных перамен ледзь улоўна адчуваўся, а на літаратурным Алімпе было хоць гаць гаці забранзавелых літаратурных бонзаў, у размове са мной Крапіва чымсьці быў падобны да разумнага, але вечна насцярожанага звера. Хоць якая ад мяне, аспіранта, які рабіў тады першыя крокі на абранай дарозе, магла зыходзіць хоць крыху сур'ёзная экзістэнцыйная пагроза для яго, вядомага і прызнанага пісьменніка?

Крапіва адтайваў доўга і павольна, недаверліва і насцярожана слухаючы мае пытанні, прыдзірліва аглядаючы мяне светла-блакітнымі вачыма. Я толькі праз гады зразумеў: гэта была горкім жыццёвым досведам напрацаваная пазіцыя — бачыць у новым чалавеку патэнцыйнага правакатара і стукача, нягледзячы на любыя рэкамендацыі. Як жартаўліва сфармуляваў гэта прынцып Янка Маўр, «калі я бачу новага чалавека, я адразу ж вырашаю, што ён гад і нягоднік, а калі я памыляюся, то мне ж яшчэ і лепш».

**Гэта была горкім жыццёвым досведам напрацаваная пазіцыя — бачыць у новым чалавеку патэнцыйнага правакатара і стукача**

Дзесьці на другой гадзіне гутаркі ён, злёгку ўсміхнуўшыся, дазволіў мне ўключыць партатыўны магнітафон — матэрыялу было шмат, шкада было губляць. Гадзіне на чацвёртай мы разгаварыліся



**З жонкай, дачкой, сынам, нявесткай.**

* **Лявон Бушмар** — герой напісанай у 1929 годзе аднайменнай аповесці Кузьмы Чорнага, уладальнік ляснога хутара, які з усіх сілаў супрацьстаіць новым савецкім парадкам і трымаецца за сваю ўласнасць.

пра актуальную сітуацыю ў літаратуры, у канцы размовы ён папрасіў мяне не друкаваць гэтае інтэрв'ю да яго смерці, яно ў мяне па гэты дзень так і неапублікаванае.

Ацэньваючы сябе на любым адрэзку сваёй біяграфіі, ён быў злёгку самаіранічны, прагматычны і вельмі канкрэтны ў адказах на мае пытанні. І нідзе ні разу не праслізнула заступніцкая нотка, ні разу ён не дазволіў сабе пагардлівага погляду, не пасмяяўся з маёй тагачаснай наіўнасці. Ён казаў пра літаратурную сутнасць з'яў, пра няпростыя і заблытаныя працэсы ў ёй, пра трагічныя лёсы сваёй пісьменніцкай генерацыі, пра свае і чужыя творы, — але з цвярозай ацэнкай падзей, адчуваннем адноснасці любога літаратурнага поспеху і аналізам той ці іншай няўдачы (напрыклад, уласнай, не занадта ўдалай ролі раманіста), пра сучасную літаратуру і параўнанне яе з той, у якой прайшла яго бурная літаратурная маладосць.

Памятаю, што я быў вельмі ўражаны такой пазіцыяй,



«Звязда», Яўген Пясецкі

**Прапраўнук Глеб у Нізку**, на гэтым месцы стаяла хата бацькоў Крапівы.

і яшчэ больш высока ацаніў яе ў наступныя дзесяцігоддзі — і ў мемуарах, і тым больш у закрытых гутарках гэты адчужаны і цвярозы, крыху самаіранічны погляд на сябе з боку досыць рэдкі.

На развітанне ён засмяяўся і сказаў: «Дысертацыю ты напішаш. Жанаты? Не? Ну, то падумай пра гэта. Жонка — гэта ў жыцці не менш, чым дысертацыя».

Жывы і вясёлы, рухавы, толькі крыху глухаваты, ён зусім прабіў мяне сваёй энергіяй, шустрасцю і выдатным пачуццём гумару. На дзясятым дзясятку жыцця. «Застаўся б у вёсцы — быў бы Лявон Бушмар», — падумаў я. ◆





**Цвікевіч, Аляксандр. Збор твораў: у 2-х тамах. Том 1: Гістарычныя працы** / Пад рэд. Дзмітрыя Віцько; прадмовы Аляксандра Горнага, Арсеня Ліса. — Смаленск: Інбелкульт, 2021. — 864 с.

Аляксандр Цвікевіч — адзін з найбольш выдатных беларускіх дзеячаў, якія прысвяцілі жыццё барацьбе за незалежнасць Бацькаўшчыны. Стаяў ля вытокаў дыпламатыі Беларускай Народнай Рэспублікі, у эміграцыі ўзначаліў яе Міністэрства замежных спраў, стаўшы затым кіраўніком урада. Пасля вяртання ў БССР як вучоны сакратар Інбелкульта актыўна ўдзельнічаў у арганізацыі і станаўленні беларускай навукі. У гэты перыяд, у другой палове 20-х, нягледзячы на мізэрна кароткі час, адведзены, як высветлілася, беларускім навукоўцам, паспеў стаць адным з найбольш адметных айчынных гісторыкаў.

Гэты збор твораў быў задуманы і зборшага ўкладзены вядомым беларускім навукоўцам, доктарам навук Арсенем Лісам (1934–2018). На жаль, яму ўжо не дадзена было пабачыць вынік сваёй працы.

Першы том збору твораў Аляксандра Цвікевіча змяшчае ў сабе гістарычныя і гісторыка-публіцыстычныя працы, у тым ліку «Заходнерусізм», «Адраджэнне Беларусі і Польшча», «Інстытут беларускае культуры», якія выйшлі пры жыцці аўтара асобнымі кнігамі, дзве брашуры, прысвечаныя гісторыі беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, і шэраг артыкулаў на адпаведную тэматыку. Публіцыстыка і творчасць Аляксандра Цвікевіча ў цэлым падрабязна ахарактарызаваныя ў прадмове аўтарства Арсеня Ліса. Біяграфію дзеяча напісаў кандыдат гістарычных навук Аляксандр Горны.

Набыць кнігу можна ў мінскіх кнігарнях **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, 72) і **«Галіяфы»** (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе), у гандлёвым цэнтры **«Купалаўскі»** (пад Кастрычніцкай плошчай), крама 41–42, інтэрнэт-кнігарні **kniganosha.by**. На сайце **arche.by** выданне можна набыць як у папяровай, так і ў электроннай версіі.



## Псіхолаг Віктар Франкл: як выжыць у турме

# Хто ведае, навошта жыць, можа вытрымаць любое як

**Віктар Франкл сваю першую кнігу пачаў пісаць у Асвенціме. І менавіта гэта — жаданне выкласці веды, якія маглі загінуць разам з аўтарам, — дазволіла яму выжыць. Віктар Франкл стварыў адну з самых уплывовых псіхалагічных школ сучаснасці — логатэрапію. У сваіх кнігах ён падказвае, як прайсці праз цяжкасці, не зламацца і знайсці сэнс нават у пакутах, піша Паўліна Скурко.**

«Настойліва раю ўсім рабіць так, як я: калі здараецца нешта дрэннае, я падаю на калені (толькі ў сваім уяўленні, вядома ж) і малюся, каб не здаралася нічога горшага. Бо існуе іерархія не толькі добрага, але і дрэннага, пра што заўсёды варта памятаць».

### Знак

Віктар Франкл нарадзіўся 26 сакавіка 1905 года, памёр у 1997-м і ўсё жыццё пражыў у Вене. Ён вырашыў стаць доктарам яшчэ ў дзяцінстве.

Маленькі Віктар меў звычку ўранку піць каву ў ложку, пасля чаго яшчэ нейкі час разважаў пра сэнс жыцця і будучага дня. У школе хлопчык стаў вывучаць псіхалогію і нават змайстраваў дэтэктар хлусні, заснаваны на псіха-гальванічных рэфлексах, які выпрабоўваў на аднакласніках.

Можна сказаць, што жыццё Франкла вызначыў знак. Пасля таго, як у 1938-м нацысты захапілі Аўстрыю, ён, вядомы 33-гадовы псіхіятр, падаўся на амерыканскую візу, каб эміграваць. І атрымаў. Але віза была на аднаго. А яго бацькоў чакаў канцлагер... Дома на стале Франкл пабачыў аскепак мармуру. Выявілася, гэта бацька падабраў фрагмент скрыжаляў на месцы спаленай сінагогі. «Хочаш, скажу табе, з якой гэта запаведзі? Бо толькі адна з дзесяці запаведзяў пачынаецца з гэтай літары: "Шануй бацьку свайго і маці сваю, каб працягнуліся дні твае на зямлі"». «І я застаўся "на зямлі", з бацькамі, не стаў атрымліваць візу. Магчыма, рашэнне застацца даўно ўжо саспела, і аракул на самай справе паўтараў голас майго сумлення. Можна ж было ўбачыць у кавалку мармуру ўсяго толькі карбанат кальцыю, але гэта засведчыла б экзістэнцыяльны вакуум такога чалавека».

Мама Франкла загінула ў газавай камеры. Тата яшчэ раней у тым жа канцлагеры памёр ад пнеўманіі. Віктар пранёс у канцлагер ампулу морфію, і яна прыдалася. «Гэтую дозу я ўвёў бацьку, калі вачыма доктара ўбачыў, што развіваецца тэрмінальны ацёк лёгкіх, гэта значыць, яму наканавана пройгрышная перадсмяротная барацьба за кожны глыток паветра. Бацьку споўнілася 81 год, ён доўга недаядаў. Я спытаўся: "Нічога не баліць?" — "Не". — "Ты чаго-небудзь хочаш?" — "Не". — "Што-небудзь сказаць напрыканцы?" — "Не". Тады я пацалаваў яго і сышоў. Я ведаў, што жывым больш яго не пабачу, але дзівоснае пачуццё ахапіла мяне: я выканаў свой абавязак, пазбавіўшы бацьку ад бессэнсоўных пакут».

### Чым прывабіць дзяўчыну

Вывучыўшыся на неўролага і псіхіятра ў такіх гігантаў, як Зігмунд Фрэйд і Альфрэд Адлер, Франкл арганізаваў у Вене і іншых гарадах Аўстрыі бясплатныя псіхалагічныя кансультацыі для моладзі, у прыватнасці, спецыяльную акцыю ў час іспытаў і выдачы


VIKTOR FRANKL INSTITUTE

**Вена, 1929 год.** Віктару Франклу 24 гады, ён перспектыўны неўролаг і псіхіятр, перапісваецца з Фрэйдам і зачароўвае дзяўчат на сваіх лекцыях.

## Усе мы не святыя

«У маладосці я бавіў выхадныя ў вар'етэ. Мне гэта падабалася, але пакідала непрыемны асадак, бо варта было б замест гэтага сядзець дома, запісваць свае думкі і пісаць артыкулы. Пасля канцлагера ўсё змянілася. З тых часоў у выхадныя я дыктаваў свае кнігі. Я навучыўся эканоміць час. Я стаў расходаваць яго вельмі скупа — толькі на асэнсаваныя заняткі. І ўсё ж мушу прызнацца: і да лагера, і пасля я здраджваў сваім правілам. Зразумела, потым я страшна злаваў на сябе, так злаваў, што часам па некалькі дзён не хацеў з сабой размаўляць», — жартаваў Франкл.

атэстатаў. Ён лічыў сваёй заслугай тое, што ў 1930-м у Вене ўпершыню не было ніводнага самагубства сярод выпускнікоў.

Ён таксама выкладаў у Народным універсітэце Вены, дзе ўсе ахвотныя маглі слухаць лекцыі для самаадукацыі. «Кожны раз, калі я хацеў зрабіць уражанне на дзяўчыну, а маёй знешнасці для гэтага відавочна не хапала, я ішоў на маленькую хітрасць. Скажам, мы ўпершыню сустракаемся на танцах: я пускаюся ў захоплены аповед пра нейкага Франкла, чые заняткі ў Народным універсітэце я ніколі не прапускаю, і настойліва прапаную новай знаёмай абавязкова наведаць разам са мной семінар або лекцыю. Найбліжэйшым вечарам мы прыходзім у парадную залу, дзе гэты Франкл чытае свой курс, — зала заўсёды перапоўненая. Я прадбачліва ўладкоўваюся з краю ў пярэдніх шэрагах, і можаце сабе ўявіць, якое ўражанне гэта робіць на дзяўчыну, калі спадарожнік раптам пакідае яе і пад апладысменты публікі выходзіць на авансцэну».

Франкл меў аратарскі дар, у неўралагічнай клініцы, дзе працаваў пасля вайны, яго нават празвалі Нервагёбельсам. Калі ў 1938-м нацысты ўвайшлі ў Вену, Франкл якраз чытаў лекцыю. Раптам у залу ўварваўся штурмавік. «Гавары так, каб ён разгубіўся і забыў, чаго прыйшоў», — сказаў сабе лектар і працягваў, гледзячы ў аблічча штурмавіка, прамаўляць даклад «Неўроз як сімптом нашага часу». ▶

Нацыст не крануўся з месца, пакуль доктар не скончыў выступ. «Кожнаму стварэнню дадзена зброя для самаабароны: каму рогі, каму капыты, джала або яд, у мяне — дар красамоўства. Пакуль мне рот не заткнуць, са мной лепш не звязвацца».

У 1939-м месца звольненых нацыстамі дактароў-яўрэяў занялі маладыя, але лаяльныя дыктатарскаму рэжыму, многія без належнага досведу. Па Вене разышлася гісторыя, як адзін з іх абвясціў пацыентку мёртвай, а потым яна апрытомнела. «Нячаста даводзіцца вяртаць пацыентаў з морга ў аддзяленне!»

**«Старэнне не пужае мяне да таго часу, пакуль мне ўдаецца расці ў той жа меры, у якой я старэю.** А мне гэта ўдаецца. Вось, напрыклад, скончаны два тыдні таму рукапіс сёння мяне ўжо не зусім задавальняе.

Шкадаваць старых няма прычыны. Хутчэй, маладыя павінны ім зайздросціць. Так, у старых няма магчымасцей у будучыні; але ў іх ёсць нешта большае: досвед і ўменні».

Да 80 гадоў Франкл быў зацятым альпіністам. «У той год, калі я не мог адправіцца ў горы, бо насіў жоўтую зорку, узыходжанні сніліся мне па начах. Сябар угаварыў мяне, і я адважыўся паехаць у горы, зняўшы жоўтую зорку. Мы забраліся на стромкую скалу, дзе я гатовы быў цалаваць камяні».

Трапіўшы ў Асвенцім, Франкл мусіў здаць усе свае рэчы. Найбольш ён шкадаваў рукапіс першай кнігі — і значок альпінісцкага таварыства.

Толькі ў гарах Франкл забываў пра ўсё: кнігі, даклады, пацыентаў... І тут прымаў самыя важныя рашэнні. Ён смяяўся: 27 ганаровых званняў доктара і прафесара не так узрадавалі, як два маршруты ў Альпах, якія першапраходцы назвалі «сцежкай Франкла».

Сам Франкл у 1938-м узначаліў неўралагічнае аддзяленне бальніцы Ротшыльда — апошняй, якая прымала пацыентаў-яўрэяў. За дзень да доктара маглі паступіць да дзесяці самагубцаў, якіх ён стараўся ратаваць трэпанацыямі і ін'екцыямі проста ў мозг. Перад дактарамі яўрэйскай бальніцы стаяла этычнае пытанне, ці варта ратаваць жыцці тых, хто канчаў з сабой перад дэпартацыяй. «Паважаючы рашэнне чалавека, я патрабую, аднак, павагі і да маіх прынцыпаў, а яны кажуць: ратаваць, пакуль я магу». Толькі аднойчы Франкл здрадзіў гэтаму прынцыпу. Пажылыя муж і жонка вырашылі разам пайсці з жыцця. Калі іх прывезлі, жонка была ўжо мёртвая, а муж паміраў. Доктар спытаў сябе: няўжо я гатовы вярнуць чалавека да жыцця толькі затым, каб ён мог прысутнічаць на пахаванні жонкі?




Акрамя альпінізму, Франкл захапляўся дызайнам акуляраў, калекцыянаваў гальштукі, пісаў музыку, а ў 68 гадоў атрымаў правы пілота. **На фота яму 55.**




**Віктар і Цілі, яго першая жонка.** Пад букетам схаваная нашыўка — жоўтая зорка Давіда.

Геройства Франкла і яго начальства (якое хоць начапіла значок прыналежнасці да нацысцкай партыі, але працягвала дапамагаць падначаленамуяўрэю) — барацьба супраць прымусовай эўтаназіі псіхічнахворых. Франкл выпісваў медыцынскія даведкі, дзе замест шызафрэніі пісаў афазію, то-бок «арганічнае захворванне мозгу», а меланхоліюператвараў у «трызненне, выкліканае ліхаманкай». Такіх пацыентаў ён мог лячыць або проста трымаць у бальніцы падчас фазы дэпрэсіі.

### Цілі

Першая жонка Віктара працавала медсястрой. Яна вырашыла закахаць доктара ў сябе, каб адпомсціць за кінутую сяброўку. Доктар разгадаў намер, яны пасябравалі...

Франкл смяецца, што Цілі (яна была на 13 гадоў маладзейшай) нагадвала іспанскую танцоўшчыцу (як ён іх сабе ўяўляў). Але палюбіў ён яе не за гэта. Аднойчы перад



Музей у Асвенціме.

WIKIMEDIA COMMONS



**«Селекцыя» вязняў па прыбыцці ў Асвенцім,** 1944 год. Яны яшчэ не ведаюць, што іх тут чакае.

сямейным абедам яго выклікалі ратаваць чалавека пасля спробы самагубства. Вярнуўся ён праз некалькі гадзін, абед быў сарваны. Бацькі ўжо паелі, але Цілі — не. Яна была ўстурбаваная: «Як прайшла аперацыя, як адчувае сябе пацыент?» «У гэты момант я і вырашыў ажаніцца з гэтай сардэчнай, чулай дзяўчынай. Не таму, што яна значыла нешта для мяне, але таму, што яна была сабой».

Ужо ў лагеры на 23-годдзе ён піша ёй на паштоўцы: «На тваё свята зычу сабе, каб ты захоўвала вернасць сабе».

Віктар і Цілі сталі апошняй яўрэйскай парай Вены, каму нацысцкія ўлады дазволілі ажаніцца. Да фатографа пара ішла пешкі — яўрэям ужо забаранілі карыстацца таксі — з жоўтымі зоркамі на ўрачыстых касцюмах, Цілі была ў вэлюме.

Заводзіць дзяцей яўрэям забаранялі пад пагрозай канцлагера і аборту (а для іншых нацый аборт наадварот абвяшчаўся незаконным). Франкл прысвяціў кнігу іх ненароджанаму дзіцяці.

Праз 9 месяцаў пасля вяселля пара мусіла перасяліцца ў лагер Тэрэзіенштат — «узорнае гета». А праз два гады Франкла накіравалі ў іншае месца. Цілі, што працавала на слюдзяной фабрыцы, дабілася, каб яе адправілі за ім. Новым лагерам выявіўся Асвенцім.

Апошняя радасць, якой жонка падзялілася з Віктарам перад тым, як іх раздзялілі ў Асвенціме, — ёй удалося разбіць свой гадзіннік, каб трафей не дастаўся эсэсаўцам.

### «Пісаць уласнай крывёю нялёгка, але лёгка напісаць добрую кнігу»

Чакаючы загаду пра дэпартацыю ў канцлагер, Франкл пісаў канспект будучай кнігі «Доктар і душа» — квінтэсенцыі логатэрапіі. Ён трымаў рукапіс пад падкладкай паліто, з якім прыйшлося расстацца ▸

▶ ў Асвенціме. Замест паліто і касцюма яму выдалі стары, заношаны сурдут — відавочна, яго ўласнік загінуў у газавай камеры. У кішэні Франкл знайшоў старонку малітоўніка. Ён успрыняў гэта як знак — жыць. І аднаўляць кнігу па памяці.

Па прыбыцці ў Асвенцім вязняў дзялілі на дзве групы, і сумна вядомы доктар Ёзэф Менгеле накіраваў Франкла налева. Паколькі сярод гэтага натоўпу Франкл не пабачыў знаёмых, затое дваіх яго таварышаў скіравалі направа, ён за спінай Менгеле прайшоў да іх. Гэта першая гісторыя, калі цуд — або неймаверная рашучасць — ўратаваў яго жыццё.

Ацалелая меншасць даведалася праўду ўвечары. Франкл стаў распытваць старажылаў, куды трапіў яго калега і сябар. «Яго адправілі на левы бок?» — «Так». — «Тады глядзіце, ён там», — і доктару паказалі на комін, з якога вырываўся слуп полымя і пераходзіў у злавеснае воблака дыму. «Ваш сябар там, ён плыве на неба».


DEPOSITPHOTOS.COM, BY NOMADSOUL1

**Кубкі, адабраныя ў вязняў.** Музей Асвенціма.

## Першая фаза: шок

Франкл заўважыў у вязняў лагера тры фазы псіхалагічнай рэакцыі. Першая — шок пасля прыбыцця пад грубыя, здзеклівыя крыкі, якія суправаджалі ўсё лагернае жыццё. «Я быў у жаху, але гэта было нават да лепшага, бо крок за крокам нам прыйшлося прывыкаць да бясконцых жахаў». Шок узмацнялі эмацыйныя арэлі. Новапрыбылых чакала лазня і нечаканa ветлівыя эсэсаўцы: яны ўгаворвалі аддаць гадзіннікі, каштоўнасці — усё адно ж адбяруць, дык чаму не аддаць іх прыемным людзям...

**«Галіцеся штодня, нягледзячы ні на што**, нават калі для гэтага даводзіцца карыстацца аскепкам шкла, — вучыў бывалы. — Нават калі за яго прыйдзецца аддаць апошні кавалак хлеба. Вы будзеце выглядаць маладзейшымі, а шчокі — больш ружовымі. Калі вы хочаце застацца ў жывых, ёсць толькі адзін шлях — выглядаць прыдатнымі для працы: галіцца, стаяць і хадзіць бадзёра.

Раней усе вязні былі і ўяўлялі сябе «кімсьці», а цяпер з імі абыходзіліся як з поўным «нішто». Вязням не пакідалі нічога, акрамя ўласных голых целаў, нават валасоў: «усё, чым мы валодалі, было, літаральна кажучы, наша голае існаванне». Акуляры ды пояс — вось і ўся матэрыяльная сувязь з ранейшым жыццём. Нечакана прыходзіла змрочная весялосць — людзі разумелі, што больш няма чаго губляць. Затым — цікаўнасць: ці выйду я з гэтага становішча жывым?

## Другая фаза: апатыя, цынізм

Другая фаза лагернага зняволення — глыбокае пагружэнне ў тутэйшае


DEPOSITPHOTOS.COM, BY BADAHOS

**З Вены, горада невымоўнай красы,** вязні траплялі ў іншасвет канцлагераў.



жыццё. Гэтай фазе ўласцівая апатыя і нешта накшталт эмацыйнай смерці — механізм самаабароны. Спачатку вязень тужыць па доме. Адчувае агіду да навакольнага жаху. Але хутка пачуцці прытупляюцца, адступаюць. Чалавек перастае адводзіць вочы ад мёртвых і тых, хто памірае, — відовішча стае настолькі звычайным, што перастае кранаць. Усе намаганні і эмоцыі сканцэнтраваныя на адной задачы — захаваць сваё жыццё і жыццё сяброў. У канцы дня вязні з палёгкай уздыхалі: «Дзякуй Богу, яшчэ адзін дзень прайшоў!»

У вязняў не было ні часу, ні сіл лічыцца з мараллю. Тых, хто адбываў у газавую камеру, аглядалі з бессаромнай цікавасцю: ці не лепшыя іх курткі і чаравікі, чым свае ўласныя. Іх лёс вырашаны, а тыя, хто заставаўся, павінны былі павысіць свае шанцы на выжыванне любой цаной. У лагеры выжывалі найперш тыя, хто пасля доўгіх гадоў зняволення пазбаўляўся ад усіх згрызот сумлення і быў гатовы скарыстацца любымі сродкамі, каб выратаваць сябе.


DEPOSITPHOTOS.COM, BY PYTY

**Калі вязняў везлі з Асвенціма ў Дахау, цягнік ішоў праз Вену, паўз родную вуліцу Франкла.** Вязні прагна ўглядаліся ў горад цераз акенца.


FLICKR

**На гэтых нарах Віктар Франкл сфармуляваў:** важна не тое, што ты чакаеш ад жыцця, а што жыццё чакае ад цябе.

«Мы, ацалелыя з дапамогай многіх шчаслівых выпадковасцяў або цудаў, ведаем: найлепшыя не вярнуліся».

Пастаяннае напружанне зводзіла ўнутранае жыццё вязня да прымітыўнага ўзроўню, людзі трацілі цікавасць да ўсяго, што не дапамагала выжыць. Гэтым лёгка растлумачыць нячуласць. Франкл расказвае, як пры пераводзе з Асвенціма ў Дахау яго цягнік ішоў праз Вену, паўз яго родную вуліцу. «Маладыя хлопцы з гадамі лагернага жыцця за плячыма пільна разглядалі горад. Я пачаў прасіць пусціць мяне да акенца хоць на імгненне, спрабаваў патлумачыць, як многа значыць для мяне погляд на Вену менавіта цяпер. Мне груба адмовілі: "Ты жыў тут? Значыць, ужо нагледзеўся!" Падняўшыся на дыбачкі і гледзячы над галовамі скрозь краты, я кінуў развітальны погляд на родны горад. Мы ўсе адчувалі сябе хутчэй мёртвымі, чым жывымі, бо думалі, што наш цягнік адпраўляецца ў Маўтхаўзэн і нам засталося жыць усяго адзін-два тыдні. Мне здавалася, што я гляджу на вуліцы, плошчы і дамы вачыма чалавека з таго свету...»

### «Як будзе, так будзе»

«Толькі б дажыць да вечара». Ваенная штодзённасць адвучыла чалавека планаваць (пакуль вайна працягвалася, гэта не мела сэнсу), кіраваць сваім жыццём (чалавек адчуваў сябе пясчынкай у віхуры знешніх абставін). А пастаянныя прыніжэнні прывілі жаданне загубіцца ў натоўпе, вызваліўшыся ад адказнасці і свабоды. Усё гэта пераймалі і наступныя пакаленні.

### Дзе знайсці свабоду за кратамі

У лагеры Франкл заўважыў парадокс: некаторыя зняволеныя, якія зусім не выглядалі дужымі,

▶ трымаліся і выжывалі найлепш. Гэтыя людзі маглі знайсці прыстанішча ад навакольнага кашмару ў багатым унутраным жыцці і духоўнай свабодзе.

Франк дзеліцца, як гэта ўдавалася яму. Аднойчы раніцай атрад брыў на працу — у цемры, спатыкаючыся аб камяні, у парваным абутку, па лужынах, пад ледзяным ветрам. Канвойныя крычалі і падштурхоўвалі прыкладамі. Хаваючы рот у падняты каўнер, адзін чалавек шапнуў: «Калі б нашы жонкі ўбачылі нас! Спадзяюся, у іх лагерах умовы лепшыя і яны не ведаюць, што адбываецца з намі».



**Вязні мінскага гета** б'юць лёд.

І кожны пачаў думаць пра сваю жонку. «Часам я глядзеў на неба, дзе ружовае святло раніцы ўжо пачало прабівацца з-за хмарнай грады. Але думкі былі занятыя вобразам маёй жонкі, які ўяўляўся са звышнатуральнай вастрынёй. Я чуў, як яна адказвае мне, бачыў яе ўсмешку, яе адкрыты і падбадзёрлівы погляд. Мяне пракалола думка: першы раз у жыцці я ўбачыў ісціну, апетую ў вершах столькіх паэтаў і абвешчаную столькімі мыслярамі: каханне — гэта канчатковая і найвышэйшая мэта. Я зразумеў, што чалавек, у якога нічога не засталося на свеце, усё яшчэ можа спазнаць асалоду, хоць на імгненне, ва ўяўных зносінах са сваімі любімымі. У стане крайняй безвыходнасці, калі чалавек не можа выказаць сябе ў якой-небудзь карыснай дзейнасці, калі яго адзінае дасягненне — гэта годна пераносіць пакуты, — нават у такім становішчы чалавек можа, праз поўны любові роздум пра блізкага, выразіць сябе».

Адзін з вязняў спатыкнуўся, заднія ўпалі на яго, падляцеў канваір з палкай... Але гэта не мела значэння: Віктар працягваў размову з каханай, задаваў ёй пытанні, яна адказвала і пыталася сама... Ён зразумеў: каханне значна большае за фізічнае існаванне каханага

**Франкл калекцыянаваў досціпы**, сам любіў іх прыдумляць і марыў напісаць кнігу пра метафізіку гумару.

Анекдот з яго калекцыі.

Чалавек прыехаў у польскае мястэчка з вялікай доляй яўрэйскага насельніцтва і надумаў наведаць бардэль. Ён саромеўся наўпрост пытацца адрас, таму звярнуўся да старога яўрэя ў лапсардаку з пытаннем:

— Дзе тут жыве рабін?

— Там, у зялёным доме.

— Як! Няўжо такі славуты настаўнік жыве ў доме распусты?

— Што вы такое кажаце! Бардэль — там, убаку, у такім чырвоным будынку.

— Вялікі дзякуй! — падзякаваў шукальнік бардэля і накіраваўся па названым адрасе.

«Ці не так варта і доктару будаваць размову з пацыентам? — піша Франкл. — Яшчэ ў пачатку практыкі я пераканаўся, што, збіраючы анамнез, нельга пытацца жанчыну, ці рабіла яна аборт, а трэба адразу: “Колькі абортаў вы рабілі?” І мужчыну бессэнсоўна пытацца, ці хварэў ён на пранцы, але “Колькі курсаў лячэння мыш'яком вы прайшлі?”. І шызафрэніка не пытайцеся, ці чуе ён галасы, але адразу — пра што яны гавораць».

Ці яшчэ такі анекдот. У вагоне сядзяць адзін насупраць аднаго эсэсавец і яўрэй. Яўрэй дастае селядзец, разбірае яго і есць, але аддзяляе галаву і зноў заварочвае.

— Чаму вы так зрабілі? — дапытваецца эсэсавец.

— У галаве мозг, яго я вязу дзецям: з’ядуць і паразумнеюць.

— Не прадасце мне?

— Калі хочаце.

— Колькі каштуе?

— Марка.

— Вось вам марка! — эсэсавец тут жа з'ядае селядцовую галаву.

Праз пяць хвілін ён крычыць:

— Брудны жыд, селядзец цалкам каштуе 10 пфенінгаў, а ты прадаў мне галаву за марку!

Яўрэй спакойна заўважае:

— Ну вось, ужо падзейнічала.

чалавека. «Я ўсё больш і больш адчуваў яе прысутнасць побач, здавалася, што я магу дакрануцца да яе, працягнуць руку і сціснуць яе. Пачуццё было вельмі моцным: яна тут».

### «Arbeiten!»

Гумар быў яшчэ адной зброяй у барацьбе за самазахаванне, дапамагаў узняцца над сітуацыяй, даваў унутраную свабоду. Вязні выдумлялі вясёлыя сітуацыі з будучыні, напрыклад: на званым абедзе, калі ўнясуць супніцу, мы забудземся і пачнём маліць гаспадыню зачарпнуць нам «з дна» (бо толькі так у міску вязня трапляла хоць пара гарошын).

Франкл і яго сябар-хірург паабяцалі сабе штодзень прыдумляць хоць бы адну пацешную гісторыю пра будучыню. Перад прыходам наглядчыка брыгадзір падганяў вязняў крыкамі: «Працаваць! Працаваць!». «Уяві, — смяяўся Франкл, — аднойчы, калі ты будзеш выконваць вялікую аперацыю, у аперацыйную ўварвецца санітар, абвяшчаючы пра прыход старшага хірурга крыкам: “Працаваць! Працаваць!”».

Уменне бачыць рэчы з іх смешнага боку — адзін з хітрыкаў, якому трэба навучыцца, авалодваючы мастацтвам жыць. А трэніравацца ў мастацтве жыць можна нават у канцлагеры.

### Важнае пытанне

Успаміны, глыбіня пачуццяў, гумар — усё гэта суцяшала, але не ратавала. Большасць вязняў лічылі, што ўсе магчымасці для іх ужо страчаныя. Разам з верай гублялася духоўная і фізічная стойкасць. Набліжалася смерць. Сімптомы заўсёды былі аднолькавыя: аднойчы раніцай чалавек адмаўляўся апранухца, памыцца і выйсці на плошчу для пастраення. Ні просьбы, ні ўдары, ні пагрозы не мелі эфекту. Ён проста ляжаў. Яго нічога больш не хвалявала.

**Імгненнае вызваленне небяспечнае: гэта як занадта хутка падняць з глыбіні падводніка, дзе ён дыхаў пад вялікім ціскам**

Франкл прыводзіць красамоўны прыклад. Яго сусед па бараку, вядомы кампазітар, сасніў сон пра вызваленне. Голас у сне сказаў яму, што вызваленне прыйдзе 30 сакавіка. Увесь сакавік ён быў поўны надзеі. 29-га раптам захварэў. 30-га ў яго пачалася ліхаманка. А 31-га сакавіка 1945 года ён памёр. Знешне — ад тыфу. Але на думку Франкла — ад раптоўнай страты надзеі і мужнасці, пасля чаго яго арганізм перастаў супраціўляцца тыфу. А вызваленне было так блізка...

Франкл пабачыў, што выратаваць вязня ў самыя цяжкія хвіліны можа раптоўна адшуканая мэта. «Мне ўжо няма чаго чакаць ад жыцця», — казаў няшчасны. «Але падумай, чаго жыццё чакае ад цябе?» — адказваў Франкл.

Гэта пытанне лягло ў аснову логатэрапіі.

«Важна не тое, чаго мы чакаем ад жыцця, а тое, чаго жыццё чакае ад нас. Нам трэба перастаць пытацца пра сэнс жыцця, а замест гэтага зразумець, што жыццё задае пытанні, ставіць задачы — штодня і штогадзіны. Наш адказ павінен заключацца ў правільных учынках і паводзінах. Гэтыя задачы, а значыць і сэнс жыцця, — у кожнага свае і змяняюцца ад моманту да моманту. Таму немагчыма вызначыць сэнс жыцця наогул. Жыццё рэальнае ▶




**Вызваленыя вязні Асвенціма** выходзяць на волю.

і канкрэтнае, як і яго задачы», — лічыў Франкл.

Калі чалавек усведамляе сваю адказнасць перад нечым ці некім, калі разумее, *навошта* яму жыць, то будзе здольны вынесці амаль любое *як*.

Сам Франкл страсна жадаў выжыць, каб узнавіць рукапіс кнігі, канфіскаваны ў Асвенціме. Калі ў канцы вайны псіхолаг захварэў на тыф, стаў накідваць нататкі на абрыўках эсэсаўскіх фармуляраў — і перамог хваробу.

**«Ніхто не можа палегчыць твае пакуты — але можна вырашыць, як несці свой цяжар»**

### Сэнс пакутаў

Як напоўніць сваё жыццё сэнсам? Франкл падказвае тры шляхі.

Першы — карысная праца, значныя ўчынкі, творчасць.

Другі — перажыванні, пачуцці да іншага, спазнанне дабра, ісціны, прыгажосці, унікальнасці іншага чалавека.

Трэці — наша стаўленне да непазбежных пакут, якія нясе жыццё. Нават бездапаможная ахвяра безнадзейнай сітуацыі можа падняцца над сабой і ператварыць асабістую трагедыю ў трыумф. Калі нельга змяніць сітуацыю, то можна выбраць сваё стаўленне да яе. Чалавек сам вырашае, падпарадкавацца або супрацьстаяць. Вырашае, якім стане ў найбліжэйшую хвіліну. Можна застацца мужным, поўным годнасці і бескарыслівым — або забыцца на чалавечую годнасць.

“Ніхто не можа палегчыць твае пакуты — але можна вырашыць, як несці свой цяжар. Для нас, зняволеных, гэтыя думкі не былі тэорыяй, адарванай ад рэальнасці. Яны былі адзінымі думкамі, якія маглі нам дапамагчы. Яны ратавалі нас ад роспачы, калі здавалася, што няма ніякіх шанцаў выйсці жывымі. Даўно мы прайшлі стадыю пытанняў, у чым сэнс жыцця, калі разумееш яго як дасягненне нейкіх мэтаў шляхам актыўнага стварэння. Для нас гэты сэнс ахопліваў цяпер шырокае кола жыцця і смерці, пакуты і паміранне».

Ці значыць гэта, што абавязкова трэба пакутаваць, каб адшукаць сэнс? Ні ў якім разе. Але гэта значыць, што жыццё поўнае сэнсу нават нягледзячы на пакуты.

«Нашаму пакаленню стала вядома, што такое чалавек. Чалавек — гэта істота, якая вынайшла газавыя камеры

### Цыгарэта — кепскі знак

Цыгарэты ў лагеры звычайна не курылі, а выкарыстоўвалі як валюту. Выключэнне — тыя, хто страціў жаданне жыць і хацеў атрымаць задавальненне ад сваіх апошніх дзён. «Калі мы бачылі, як нехта курыць, то ведалі, што ён страціў веру ў свае сілы. А страчаная аднойчы воля да жыцця рэдка вярталася. У найбліжэйшыя два дні гэты чалавек або памрэ, або пакончыць з сабой».



**На чыгунцы пры пад'ездзе да Асвенціма стаіць помнік разлучаным сем'ям:** мужчынскі ды жаночы сілуэты і худзенькае дзіця між імі.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY EWYMEDIA

Асвенціма. Аднак гэта таксама і істота, якая ўваходзіла ў гэтыя камеры з горда паднятай галавой, з малітвай на вуснах».

Франкл праводзіў сярод вязняў сеансы групавой псіхатэрапіі. «Я прасіў няшчасных людзей, якія ўважліва слухалі мяне ў цемры барака, захоўваць мужнасць і верыць, што безнадзейнасць нашай барацьбы не прымяншае яе годнасці і сэнсу. Я казаў, што ў цяжкія хвіліны хто-небудзь глядзіць на нас — блізкі чалавек, жывы ці мёртвы, або Бог — і чакае, што мы не расчаруем яго. Ён спадзяецца ўбачыць, што мы пакутуем горда, а не прыніжана — і што мы ведаем, як годна памерці. І ў канцы я казаў пра нашу ахвярнасць, якая пры любым зыходзе мае сэнс. У нармальным свеце, свеце матэрыяльнага поспеху, гэтая ахвярнасць магла падацца бессэнсоўнай. Але не. Я распавёў пра майго таварыша, які, трапіўшы ў лагер, паспрабаваў заключыць дамову з Нябёсамі: хай яго пакуты



**Віктар і яго другая жонка Элі**, 1946 год.

VIKTOR FRANKL INSTITUTE

і смерць выратуюць істоту, якую ён любіў, ад пакутлівага канца. Для гэтага чалавека пакуты і смерць былі поўныя сэнсу: гэта была яго ахвяра, поўная самага глыбокага значэння. Ён не хацеў памерці дарэмна. Ні адзін з нас гэтага не хоча».

## «Існуюць дзве чалавечыя расы — "раса" годных людзей і "раса" нягодных»

Толькі пасля вызвалення стала вядома, што камендант апошняга лагера, у якім знаходзіўся Франкл, траціў немалыя грошы з уласнай кішэні на лекі для зняволеных. Пасля таго, як амерыканцы вызвалілі лагер, трое былых вязняў-яўрэяў схавалі яго ў лесе. Начальніку амерыканцаў, які вельмі хацеў злавіць былога каменданта, паставілі ўмову: пакажуць месца, калі амерыканцы абавязваюцца нічога з камендантам не рабіць. Амерыканскі афіцэр не толькі стрымаў слова, але і ў нейкім сэнсе вярнуў каменданта на ранейшую пасаду: ён заняўся зборам адзення для ацалелых вязняў у суседніх вёсках.

## Чалавек сам і толькі сам вырашае, падпарадкавацца або супрацьстаяць

Ці не адмяняе смерць усе нашы пошукі сэнсу? Наадварот, менавіта смерць і надае жыццю сэнс, фармулюе Франкл. Хуткаплыннасць жыцця абуджае пачуццё адказнасці: «Жыві так, нібы жывеш ужо другі раз і пры першай спробе сапсаваў усё, што толькі можна сапсаваць». Гэта фраза прыснілася Франклу і стала адным з запаветаў яго тэорыі: выкарыстоўваць кожны момант жыцця — ён больш ніколі не вернецца.

Тое, што адбылося ў мінулым, — захоўваецца назаўжды. Цяперашняе не можа закрануць мінулае: мінулае ўжо выратавана. Усё, што мы зрабілі, што стварылі, даведаліся і перажылі, — усё хаваецца ў мінулым, і ніхто не мае змогі вынішчыць гэта.

### Трэцяя фаза: зноў стаць чалавекам

І вось над лагерам з'яўляецца белы сцяг — знак таго, што нацысты здаюцца саюзнікам. Вязні нясмела выходзяць за вароты. Лугі, кветкі — свет чамусьці не робіць вялікага ўражання. Усё здаецца сном. Першую іскарку радасці выклікае яркі певень... Вечарам у зямлянцы людзі асцярожна пытаюць адно аднаго: «Скажы, ты сёння радаваўся?» — «Шчыра кажучы, не». Людзі развучыліся радавацца.

Першым прачынаецца цела. Чалавек пачынае многа-многа есці. І гаварыць — гадзінамі. ▶

## «Жыві так, нібы жывеш ужо другі раз і пры першай спробе сапсаваў усё, што толькі можна сапсаваць»



▶ І толькі праз шмат дзён вызваляецца душа. Аднойчы чалавек адчувае, нібы з яе падаюць кайданы. «З гэтага моманту пачынаецца тваё новае жыццё. І ты, крок за крокам, зноў становішся чалавекам».

Пасля вызвалення вязня чакала тры небяспекі: скажэнне маралі, горыч і расчараванне. Франкл папярэджвае, што для некаторых імгненнае вызваленне можа стаць небяспечным: гэта як занадта хутка падняць з глыбіні падводніка, дзе ён дыхаў пад вялікім ціскам. Многія не могуць пазбавіцца ад уплыву жорсткасці, якая атачала іх у лагеры. Часта гэта выяўлялася ў нязначным. Адзін з вязняў падчас прагулкі па палях пачаў таптаць рунь. На заўвагу, што можна абысці, ён разлюціўся: «Не смей гэта казаць! Хіба ў нас мала адабралі? У мяне жонку і дзіця адправілі ў газавую камеру — а ты не дазваляеш мне стаптаць некалькі сцёблаў аўса?!» Толькі пакрысе да гэтых людзей вярталася банальная ісціна, што ні ў каго няма права тварыць зло, піша Франкл.

«Мы казалі адзін аднаму ў лагеры, што не можа быць такога зямнога шчасця, якое кампенсавала б усё, што мы вынеслі. Мы не спадзяваліся на шчасце — не гэта натхняла нашу ўстойлівасць і надавала сэнс нашым пакутам. Але ўсё ж мы не былі гатовыя да нягод».

Горыч прычынялі абыякавыя позіркі знаёмых і збітыя фразы:




**Баварскі краявід.** Нешта падобнае пабачыў Віктар Франкл позняй вясной 1945 года, калі ўпершыню за два з паловай гады выйшаў на волю з Дахау.

«Мы пра гэта нічога не ведалі!» і «Мы таксама мучыліся!». А яшчэ горш было перажыць расчараванне. Аказалася, што многіх ніхто ўжо не чакаў.

Віктар Франкл даведаўся, што яго жонка памерла ў Асвенціме ў першыя тыдні пасля вызвалення, знясіленая, і такіх было яшчэ 17 тысяч чалавек. Як было перажыць?

Адразу па вяртанні з лагера Франклу прапанавалі падрыхтаваць дысертацыю на падставе лагерных нататак. Знаёмыя і калегі баяліся за яго жыццё. Але работа ўратавала. «Я дыктаваў бесперапынна, тры стэнаграфісткі толькі паспявалі змяняць адна адну — столькі надыктоўваў штодня, на памяць, з самага сэрца, у халоднай венскай кватэры, дзе вокны былі «зашклёныя» кардонкай. Дыктуючы, я хадзіў туды-сюды, а часам — кідаўся ў крэсла і плакаў, не ў сілах справіцца з думкамі, якія набывалі для мяне шчымлівую яснасць. Адкрыліся шлюзы...» Так быў напісаны бестселер «Чалавек у пошуках сэнсу», або «Скажы жыццю “Так!”».

Пасля вызвалення Франкл выкупіў у выпадковага знаёмца падвеску — маленькі залаты глобус з сіняй эмаллю на месцы акіянаў і надпісам па залатой стужцы экватара: «Светам рухае любоў». Гэтую падвеску знаёмец здабыў на складзе, дзе эсэсаўцы трымалі канфіскаванае ў вязняў. Віктар падарыў яе Цілі на іх першы сумесны дзень нараджэння. «На ім засталася невялікая ўмяціна, але свет, як і раней, рухаўся любоўю...»

...І вось наступае момант, калі былы вязень ужо не можа зразумець, як ён усё гэта вынес. У дзень вызвалення ўсё здавалася яму дзівосным сном, а цяпер усё перажытае ў лагеры здаецца кашмарам.

І тады з’яўляецца разуменне, што пасля ўсяго перажытага, адпакутаванага яму больш няма чаго баяцца.

Сваю другую жонку, Элеанору, Франкл сустрэў у 1946-м, падчас абыходу ў сваім аддзяленні Венскай паліклінікі. Да яго з нейкай просьбай падышла маладзенькая медсястра з хірургіі твару. «Бачылі, якія вочы?»

## Свабода выбару

Логатэрапію, або экзістэнцыйны аналіз, яшчэ называюць Трэцяй Венскай школай псіхатэрапіі. Першай была школа Фрэйда, другой — Адлера. У абодвух Франкл вучыўся, ад абодвух урэшце аддаліўся. Як сам паясняў, фрэйдаўскі псіхааналіз засяроджаны на прынцыпе задавальнення, індывідуальная псіхалогія Адлера — на імкненні да ўлады, а логатэрапія — на імкненні адшукаць сэнс (*logos* з грэцкай значыць «сэнс»).

Фрэйд бачыў чалавека наборам рэфлексаў. Франкл сцвярджаў: паміж стымулам і рэакцыяй у чалавека застаецца свабода выбару.

Зігмунд Фрэйд разважаў: «Калі прымусіць галадаць групу самых розных людзей, то з ростам пачуцця голаду ўсе іх індывідуальныя адрозненні сатруцца». Дзякуй Богу, Фрэйду не прыйшлося знаёміцца з канцлагерамі знутры, пісаў Франкл. Яго пацыенты ляжалі на аксамітнай кушэтцы ў віктарыянскім стылі, а не на смярдзючай саломе Асвенціма, на якой «індывідуальныя адрозненні» не змазваліся, наадварот, розніца паміж людзьмі выступала ярчэй: людзі скінулі маскі — як паскуды, так і святыя. ◆

**«Не шукайце поспеху**: чым больш вы нацэленыя на яго, тым меншыя шанцы яго атрымаць. Поспех прыходзіць толькі як нечаканы пабочны эфект прысвячэння сябе нечаму (або некаму). Шчасце прыходзіць нечакана, тое ж самае тычыцца поспеху. Некалі поспех абавязкова прыйдзе, але таму, што вы забыліся і думаць пра яго».

# ГОРАД ЗАСЫНАЕ, ПРАЧЫНАЕЦЦА МАФІЯ

**Не італьянцы былі першымі, хто пачаў класці на сырое цеста начынку і запякаць тое ў печы, гэтак жа як і не яны вынайшлі арганізаваную злачыннасць. Але ў Італіі зрабілі і з першага, і з другога пазнавальныя брэнды. Адзінае толькі: калі брэндам піцы Італія ганарыцца, то мафія, «камора», «ндрангета» — боль і пляма на рэпутацыі. Піша Андрэй Дзмітранок.**

Мафія родам з Сіцыліі — залітага сонцам вострава, дзе зямля насычаная попелам вулкана Этна, а тэмперамент мясцовых настолькі яркі, што стаў яшчэ адным брэндам усёй Італіі. Страсць і гонар — вось нарожныя камяні сіцылійскага характару: кожны селянін тут мог выклікаць на дуэль, за любую абразу можна было заплаціць ударам нажа ў сэрца.

Слова «мафія» мае некалькі версій паходжання. Рамантычная кажа, што 30 сакавіка 1282 года падчас паўстання сіцылійцаў супраць французаў прагучаў вокліч: *«Morte Alla Francia, Italia Anela!»* («Смерць Францыі, уздыхні, Італія!»). Ад абрэвіятуры з гэтага выразу нібыта і пайшло слова *MAFIA*. Але гэта няпраўда, у XIII стагоддзі людзі не мыслілі абрэвіятурамі.

**Сіцылія**

найбуйнейшы востраў у Міжземным моры, аўтаномны рэгіён Італіі. Насельніцтва — 4,84 млн чалавек. Сталіца — Палерма.

Слоўнікі ж сцвярджаюць, што слова паходзіць ад сіцылійскага *mafiusu*, што можна перакласці як «усёдазволенасць», а таксама «смеласць» або «бравада». У сваю чаргу, сіцылійскае *mafiusu*, найхутчэй, прыйшло ад арабаў, што панавалі тут у IX–XI стагоддзях. У арабскай ёсць некалькі падобных каранёў, якія азначаюць і адлучаную ад грамады асобу, і пячору, у якой можна схавацца, і махляра.

Зрэшты, якую з версій ні вазьмі — кожная сведчыць нежаданне быць пад уладай чужынцаў.

## Перш кроў і гонар, а пасля дзяржава

Тым часам ураджайная Сіцылія заўжды была ласым кавалкам, таму ніколі самім


DEPOSITPHOTOS.COM, BY ZX6R92

сіцылійцам не належала. Над імі па чарзе панавалі фінікійцы, грэкі, рымляне, арабы, нарманы, іспанцы. Хто б ні прыходзіў, мясцовыя заўжды былі вымушаныя аддаваць свае набыткі мацнейшаму. Адсюль прыйшло і разуменне, што чужынцам давяраць нельга, а спадзявацца можна выключна на сям'ю. Перш кроў і гонар, і толькі потым дзяржава.

А ў 1738 годзе здарылася страшная сухмень, з-за вузкага Месінскага праліва з мацерыка на востраў рынуліся жыхары суседняй Калабрыі ў пошуках ежы. І тагачасны ўладар, іспанскі кароль Карлас III, ніяк не абараніў сіцылійцаў. Менавіта тады для абароны ад набегаў з'явіліся патрулі «пічыёці» — групы ўзброеных мясцовых людзей, якіх наймалі сяляне. Сяляне хацелі толькі вырошчваць прадукты, а не клапаціцца пра гандаль у заўсёды трывожныя часы. Так узгадоўвалася скептычнае стаўленне да дзяржаўных органаў.

У сучасным значэнні слова «мафія» ўпершыню ўжылі ў 1863 годзе Джузэпэ Рыцота і Гаспарэ Моска, паставіўшы спектакль «Мафіёзі Вікарыі». Гэта былі сцэны пра насельнікаў неапалітанскай турмы, пагардлівых і вульгарных. Героі спектакля гавораць на своеасаблівым жаргоне, трымаюцца пэўных рытуалаў і злачыннымі метадамі ўплываюць на грамадскае жыццё.

Пастаноўка мела шалёную папулярнасць. Дзякуючы Джузэпэ Рыцота слова «мафіёзі» са звычайнага прыметніка, што ўжываўся для характарыстыкі чалавека, які «з падазрэннем ставіцца да цэнтральнай улады», «крутога», пераўтварылася ў агульны назоўнік. А сюжэт і персанажаў аўтар узяў з жыцця. Яшчэ ў 1838 годзе генеральны пракурор сіцылійскай правінцыі Трапані П'етра Улоа запіша: «У многіх мясцовасцях існуюць брацтвы ў форме сектаў. Яны дапамагаюць, калі трэба дамагчыся адстаўкі аднаго чыноўніка ці падкупіць іншага, калі трэба кагосьці абараніць ці засудзіць невінаватага. Народ навучыўся дамаўляцца са злачынцамі. Многія высокапастаўленыя службоўцы магістрата прыкрываюць існаванне такіх брацтваў».

### Робін Гуды па-італьянску

Да сярэдзіны XIX стагоддзя, калі паўсюль у Сіцыліі сталі ставіць «Мафіёзі Вікарыі», па ўсім краі і папраўдзе дзейнічалі самаўпраўныя кланы галаварэзаў. Але бедныя сіцылійцы бачылі ў іх нешта кшталту атрадаў Робін Гуда.

Гэта акурат быў час, калі Сіцылія стала часткай Італьянскага каралеўства (1861 год). Рымскія чыноўнікі таксама пайшлі на супрацоўніцтва з кланамі, каб лепш кантраляваць паўвостраў, дзе і літаратурную італьянскую мову большасць жыхароў з цяжкасцю разумела. Праўда, ледзь не трапілі пад кантроль самі: мафія ўжо адчула смак вялікай палітыкі і стала прасоўваць на пасады зручных для сябе кандыдатаў.

Аднак паколькі народ жыў бедна, то не вельмі багата жыла і мафія. Да Першай сусветнай вайны ў ЗША эмігравалі 16 млн італьянцаў, значная частка з Сіцыліі. Што яны везлі з сабой, апроч мараў і спадзеваў на новае жыццё? Традыцыі і ідэі, сфарміраваныя на радзіме. Так «злое зерне» перакінулася за акіян. ▶

### Сіцылійская мова

У сіцылійцаў ёсць свая мова, адрозная ад літаратурнай італьянскай. На яе аказалі лексічны і фанетычны ўплыў мовы розных заваёўнікаў, якія валодалі Сіцыліяй у розныя часы. Распаўсюджаная яна не толькі ва ўласна Сіцыліі і астравах Сіцылійскага архіпелага, але і на прылеглых мацерыковых тэрыторыях поўдня Італіі (паўднёвая Калабрыя і паўднёвая Апулія). Праўда, афіцыйнага статусу гэтая мова не мае і апошнім часам занепадае. Але на ёй выдаецца спецыяльная версія шматмоўнага часопіса «Кур'ер ЮНЕСКА», а таксама існуе асобны раздзел «Вікіпедыі», у якім на сённяшні дзень больш за 25 000 артыкулаў.






**Горад Карлеонэ**, Сіцылія.

## ▸ Мафія і Другая сусветная вайна

Ці можна было выкараніць мафію? Самым эфектыўным змагаром аказаўся Беніта Мусаліні. Таталітарны рэжым не мог дазволіць існавання паралельнай улады, і мафія ў тым хутка пераканалася. Структуры знішчалі, кіраўнікоў садзілі ў турму. Яшчэ трошкі паднаціснуць — і засталася б сіцылійская мафія эпізодам у гісторыі.




**Да Першай сусветнай вайны ў ЗША эмігравалі 16 мільёнаў італьянцаў.**

Але яе выратавала геапалітыка. Афіцыйна гэты факт абыходзяць, але падобна на тое, што ў 1944-м «Коза ностра» (па-італьянску «Наша справа», так называлі сябе сіцылійскія мафіёзі) дапамагла саюзнікам высадзіцца на Сіцыліі. Ускосна пра гэта сведчыць змена палітыкі адносна мафіі. Пасля Другой сусветнай вайны мафіёзі, якія пры Мусаліні былі ў турме, сталі выходзіць на волю. Некаторых нават бралі працаваць у паліцыю, а былі і тыя, хто заняў дзяржаўныя пасады. Гэтак, Калагера Віцыні (дон Кало) стаў мэрам горада Вільялба і, кажуць, меў сувязі ва ўрадзе Хрысціянскай дэмакратыі.

## Мафія бывае розная

Злачынныя арганізацыі вельмі розняцца. Самая знакамітая мафія з Сіцыліі — «Коза ностра». Займаецца эканомікай, нелегальнай міграцыяй, наркотыкамі, спрабавала ўплываць на палітыку. Кодэкс гонару «Коза ностра» ўключае дзесяць пазіцый: ніхто не можа сам прыйсці ў «сям'ю», належыць быць пунктуальным і праўдзівым, паважаць жонку і трымацца далей ад паліцыі.

«Ндрангета» — мафія самага беднага рэгіёна Італіі, Калабрыі, што знаходзіцца на самым «носе» апенінскага «чаравіка», у непасрэдным суседстве з Сіцыліяй. Ад пачатку была філіялам «Коза ностра». Сёння «Ндрангета» кантралюе больш за 2/3 трафіку какаіну ў Еўропе. Слова «ндрангета» даўняе, ад грэчаскага *andrágathos* — герой, бясстрашны чалавек.

Самай беспрынцыпнай лічыцца неапалітанская мафія — «Камора». Там наркотыкі, будоўля, падробка фірмовага адзення, крымінал, гасцінічны бізнэс, таксічныя адкіды з усёй Еўропы. Па словах былога мафіёзі Рабэрта Савіяна, сцэнарыста фільма «Гамора»,



**«Хросны бацька» (*Godfather*)** — культавы фільм пра італьянскую мафію ў ЗША.




**Калагера Віцыні, або дон Кало, мэр Вільялба.** Яго крымінальнае дасье ўключала 39 забойстваў і 6 спробаў забойства, 13 выпадкаў гвалту, 36 рабаўніцтваў, 37 крадзяжоў і 63 выпадкі вымагальніцтва.

## 10 запаветаў «Коза ностра»

1. Ніхто не можа сам падысці і прадставіцца каму-небудзь з «нашых» сяброў. Ён павінен быць прадстаўлены іншым нашым сябрам.
2. Нельга нават глядзець на жонак сяброў.
3. Забаронены любы кантакт з паліцыяй.
4. Не хадзіце ў клубы і бары.
5. Заўсёды знаходзіцца ў распараджэнні «Коза ностра», нават калі ваша жонка нараджае.
6. Быць пунктуальным.
7. Да жонкі звяртацца паважліва.
8. Сваім казаць толькі праўду.
9. Нельга прысвойваць грошы членаў «Коза ностра» і іх сваякоў.
10. У «Коза ностра» нельга ўваходзіць, калі: блізкі сваяк служыць у паліцыі; сам ці сваяк здрадзіў жонцы; паводзілі сябе блага і амаральна.



**Скамп'я** — бедны раён Неапаля і бастыён «Каморы».

гадавы абарот «Каморы» складае дзясяткі мільярдаў еўра.

«Камора» – самая небяспечная і ўстойлівая. Калі іншыя мафіёзныя групоўкі маюць пірамідальную структуру, дзе наверсе ўсім кіруе адзін чалавек, то «Камора» складаецца з дробных ячэек і мае гарызантальную будову, дзе кіраўніцтва як такога няма. Калі знішчаецца адна ячэйка, астатняя структура застаецца і аднаўляецца. Больш за тое, у «Коза ностра» ёсць свой «кодэкс гонару», а неапалітанская мафія тым не пераймаецца і гатовая на ўсё.

Сёння неапалітанская мафія актыўна зарабляе тым, што бярэцца за грошы танна ўтылізаваць таксічнае смецце, якое ўтвараецца ў выніку працы розных прадпрыемстваў. Фактычна яно проста закопваецца ў зямлю, ад чаго вельмі цярпіць мясцовая экалогія. На маё пытанне, як неапалітанцы могуць звозіць таксічныя адкіды ў свой рэгіён, дзе яны самі жывуць, я атрымаў адказ, з якога вынікала абсалютная пагарда да людзей і наваколля. Хіба што праз суседства з Везувіем, што можа прачнуцца ў любую хвіліну, яны не плануюць свае дзеянні наперад больш за адзін дзень?

### «Мы хадзячыя мерцвякі»

Відаць, сіцылійскія босы не толькі прывезлі свае традыцыі ў Штаты, але і самі насыціліся норавамі амерыканскімі. Мафія чым далей, тым усё менш была справай сям'і і гонару і ўсё болей проста справай. Бізнэсам па-за законамі.

У 1957 годзе ў Палерма адбыўся сход асноўных мафіёзных сем'яў Італіі і ЗША, на якім утварылася адзінае кіраўніцтва. Італьянцы хацелі патрапіць у гераінавы бізнэс, амерыканцам былі патрэбныя палітычныя сувязі. У сярэдзіне 1980-х адносіны мафіі і ўлады былі настолькі відавочнымі, што ў мафіёзнасці падазравалі нават шматгадовага кіраўніка Італіі, хрысціянскага дэмакрата Джуліа Андрэоці.

Пералом адбыўся ў 1986 годзе намаганнямі суддзяў Джавані Фальконэ і Паала Барселіна. На распачатым імі судовым працэсе было 475 абвінавачаных. З іх 360 будуць асуджаныя, у тым ліку босы мафіі Тота Рыіна і Бернарда Правенцана. Грамадства ўпершыню на такім узроўні асэнсавала праблему, і стаўленне да мафіі пачало мяняцца.

Мафія адпомсціла. У маі 1992 года суддзю Фальконэ ўзарвалі. «Мы хадзячыя мерцвякі», — казаў Барселіна. І меў рацыю: усяго праз два месяцы пасля смерці сябра і калегі бомба, закладзеная ў машыну побач з домам маці суддзі, знішчыла і яго.

Гэтыя забойствы замест страху нарадзілі мужнасць. «Іх не забілі, іх ідэі ідуць разам з намі», — зрэагавала маніфестацыямі сіцылійская вуліца. Мафія ад гэтага не знікла, аднак арэол ▸

**Амерта́** (іт. *omertà* — мужнасць, гонар) — пакт пра маўчанне, які забараняе раскрыццё любой інфармацыі. Здрадай лічыцца вымаўленне любых слоў падчас следства, яна караецца забойствам здрадніка і ўсіх яго сваякоў. Аднак Джавані Фальконэ ўдалося пераканаць некалькіх босаў мафіі парушыць зарок.

«робінгудства» быў разбураны. Грамадства больш не гатова мірыцца з ёй і патрабуе ад палітыкаў рашучых дзеянняў. Літаральна цяпер, у 2021 годзе, у Калабрыі распачаўся працэс над 355 магчымымі мафіёзі з групоўкі «Ндрангета». Італія болей не спіць, і гэта, магчыма, найлепшы паказальнік стану краіны.



Італьянскія суддзі **Джавані Фальконэ і Паала Барселіна** асудзілі 360 мафіёзі, у тым ліку босаў мафіі Тота Рыіна і Бернарда Правенцана.

FOCUSJUNIOR.IT

### «Навошта ты пайшоў у паліцыю?»

Мафія сілкуецца там, дзе не працуюць законы і ёсць адчуванне несправядлівасці. Калі ў 2020 годзе пачаўся каранавірус і дзяржаўны механізм быў у разгубленасці, СМІ пісалі, што мафіёзныя кланы пачалі дапамагаць бедным, раздаючы ежу і пазычаючы грошы. Толькі гэта была не дабрачыннасць: мафія інвеставала ў лаяльнасць. Маўляў, калі дзяржава беднаму дапамагала? А вось бандыты – іншая справа.

У оскараноснай стужцы «Хросны бацька» да кіраўніка мафіёзнага клана дона Карлеонэ звяртаецца бізнэсмен, чыю дачку згвалтавалі. Афіцыйны суд не пакараў злачынцаў, і абражанаму бацьку заставалася толькі пайсці да мафіі. Карлеонэ спачатку адмовіў, бо палічыў, што да яго прыйшлі без належнай павагі, прапаноўваючы за паслугу грошы. Мафіі ж патрэбна іншае: ёй патрэбна адданасць.

Толькі калі бізнэсмен пераконвае боса мафіі ў сваёй вернасці, Карлеонэ пагаджаецца дапамагчы. Наўзамен бярэ абяцанне, што і бізнэсмен, калі спатрэбіцца, акажа паслугу. Дарэчы, Карлеонэ — рэальна існы горад, і слова «вендэта» там ведаюць не па чутках.

«Навошта ты пайшоў у паліцыю? Трэба было адразу звяртацца да нас», — абураўся дон Карлеонэ. Нездарма фільм лічыцца культавым, бо ён праўдзівы. Знаёмы англічанін ехаў на фабрыку пад Неапаль, і ў яго скралі ноўтбук. Што робіць законапаслухмяны жыхар Туманнага Альбіёна? Звяртаецца ў паліцыю. «Навошта ты пайшоў у паліцыю?» — толькі і спыталі

### Мафіёзная іерархія

***Capo di Tutti Capi*** — бос усіх босаў, кіраўнік усіх сем'яў.

***Capo di Capi Re*** — бос усіх босаў на пенсіі.

***Capofamiglia*** — дон, галава сям'і.

***Consigliere*** — кансультант дона.

***Sotto Capo*** — другі чалавек у сям'і.

***Capodecina (Capo)*** — салдат-«дзясятнік», кіраўнік ячэйкі.

***Uomini D'onore, Sgarrista, Soldato*** — пачатковец.

***Picciotto*** — кандыдат у сям'ю.

Іерархія строга захоўваецца, і мафіёзі-кіраўнікі з мафіёзі-«салдатамі» ніколі не кантактуюць наўпрост.




DISTRETTOTURISTICOSELINUNTINO.IT

Калі госці прылятаюць у Палерма, іх прымае **аэрапорт імя Фальконэ і Барселіна.**

на фабрыцы, як кіношны дон Карлеонэ, і па сваіх сувязях вярнулі ноўтбук.

## Гутарка з былым мафіёзі

Вось сіла мастацтва: 150 гадоў таму спектакль даў жыццё самому паняццю «мафія» і, цалкам магчыма, паспрыяў развіццю кланаў. У наш век велізарны ўплыў на мафію (і наадварот) мае кіно. «Хросны бацька», «Аднойчы ў Амерыцы», «Крымінальнае чытво» стваралі прыклады, як апранацца, як размаўляць, нават як трымаць пісталет.

Аднак калі вы хочаце больш праўдзівых фільмаў — глядзіце італьянскае кіно. Яно не рамантызуе злачыннасць. Памятаеце, у канцы 1980-х на савецкім тэлебачанні паказвалі серыял «Спрут» пра камісара


PINTEREST.COM

**«Спрут»**, 1986 год.

Карада Катані і яго барацьбу з мафіяй?

У 2008 годзе выйшаў фільм «Гамора», у якім былы ўдзельнік «Каморы», а сёння кінаакцёр Салватарэ Стрыана фактычна грае самога сябе. Вось што ён думае пра мафію:

*— Мафія па-ранейшаму хоча быць падобнай да мафіёзі з галівудскіх фільмаў?*

— Якраз наадварот, усё змянілася. Старыя вобразы вычарпаныя. Раней Галівуд рабіў вобраз мафіі ледзь не жартаўлівым. Сапраўдная ж мафія значна больш магутная, злосная, жорсткая. «Мафія» — гэта не забаўляльны фільм па тэлебачанні.

*— Вобраз мафіі ў сучасным італьянскім кінематографе можа быць прывабным для моладзі?*

— У такой краіне, як Італія, сапраўды ёсць рызыка таго, што многія маладыя людзі могуць зачаравацца светам злачыннасці. Але недастаткова паглядзець кіно пра «Гамору». У мафію прыводзяць неўладкаванасць жыцця і асяроддзе — праблема сацыяльная і вельмі драматычная для Італіі. ▶




DEPOSITPHOTOS.COM, BY ZX6R92

**Бедны раён Неапаля**, што пакутуе ад беспрацоўя і моцнага ўплыву «Каморы».

Літаральна месяц таму, праз 13 гадоў разбіральніцтва, італьянскі суд прызнаў мафіёзі вінаватымі ў пагрозах жыццю журналіста — і гэта было своеасаблівай маральнай перамогай над злачынным светам.

### *AddioPizzo*

Па зразумелых прычынах італьянцы на поўдні Італіі, дзе мафія моцная (на поўначы краіны такога няма), непасрэдна пра мафію расказваць не любяць, а калі гавораць, намагаюцца пазбегнуць імёнаў і месцаў. Напрыклад, адзін сіньёр X паехаў з інспекцыяй на фабрыку пасты Y, бо там была вялікая недастача прадукцыі. X выявіў, што на вытворчасці проста цераз плот перакідвалі скрыні са спагеці. Усе ведалі і маўчалі, бо разумелі, што



ILGIORNALEOFF.IT

**Італьянскі акцёр Салваторэ Стрыана** быў удзельнікам «Каморы».

▶ Фільм «Гамора» зняты па аднайменнай кнізе журналіста Раберта Савіна, на сёння перакладзенай больш чым на 40 моваў. Аўтар нарадзіўся ў Неапалі і пра мафію ведае не з кніжак. З часу выхаду фільма паводле яго рамана ён дзень і ноч вымушаны быць пад аховай, бо мафія абяцала адпомсціць.

**Мафія — фенаменальна жывучая сацыяльная структура, захоўваецца на працягу прынамсі трох стагоддзяў.** Але не разрастаецца за межы тых колішніх дзяржаў, у якіх узнікла. На поўначы Італіі мафіёзныя структуры практычна не выйшлі за межы ўраджэнцаў поўдня.

тое прызначана мафіі. Калі X адзначыў факт крадзяжу ў рапарце, у ягоным нумары ў гатэлі раптам з'явілася труна. Персанал не мог патлумачыць, як тое здарылася, — ветрам надзьмула. На наступны дзень X з'ехаў, а галоўны офіс кампаніі больш не звяртаў увагі на непазбежныя страты.

Але не ўсе так бездапаможна пагаджаюцца са станам рэчаў. У 2004 годзе на Сіцыліі распачаўся рух *AddioPizzo*, які аб'ядноўвае нязгодных з рэкетам мафіі. Удзельнікі адмаўляюцца плаціць так званы *pizzo*. На дадзены момант у рух уваходзяць 1024 бізнэсы, 13 334 спажыўцы і 184 навучальныя ўстановы.

Вінчэнца Карбонэ, адзін з тых, хто падтрымлівае рух *AddioPizzo*, адказаў на мае пытанні.


WIKIMEDIA COMMONS

*— Як сталася, што Вы адкрыта пайшлі супраць мафіі?*

— Мы заўсёды падзялялі ідэалы руху. У 1980-я гады мой бацька пераехаў у Катанію, дзе набыў аптэку ў гістарычным раёне Старога горада. Да *AddioPizzo* мы далучыліся некалькі гадоў таму.

*— Ці адчуваеце Вы падтрымку сіцылійцаў?*

— Збольшага так. З гадамі падтрымка расце, бо свядомасць людзей абуджаецца. Аднак, каб цалкам выкараніць злачынны свет, гэтага недастаткова.

*— Што мусіць рабіць дзяржава ў барацьбе з мафіяй?*

— Для мафіёзі трэба прызначаць больш жорсткія турэмныя тэрміны і караць пазбаўленнем маёмасці. Але ж больш істотна, каб кожны з нас не плаціў хабар, не ўступаў у змову дзеля нейкага інтарэсу, не даючы мафіі грошы і магчымасць уплываць.

*— Ці здолеў рух AddioPizzo неяк паўплываць на сітуацыю?*

— Галоўнае, *AddioPizzo* дапамог зразумець, што мы можам змагацца і перамагаць. Мы бачым, колькі нас, мы бачым гатоўнасць дапамагаць адно аднаму. У *AddioPizzo* ёсць адукацыйныя праграмы ў школе, дзе мы тлумачым дзецям важнасць жыцця па законе.

*— Што дае Вам моцы рызыкаваць?*

— Даюць уласная годнасць і прывілей штодня хадзіць, не саромеючыся, з высока ўзнятай галавой.

*— Наколькі мафія інтэграваная ў грамадства?*

— Не магу адказаць. Існуюць розныя ўзроўні, але крадуць яны дакладна шмат.

*— Можаце распавесці пра тое, як жывуць мафіёзі?*

— Босы хаваюцца і жывуць як мышы ў цемры, у падвалах, абсталяваных як бункеры.


З АСАБІСТАГА АРХІВА ВІНЧЭНЦА КАРБОНЭ

**Вінчэнца Карбонэ.**

А дробныя (кішэннікі, нелегальныя паркоўшчыкі, іншыя зладзеі) жывуць звычайна, хіба што ў нейкай адасобленасці ад астатняга грамадства, бо ўсё ж разумеюць.

*— Калі турыст прыязджае на Сіцылію, як яму не стаць ахвярай мафіі?*

— Трэба мець пільнае вока ў любы час і ў любым месцы. Дакументы і грошы трымаць бліжэй да цела, каб скурай іх адчуваць. Пазбягайце неафіцыйных таксі, інфармацыю запытвайце ў афіцыйных асобаў (напрыклад, у гатэлі) і не наведвайце малалюдных месцаў. ◆



CORRIEREDELMEZZOGIORNO.CORRIERE.IT

**Такія налепкі выкарыстоўваюць удзельнікі руху *AddioPizzo*.**




**Манаства — абавязковы этап выхавання хлопчыкаў у будысцкіх краінах, у тым ліку і М'янме.** Філасофія будызму не перашкаджае, аднак, крывавай барацьбе за ўладу і супраць іншых народаў.

# М'ЯНМА: чаму там уладу трымае армія

**Армія М'янмы няспынна ваявала ўсе гады пасля Другой сусветнай вайны. Вось чаму яна ператварылася ва «ўладную касту», якая лічыць за сабой права трымаць уладу і не аддаваць яе нікому, піша Андрэй Дынько.**

Калі паглядзець на этнічную мапу М'янмы, мы пабачым, што дамінуючы народ бамар — ад якога і пайшла старая, звыклая многім назва гэтай краіны «Бірма» — займае раўніны ў цэнтры краіны. Тады як горныя раёны ўздоўж межаў заселеныя этнічнымі меншасцямі, якія на працягу ўсёй гісторыі М'янмы спрабавалі дабіцца незалежнасці ці хаця б самакіравання.

Гісторыя М'янмы ад часоў набыцця незалежнасці ад Вялікабрытаніі ў 1948 годзе — гэта гісторыя няспыннай грамадзянскай вайны. М'янмарскія сілавікі выхоўваліся і выхоўваюцца ў сітуацыі, дзе кошт жыцця — зусім нізкі.

Баі ішлі ў гарадах і джунглях, на трапічных астравах

## М’янма

Тэрыторыя: 678 500 кв. км
Насельніцтва: каля 53 млн чалавек
Дзяржаўная мова: бірманская
Сталіца: Найп’іду (з 2005, да таго Янгон (Рангун))




Мама і дачка. **Народ аха ў М’янме.**

і ў Гімалаях. Армія звыклая паліць вёскі і трапляць у засады. Гэта фактычна армія, якая ўвесь час свайго існавання была арміяй акупацыі тэрыторый пражывання нацыянальных меншасцяў.

У 1950-я армія ваявала з часткамі арміі кітайскага Гаміньдана, якія перайшлі ў М’янму пасля разгрому ў кантынентальным Кітаі.

У 1960-я галоўным ворагам стала кітайская ўжо камуністычная партызанка. Кампартыя Бірмы арыентавалася на Пекін, а не на Маскву, тады ў камуністычным руху быў падзел на проста «камуністаў» і «камуністаў-мааістаў».

Паступова сфарміраваліся і арміі нацыянальных меншасцяў, якія павялі барацьбу за незалежнасць. Карэны, напрыклад, пры дапамозе ЗША і Тайланда.

Усе гэтыя партызанскія арміі не ўтрымаліся б так доўга, калі б не наркатрафік спачатку, а да сёння — кантрабанда яшмы, каштоўных камянёў, рэдкіх парод дрэва і жывёл. Гэта абсалютна іншая рэальнасць, якую нам у нашых моцных і цэнтралізаваных дзяржавах Еўропы цяжка зразумець. Так званы «залаты трохкутнік», горны раён на сутыку М’янмы, Тайланда і Кітая, стаў найбуйнейшым у свеце цэнтрам вытворчасці наркотыкаў, не толькі опіуму, але і метамфетаміну. ЗША з цяжкасцю дабіліся, каб армія Бірмы хоць адносна прыкрыла гэты бізнэс.

І раз за разам армія М’янмы спускалася з гор у гарады даліны Іравадзі — гэта здаралася ў 1974, 1988 і 2007 гадах, — каб задушыць народныя паўстанні супраць дыктатуры.

Іронія гісторыі: армію М’янмы заснаваў генерал Аўнг Сан, бацька той самай Аўнг Сан Су Чжы, якую цяпер генералы зверглі.

І цікавы факт: Аўнг Сан, як і многія рухі за нацыянальную незалежнасць у Азіі, у сваёй барацьбе супраць каланізатараў падчас Другой сусветнай абапіраўся на японскіх захопнікаў, саюзнікаў гітлераўскай Германіі. Як і многія рухі за незалежнасць Усходняй Еўропы, бірманскія нацыяналісты спрабавалі скарыстаць з барацьбы імперый дзеля ўласнага інтарэсу.

Эканамічная палітыка арміі бывала рознай. У пачатку 1960-х хунта абвесціла пра «Бірманскі шлях да сацыялізму», ▶




Аранжавым у цэнтры краіны — **народ бамар.**




**Будыйскія манахі ў М’янме.**


Лагер уцекачоў з М'янмы ў Тайландзе.
WIKIMEDIA COMMONS

нацыяналізавала большасць прадпрыемстваў і адгарадзіла краіну ад замежных рынкаў. У 1980-я ўсё памянялася: на змену сацыялізму прыйшла сумесь капіталізму і натывізму, Захад наклаў санкцыі ў знак салідарнасці з нованароджаным рухам за дэмакратыю, а бум эканомікі Кітая выклікаў росквіт прыгранічнага гандлю. Генералы сталі мільянерамі — на кантрабандзе і наркатрафіку. Пасля пераходу краіны да «кантраляванай дэмакратыі» ў 2011-м пачаўся бурны эканамічны рост на глебе новых тэхналогій. У 2011-м амаль ні ў каго не было нават звычайных тэлефонаў, а ў 2016-м большасць ужо карысталася смартфонамі.


DEPOSITPHOTOS.COM_BY BMNUNES
**Жанчын-карэнак ні з кім не зблытаеш**: гэта яны з дзяцінства спецыяльна расцягваюць хрыбеткі шыі.

## М'янма не падпадае пад еўрапейскія ўяўленні і стандарты

Калі ў 2015-м на свабодных выбарах пераканаўча перамаглі дэмакратычныя сілы і Аўнг Сан Су Чжы, армія навязала сістэму, пры якой яна працягвала кантраляваць сілавыя ведамствы і мець «кантрольны пакет» у парламенце. Захад спадзяваўся, што адбудзецца мірная эвалюцыя да паўнавартаснай дэмакратыі. Але не: 1 лютага 2021 года адбыўся новы вайсковы


DEPOSITPHOTOS.COM_BY LKUNL

пераварот. Вайскоўцы проста не прызналі вынікаў выбараў, на якіх чарговы раз прайгралі.

Усеўладдзе сілавікоў не прынесла М'янме паспяховага развіцця. На сёння гэтая вельмі багатая на прыродныя рэсурсы краіна — самая бедная ў сваім рэгіёне. Яна адстае па эканоміцы і ад Бангладэш з яе паскуднымі кліматычна-сыравіннымі ўмовамі, і ад Індыі з яе этнічна-рэлігійным пэчворкам, і тым больш ад суседняга Тайланда, які па многіх прыродных параметрах з Бірмай супастаўны.

Гэта краіна, якая не падпадае пад еўрапейскія ўяўленні

Паветраныя шары над старажытнымі пагадамі **ў даліне Баман.**

і стандарты. Тут новую сталіцу Найп'іду генералы збудавалі па рэкамендацыях астролагаў. Тут на памежжах існуюць дэ-факта самастойныя дзяржавы, як Ва, дзе пад маўклівай апекай Кітая пануюць мясцовыя палявыя камандзіры. У М'янме сёлета масава стралялі ў дэманстрантаў на вуліцах, загінула да 600 чалавек (але і партызаны захапілі пару армейскіх базаў), аднак лідара апазіцыі, Аўнг Сан Су Чжы, утрымліваюць з належнай павагай — яна і першы раз, і цяпер была пад хатнім арыштам у прасторным доме, а не ў турме і не ў карцары. ◆



**Агратэхніка рысу складанейшая,** чым у бульбы.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY TOPTEN22PHOTO

# Вясёлае жыццё савецкага марака

## Першыя вялікія грошы Ігар Таркан зарабіў яшчэ курсантам

**Як спяваў Аляксандр Кулінковіч, «І рэк, і азёраў мы маем зашмат, а мораў няма, акіянаў няма». Але «марскіх людзей», якія сваю мару здзейснілі, сярод беларусаў нямала. І пры гэтым засталіся беларусамі. Пра сваё насычанае жыццё піша адзін з такіх, Ігар Таркан.**

Пасля заканчэння ў 1973 годзе школы ў Міханавічах пад Мінскам перада мной стала рубам пытанне: куды ісці далей вучыцца? Я тады сур’ёзна захапляўся стралковым спортам, амаль кожны дзень пасля вучобы садзіўся на дызель і ехаў на мінскі стадыён «Дынама» займацца ў ціры. Мой трэнер Канстанцін Рыгоравіч Мінгулаў надта хацеў, каб я заставаўся ў спорце. Таму абяцаў паспрыяць паступленню ў Радыётэхнічны інстытут, са спартыўнай кафедрай якога меў някепскія адносіны.



ФОТА З АРХІВА АЎТАРА

Ігар Таркан справа.

Аднак мяне вабіла не толькі радыётэхніка, але і мора. Можа, таму, што дзяцінства прайшло каля ракі Бярэзіны, якая тады была суднаходнай? Я мог гадзінамі назіраць, як па ёй ішлі баржы і буксіры. Мне тады здавалася, што больш магутнай і шырокай ракі не існуе ў свеце. І з зайздрасцю глядзеў на гэтыя буксіры: як жа мне хацелася на іх пабываць... А можа, гэта было таму, што мой дзед усё жыццё працаваў на сплаве лесу і ганяў плыты па той жа Бярэзіне? Як бы ні было, але да вады мяне цягнула нібы магнітам.

Таму яшчэ школьнікам быў настроены пасупаць у Вышэйшае ваенна-марское вучылішча радыёэлектронікі, у Ленінград. Але гэтая крыштальная мара дзяцінства і юнацтва разбілася пасля медкамісіі. Мяне забракавалі па зроку: высветлілася, што маю парушэнні ва ўспрыманні колераў. На мары стаць прафесійным вайскоўцам гэта ставіла крыж.

### Падмануць медкамісію

Тым не менш адчайвацца я не стаў, і калі простая дарога ў маракі аказалася перакрытай, паспрабаваў зайсці туды ж абходнымі сцежкамі. Скончыўшы школу і атрымаўшы

DEPOSITPHOTOS.COM, BY ВІКТОР

атэстат, паехаў у Калінінград і накіраваўся ў мясцовае мараходнае вучылішча.

Гэта ўстанова рыхтавала спецыялістаў не для ваеннага, а для цывільнага флоту. І я думаў, што звычайнай медыцынскай даведкі будзе дастаткова, каб туды паступіць. Але мяне чакала глыбокае расчараванне. Дакументы з даведкай прынялі, але адразу ж накіравалі на ўнутраную медкамісію.

У мяне было два тыдні часу, каб яе прайсці, і роўна столькі ж заставалася да ўступных экзаменаў. І тут мяне наведала геніяльная ідэя: трэба дастаць тую кнігу, па якой мяне ў Мінску тэсціравалі на адчуванне колераў! І вось я ўжо не іду, а бягу да абласной бібліятэкі.

За той час, які заставаўся да медкамісіі, я зазубрыў на памяць кожную з прыблізна сотні старонак з намаляванымі на іх рознакаляровымі плямамі, кругамі, трохкутнікамі і лічбамі. Маёй задачай было запомніць, якая карцінка адпавядае нумару старонкі. ▶



YANDEX.RU

**Калінінградскае мараходнае вучылішча** (цяпер Калінінградскі марскі рыбапрамысловы каледж) месціцца ў будынку шпіталя Святога Георга, пабудаваным у 1894–1897 гадах у стылі неаготыкі. Гэты шпіталь (спачатку як лепразорый і прытулак для старых) існаваў з 1329 да 1945 года. У школе пры шпіталі вучыўся Імануіл Кант.



Немагчымасць адрозніваць некаторыя колеры і адценні сустракаецца прыблізна ў 8% мужчын і 0,5% жанчын. Правяраюць адчуванне колераў на поліхраматычных табліцах Яфіма Рабкіна.

▶ На медкамісіі ўсё прайшло як мае быць, а пасля я паспяхова здаў і экзамены, хоць конкурс на спецыяльнасць «электрарадыёнавігацыя» складаў ажно 10 чалавек на месца. Так усімі праўдамі і няпраўдамі я дасягнуў сваёй мэты — стаў курсантам мараходнага вучылішча. Наперадзе былі амаль чатыры гады вучобы.


ФОТА З АРХІВА АЎТАРА

**Сябры-курсанты. Ігар Таркан — другі справа.**

## Колькі разоў нас хацелі адлічыць!

Сама мараходка — гэта навучальная ўстанова закрытага тыпу і нагадвала сапраўдную вайсковую часць з усім, што з гэтага вынікае: жыццё ў кубрыках па 20–40 курсантаў, строгі штодзённы расклад, нарады, звальненні ў горад толькі па выходных і толькі для тых, хто заслужыў. За гады вучобы я прыдбаў надзейных сяброў, з якімі падтрымліваю цёплыя адносіны да сёння.

Колькі ў нас было розных прыгод! Мы разам хадзілі ў звальненні, ездзілі ў будатрады, працавалі ў падшэфных калгасах, абаранялі гонар вучылішча на спартыўных пляцоўках, біліся на танцах за дзяўчат з мясцовымі, хадзілі ў мора падчас практыкі.

Колькі разоў нас хацелі адлічыць за паводзіны! Але мы выстаялі, адвучыліся, атрымалі дыпломы і размеркаваліся ў розныя арганізацыі ад Калінінграда да Мурманска ды Уладзівастока. І вось яно мора, чайкі, штормы, выспы — мара ўсяго жыцця. І мая гаспадарка — радыёрубка, радыёлакатары, пеленгатары і гідраакустычныя станцыі.


ФОТА З АРХІВА АЛЕСЯ ПАНЦЯЛЕЯ

**Дзяцінства аўтара прайшло ля Бярэзіны**, па якой у той час хадзілі баржы і параходы. Гадоў 20–30 таму рака абмялела. Такога разліву, як на гэтым фота 1940-х, ужо ніхто не памятае.

## Нерамантычнае рыбалоўства 24/7

Перад гэтым, праўда, было першае «баявое хрышчэнне», якое крыху астудзіла юнацкі рамантызм. Яшчэ будучы курсантам, я праходзіў практыку на вялікім маразільным траўлеры «Караленка». На ім якраз не хапала матросаў другога класа, таму мне прапанавалі заняць гэтую вакансію, а практыкавацца ў радыёрубцы і асвойваць сваю непасрэдную спецыяльнасць у вольны час. Я пагадзіўся, бо гэта давала магчымасць зарабіць як на той час добрую капейчыну, а практыкантам грошай не плацілі зусім. Курс мы ўзялі да берагоў Намібіі.

Вялікі маразільны траўлер — гэта такі параход-завод. Ён не толькі ловіць рыбу, але і мае цэх па яе хуткай перапрацоўцы. У ім рыбу сарціруюць, чысцяць, разбіраюць, а потым замарожваюць. Рыбныя вантробы, кішкі і іншыя адходы, а таксама т. зв. прылоў (акулы,

скаты, васьміногі, змеі і г. д.) ішлі на перапрацоўку ў іншы цэх — мукамольны.

Кожныя 4–6 гадзін у мора закідалі трал (вялізны сеткавы мяшок, які судна буксіруе за сабой) і падымалі на паверхню злоўленую рыбу. Лавілі як калі: ад 1–2 тон да 50-ці. Нягледзячы на колькасць вылаўленай за адзін заход рыбы і магчымасць яе перапрацоўкі, трал у вызначаны тэрмін па-любому зноў мусіў апускацца ў акіян. Тую ж рыбу, якую не паспелі да таго часу перапрацаваць, шлангамі змывалі ў мора, бывала, што і па некалькі тон. Такая практыка існавала на ўсіх савецкіх траўлерах. Калі ўлічыць, што пастаянна знаходзіліся на промысле некалькі сотняў рыбалоўных суднаў, то колькасць змытай за борт без усялякага толку рыбы — яна была ўжо нежывая — сягала некалькіх дзясяткаў тон кожныя суткі!

## Палякам ды югаславам выходзіць на бераг у Намібіі дазвалялася, савецкім — не

У экіпажа траўлера работы не перарабіць, таму ўсе працавалі 185 сутак кожны дзень у рэжыме восем праз восем гадзін без выхадных. Рыбацкі хлеб вельмі нялёгкі, і яшчэ добра, калі падчас рэйсу параход не трапіць у аварыю.

Аднойчы спатрэбіўся нам тэрміновы рамонт, для чаго


ФОТА З АРХІВА АЎТАРА

21-гадовы рамантык...

мы мусілі прышвартавацца ў намібійскім порце Уолвіс-Бэй. Намібія тады была акупаваная Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікай, і нампаліт адразу зрабіў нам кароценькае паведамленне пра варожую краіну, дзе пануе апартэід. А раз так, то нікому з нас не дазвалялася спускацца на бераг.

Гэта быў мой першы заход у замежны порт, але краявіды невядомай і экзатычнай краіны я могназіраць толькі праз ілюмінатар ці з верхняй палубы траўлера. Пры гэтым бачыў, як з параходаў іншых краін маракі ішлі ў горад пагуляць, пазнаёміцца з цікавосткамі, выпіць куфаль-другі піва, схадзіць на пляж ды паплаваць у акіяне.

Тады я першы раз у жыцці зразумеў, што савецкі марак — гэта марак другога гатунку, у адрозненне ад англічан, французаў і, як ні дзіўна, палякаў ды югаславаў, якія маглі спакойна сыходзіць на бераг. І ўвогуле, менавіта тады ў мяне знікла ўсялякае жаданне працаваць на рыбалоўных траўлерах, дзе з чалавека выціскаюць усе сокі, ператвараючы яго ў рабочую жывёліну.

### «Брэсцкая крэпасць»

Менавіта таму, калі праз тры месяцы пасля той практыкі на выпускным размеркаванні ў мяне была магчымасць выбіраць месца будучай працы, я выбраў кампанію, якая займалася перавозкамі грузаў. Марское судна, на якое я быў размеркаваны як радыёаператар другога класа, звалася «Брэсцкая крэпасць». Гэта быў транспартны рэфрыжэратар нарвежскай пабудовы водазмяшчэннем 4700 тон. Першапачатковы ▶


DEPOSITPHOTOS.COM, BY JFJACOBSZ

**Тры коцікі на пляжы ў Пелікан-Пойнце Уолвіс-Бэя ў Намібіі.** Не заўсёды маракам удавалася палюбавацца красою заморскіх краін, дзе яны швартаваліся.




Калі мы купляем рыбу, мы не задумваемся, **якая пякельная праца — вылавіць яе.**

суднаўладальнік з Гандураса даў судну назву «Санта Люсія», але пасля набыцця яго савецкай канторай «Мартрансфлот» карабель перайменавалі. І ніводзін іншаземец, як потым высветлілася, не мог вымавіць новую назву. У яго на лобе выступаў пот, а на вочы наварочваліся слёзы ад бездапаможнасці.

Наш рэфрыжэратар быў прызначаны для транспартавання прадуктаў глыбокай замарозкі. Для суднаў такога класа і таго часу (1978 год) ён меў даволі нядрэнную крэйсерскую хуткасць — каля 22,5 вузла (адзін вузел — 1852 м/г) — і добрыя ўмовы для экіпажа. У кожнай каюце размяшчаліся не больш за два чалавекі, былі душавыя, кандыцыянеры, койкі ў адзін ярус. Кают-кампанія і сталовая для экіпажа былі аздобленыя каштоўнымі пародамі дрэва. А ўсё, што было па маёй частцы — радыё- і электранавігацыйнае абсталяванне, сістэмы сувязі, гідраакустычныя прыборы, — увогуле найвышэйшы кайф. Усё замежнае, вядомых брэндаў. І знешне параход выглядаў эфектна.

Перад выхадам у мора быў традыцыйны збор экіпажа, знаёмства з рэйсавым заданнем. У Калінінградзе мы мусілі загрузіць трумы ды твіндэкі (міжпалубную прастору) спецыяльнымі ёмістасцямі з аміякам, на верхняй палубе замацаваць грузавікі маркі МАЗ і даставіць гэты груз у сталіцу Анголы Луанду. У Анголе ў той час ішла грамадзянская вайна. Савецкі Саюз падтрымліваў падчас гэтай вайны пракамуністычны «Народны рух за вызваленне Анголы» (МПЛА), а за спінамі іх праціўнікаў з «Нацыянальнага саюза за поўную незалежнасць Анголы» (УНІТА) стаялі амерыканцы.

Назаўтра мы выйшлі ў рэйс. Неўзабаве за кармой засталіся Балтыйскае і Паўночнае моры, Біскайскі заліў... Наш параход, рассякаючы хвалі, павольна, але ўпэўнена рухаецца згодна з курсам. Надвор'е стаіць проста цудоўнае: сонечна, акіян адлівае адценнямі бірузовага колеру. Судна ўвесь час суправаджаюць дэльфіны і чайкі, за бортам пырхаюць з вады лятучыя рыбы. Мара дзяцінства здзейснілася!

## І кожная другая — правакатар

Напярэдадні Канарскія астравы, у сталіцу якіх, Лас-Пальмас, мы заходзім для папаўнення запасаў прэснай вады і закупкі правіянту.




**Судна-рэфрыжэратар тыпу *Golar Nel* «Арыядна».** Прыблізна так выглядала «Брэсцкая крэпасць» («Санта Люсія»), пабудаваная ў 1968 годзе і спісаная ў 1993-м.


ФОТА З АРХІВА АЎТАРА

**Электранавігацыйнае абсталяванне ў «Брэсцкай крэпасці» —** найвышэйшы кайф!

Для экіпажа такія заходы ў парты заўсёды былі ў радасць, бо абавязкова планавалася звальненне на бераг, атрыманне валюты і гарантыя добрага баўлення часу, магчымасць набыць нейкія дэфіцытныя шмоткі ды іншыя тавары.

Каманда нашага судна налічвала недзе каля 40 чалавек, і пры звальненні ў іншаземных партах яна заўсёды разбівалася на дзве паловы, якія хадзілі на бераг па чарзе. Аднаму хадзіць было нельга, фарміраваліся групы па тры чалавекі: адзін з каманднага складу, а двое — шараговыя члены экіпажа. Перад выхадам на бераг быў абавязковы інструктаж, бо вораг ніколі не дрэмле і савецкі марак заўсёды павінен быць гатовы да любой нечаканай правакацыі.

Правакацыі, а дакладней спакусы, сапраўды чакалі за кожным рогам. У маё першае звальненне на Канарах, напрыклад, мы ўтрох — а я быў кіраўніком групы як афіцэр — зарулілі ў бар «Адмірал Нэльсан», замовілі там віскі, колы і кальмараў, якія тут жа плавалі ў акварыуме. Трэба было толькі пальцам тыцнуць у таго, які выклікаў найбольшы апетыт, — і праз хвілін з 20 можна было ўжо насычаць свой страўнік выдатна прыгатаваным далікатэсам. Бар знаходзіўся проста на ўзбярэжжы акіяна, адразу за ім пачынаўся пляж. А на пляжы тым кожны другі, дакладней кожная другая, — правакатар, здольны на любы крок у адносінах да савецкага марака...

Карацей, тым разам прыгод хапіла, банкет быў працягнуты, побач былі правакатары слабага полу, ліліся песні, нават танцы... А як вынік — спазненне са звальнення, доўгая размова з нампалітам пра маральнае аблічча і савецкі патрыятызм, напісанне тлумачальнай запіскі і пакаяннага ліста, пакладзеных на ўсялякі выпадак пад сукно з перспектывай даць ход у выпадку паўтарэння чагосьці падобнага. ▶

## Вайна ў Анголе і Намібіі

Гэта быў адзін з канфліктаў халоднай вайны. ЗША і СССР падтрымлівалі розныя бакі ў змаганні за ўладу ў Анголе пасля здабыцця гэтай краінай незалежнасці ў выніку крушэння дыктатуры ў Партугаліі. Прычым Масква і Вашынгтон дзейнічалі не сваімі рукамі.

З камуністычнага боку (Партыя працы Анголы) ваявалі кубінцы, зброяй і дарадцамі некаторы час дапамагалі югаславы, а пасля — румыны і немцы.

Праціўнікаў Партыі працы падтрымлівалі Паўднёвая Афрыка, Заір і Кітай.

Паўднёвая Афрыка акупавала ў Анголе вялікія тэрыторыі, каб стварыць буфер бяспекі для Намібіі — вялікай пустыннай падкантрольнай ёй тэрыторыі. Бо рух за вызваленне Намібіі, які называўся «Народная арганізацыя Паўднёва-Заходняй Афрыкі» (*SWAPO*), базаваўся ў ангольскім бушы. *SWAPO* карыстаўся падтрымкай СССР, але пасля таго, як ААН прызнала яго законным прадстаўніком намібійскага народа, яго стала фінансаваць таксама Нарвегія.

Тая вайна атрымала назву *Bush War*, вайна ў бушы — гэта значыць у саванне. У Паўднёвай Афрыцы яе называлі таксама «памежнай вайной». Як вайна ў Афганістане падарвала стабільнасць СССР, так памежная вайна падтачыла рэжым апартэіду ў Паўднёвай Афрыцы. У часе яе загінула больш за 2200 белых паўднёваафрыканцаў, каля 4000 кубінцаў і сотні тысяч ангольцаў з абодвух бакоў.

Яна скончылася сыходам паўднёваафрыканцаў з Намібіі, дэмантажом апартэіду ў Паўднёвай Афрыцы. Ну а Ангола засталася дыктатурай, якой 38 гадоў пракіраваў Жазэ Эдуарду душ Сантуш, сям’я якога кантралявала здабычу нафты. Камунізм і тут збудаваць не ўдалося.




**Начныя клубы Лас-Пальмаса** былі для савецкіх маракоў выпрабаваннем.

## Саветы і кубінцы

Праз тыдзень пасля перасячэння экватара на гарызонце нарэшце паказалася Луанда. Перад намі туды на даволі прыстойнай хуткасці зайшоў параход «Кастрычніцкая рэвалюцыя» з Адэсы. Ён ішоў з максімальнай асадкай, ватарлінія амаль злівалася з паверхняй акіяна. На палубе не было свабоднага месца: усё застаўлена кантэйнерамі. Яму адразу далі месца ля сценкі порта, праз пару гадзін за ім прышвартаваліся і мы. «Кастрычніцкая рэвалюцыя» адразу стала пад выгрузку, з трумаў паказаліся БМП, гарматы. Што было ў кантэйнерах, я не ведаю, бо іх адразу загружалі на «Уралы», за стырном якіх сядзелі кубінцы. Грузавікі хутка ад'язджалі ў невядомым кірунку.

Недалёка ад нас стаяла старая дызельная падлодка з Паўночнага флоту ВМФ СССР. Усе вайсковыя маракі былі апранутыя ў форму сіняга колеру, шорты і безрукаўкі, галаўныя ўборы нагадвалі пілотку, але з казырком.

На лодцы быў свой вакальна-інструментальны ансамбль, і кожны вечар матросы тэрміновай службы давалі двухгадзінны канцэрт. Іх рэпертуарам былі савецкія шлягеры тых гадоў, асаблівай папулярнасцю карысталіся песні Юрыя Антонава.

Больш савецкіх вайскоўцаў я там не бачыў, але ўвогуле ваякаў было шмат, у асноўным кубінцы. Усяго праз Анголу з 1975 па 2002 год прайшлі прыкладна 300 000 кубінцаў, 4000 з якіх знайшлі там вечны спачын.

## Зброі як смецця

У Луандзе я сустрэўся з адным кубінцам. Звалі яго Герман, яму было 28 гадоў. Выпускнік ленінградскай мараходкі, ён працаваў у Анголе капітанам малога рыбалоўнага траўлера. Паміж намі завязаліся сяброўскія адносіны, і мы адзін аднаму распавядалі пра сваё жыццё-быццё.

Герман быў жанаты з піцерскай дзяўчынай і пасля заканчэння вучылішча прывёз сваю нарачоную ў Гавану. Кубінцы тады любілі брацца шлюбам з рускімі. Але жыццё маладых не заладзілася — і жонка ўрэшце збегла назад на радзіму, не забыўшыся

## Калі пераходзіш экватар

Да пераходу экватара каманда рыхтавалася загадзя. Кожны марак, які ўжо перасякаў гэту нябачную рысу, меў грамату, якая абавязкова выдавалася пасля абраду. Абрад, дарэчы, даволі жорсткі, і кожны марак абавязаны быў яго прайсці. Адкруціцца ад гэтай працэдуры альбо неяк адкупіцца немагчыма!

А праходзіў ён прыблізна наступным чынам. На палубе ўзводзіўся імправізаваны памост з тронам, на якім сядзеў «Няптун» (як правіла, марак з вялікім стажам), а побач з ім — дзве «русалкі».

Ніжэй за памост з драўляных бочак з выбітымі днішчамі (2–3 штукі) збіралася труба, усярэдзіне якой па сценках былі прыбітыя кавалкі мешкавіны, змазанай мазутам. Каля бочкі стаялі верныя слугі Нептуна — «чэрці». За памостам Нептуна знаходзілася купель — басейн прыкладна 3 × 3 метры і глыбінёй 1,5 метра. Каля гэтай купелі таксама стаялі чэрці, побач — бочка, запоўненая віном.

Тым маракам, якія раней не праходзілі экватара і не мелі адпаведнай граматы, чэрці прапаноўвалі залезці ў трубу з бочак. Навічкі прапаўзалі па гэтай бруднай трубе, а на выхадзе з яе чэрці хапалі іх за рукі ды ногі і кідалі ў купель. Як толькі марак вынырваў, яго ўжо чакаў паўлітровы кубак з віном, які ён тут жа апаражняў, не вылазячы з купелі. На гэтым абрад лічыўся выкананым, і можна было падысці да Нептуна з русалкамі па віншаванні і грамату.




Рыбацкае судна **ў Японскім моры.**

напрыканцы абазваць свайго былога каханага малпай, а вялікага камандантэ — дэбілам. Герман узгадваў гэты перыяд свайго жыцця з усмешкай і гумарам, кажучы, што малпу ў дачыненні да сябе ён мог і даравацъ, пры гэтым паказваючы на свой валасаты торс, а вось абразу Фідэля — ніколі!

Акрамя кубінскіх вайскоўцаў, у Анголе ў той час было шмат цывільных спецыялістаў з Кубы розных кірункаў. Але практычна ўсе яны мелі зброю і ў любы момант маглі папоўніць шэрагі вайскоўцаў. У таго ж Германа рундук быў забіты стралковай зброяй розных калібраў, рознага прызначэння і розных вытворцаў. Тут табе і савецкі аўтамат АК-47, і амерыканская вінтоўка М-16, і зусім новенькі італьянскі пісталет *Beretta* 92.

Тады ў Анголе, як і ў любой іншай краіне, што ваявала, зброі было шмат. Яе можна было набыць тут за капейкі ці проста абмяняць на некалькі бляшанак згушчанага малака або тушонкі. Адпаведна, ніхто тут яе надта не цаніў. Аднойчы Герман запрасіў мяне пастраляць на беразе па мішэнях. Ягоныя знаёмыя кубінцы-вайскоўцы арганізавалі нам імправізаваны цір на пясчаным беразе Атлантычнага акіяна. З аднаго боку там была гара з каменных глыбаў, а перад ёю як мішэні былі расстаўленыя аранжавыя буі з рыбалоўных сетак.

Успомніўшы свой юнацкі досвед заняткаў у Канстанціна Мінгулава, я менш чым за гадзіну расстраляў увесь боезапас для пісталета «Берэта 92». Пабачыўшы маё добрае валоданне зброяй, Герман хацеў мне гэты пісталет ад шырокай душы проста падарыць. Але я, натуральна, адмовіўся, чым вельмі яго расстроіў.

А наступным ранкам мы паплылі далей, узяўшы курс у адкрытае мора, на паўднёвы ўсход Атлантычнага акіяна, дзе працавалі на здабычы рыбы рыбалоўныя маразільныя траўлеры. Там, у акіяне, мы павінны былі ўзяць на борт каля 4000 тон замарожанай рыбы і перавезці яе ў порт Абіджан (Бераг Слановай Косці).

Наперадзе ж яшчэ былі доўгія гады працы, шмат рэйсаў у Афрыку, Еўропу, Арктыку, Японію, дастаўка грузаў на астравы Вялікай і Малой Курыльскай грады і многае іншае. Пры ўсім гэтым было шмат цікавых і незвычайных прыгод. Усе іх апісаць можна было б толькі ў доўгай кнізе мемуараў. ◆

# СТАМБУЛ

## Альфа-горад, другі Рым, мяняецца на вачах

**Стамбул — гэта заўсёды мегапрыгода. І філасофскі напамін: нішто не вечнае, усё змяняецца, але не ўсё застаецца, піша Максім Маханькоў.**

Калі глядзіш на муры Канстанцінопаля, над якімі лунае турэцкі сцяг, разумееш, што нічога ў гэтым свеце не бывае вечнага і ніякія сцены не абароняць дзяржаву ад ворагаў, калі дзяржава занепадае. У 1453 годзе туркі захапілі Візантыю, а ў пачатку XX стагоддзя знікла з мапы Асманская імперыя. Адзінае, што нікуды не падзелася, — шматвяковая культура.

### Навіну ўводзяць, але старыны не рушаць

Пасля стагоддзя суму, старанна апісанага Арханам Памукам у яго нобелеўскім творы, Стамбул аджывае. Горад знайшоў сябе ў праектах інфраструктуры. Тут ізноў будуюць з візантыйска-асманскім размахам. У 2019 годзе ў Стамбуле пабудавалі найбольшы ў свеце аэрапорт, які зможа прымаць да 200 — двухсот, слухайце! — мільёнаў пасажыраў штогод, а таксама адкрылі хуткасную чыгуначную лінію «Мармарэй» з Еўропы ў Азію праз тунэль пад Басфорам. А цяпер турэцкія ўлады задумаліся пра будаўніцтва каля Стамбула канала, які б дубляваў Басфор.

Увесь горад забудаваны шырокімі аўтамабільнымі развязкамі, якія, праўда, усё адно

**Падземная мячэць Санкаклар** у Стамбуле, шэдэўр сучаснай рэлігійнай архітэктуры, была збудаваная ў 2012 годзе.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY MUHUR

не ратуюць ад дарожных затораў. У еўрапейскіх рэйтынгах па гэтым крытэры Стамбул на першых месцах. Толькі ўзброіўшы вас гэтай ведай, варта расказваць, што тут працуе *Uber* і досыць танна можна наняць аўтамабіль.

Але ўлады робяць усё, каб цалкам зручна можна было перасоўвацца грамадскім транспартам: найперш актыўна развіваюць усе прыдуманыя чалавецтвам рэйкавыя лініі. Яшчэ ў 1875 годзе ў Стамбуле, другім горадзе пасля Лондана, з'явілася падземная чыгунка. Цяпер тут 7 ліній метро, некалькі ліній сучаснага хуткаснага трамвая, фунікулёры, монарэйкавы надземны транспарт — і туркі ўвесь час шукаюць, што б збудаваць яшчэ. Пры гэтым яны захоўваюць усё, што мае гістарычнае значэнне: нават калі гэта чужая культурная спадчына і нават калі ім вельмі патрэбна тут дарога. Будуюць дарогі і развязкі ў абыход.

Для карыстання грамадскім транспартам трэба купіць электронны праязны *İstanbulkart*, прывязаць *HES*-код і папоўніць рахунак у апаратах на прыпынках.

А вось «далмушаў» (маленькіх маршрутак з хаатычным рухам) у сталіцы амаль не засталося — прынамсі, у цэнтры горада іх няма зусім.

## Сафійскі сабор, які стаў мячэццю

Калі ў вас ёсць толькі адна гадзіна на Стамбул і вы можаце наведаць толькі адно месца ў горадзе, няхай гэта будзе Сафійскі сабор.

Ён стаіць у самай старадаўняй частцы Стамбула, на поўдзень ад бухты Залаты Рог, у вусці якой у VII стагоддзі да нашай эры і зарадзіўся візантыйскі Канстанцінопаль.

Сусветна вядомы архітэктурны помнік і сімвал «залатога веку» Візантыі, Сафія перажыла некалькі імперый, паспела пабыць хрысціянскай царквой, мячэццю і нават свецкім музеем. З 2020 года Сафійскі сабор зноў стаў мячэццю. Гэтае палітычнае рашэнне выклікала шматлікія спрэчкі як унутры Турцыі, так і за мяжой. Але для турыстаў мала што змянілася – яны па-ранейшаму могуць наведваць храм, прычым цяпер за ўваход не трэба плаціць.

### Як паехаць?

У Турцыю ўсё яшчэ лятаюць беларускія самалёты — цераз Расію.

Беларусам для ўезду патрэбны адмоўны ПЦР-тэст, зроблены не раней, чым за 72 гадзіны да прылёту. Таксама перад вылетам неабходна



запоўніць спецыяльную электронную анкету на сайце турэцкага Міндароўя.

Працэдура займае 10 хвілін, па яе заканчэнні праграма згенеруе вам спецыяльны *HES*-код. Гэты код неабходна паказваць пры ўваходзе ў розныя ўстановы ў Турцыі. Такім чынам дзяржава адсочвае перамяшчэнні людзей — чарговая каранавірусная мера.

Віза беларусам не патрэбная.

Турэцкія ўлады сур'ёзна ставяцца да бяспекі на тэрыторыі Ая-Сафіі. Каля храма вы сустрэнеце вялікую колькасць кардонаў сілавікоў з аўтаматамі і вайсковай тэхнікай.

За некалькі кварталаў на поўдзень ад Сафійскага сабора можна пабачыць так званую «малую Сафію» — царкву Святых Сергія і Вакха. Яе пабудавалі незадоўга да Сафійскага сабора, відаць, тыя ж архітэктары. ▶



DEPOSITPHOTOS.COM, BY SASHKO

**У Стамбуле 7 ліній метро**, некалькі ліній сучаснага хуткаснага трамвая, фунікулёры, монарэйкавы надземны транспарт — і туркі ўвесь час шукаюць, што б збудаваць яшчэ.



▶ Уначы вельмі прыгожы від на Сафію адкрываецца з боку каляровага фантана ў парку Султанахмет.

### Мячэці

Парк Султанахмет вядзе да іншай рэлігійнай жамчужыны Стамбула — Блакітнай мячэці, галоўнай ісламскай святыні ў горадзе. Турысты яе часта блытаюць з Сафіяй, і гэта не дзіўна: пры будаўніцтве мячэцяў асманы пераянялі шматлікія элементы візантыйскага архітэктурнага стылю. Сваю назву «блакітная» яна атрымала дзякуючы блакітнай кафлі. Цяпер мячэць часткова на рэканструкцыі, таму турысту будзе цяжка пабачыць усё яе хараство.

Каля Блакітнай мячэці знаходзіцца галоўная плошча Стамбула — Султанахмет (альбо Іпадром). На Іпадроме захаваліся калоны і абеліскі часоў Візантыі, а таксама Нямецкі фантан, які падарыў гораду кайзер Вільгельм II. Найбольш старадаўнім аб'ектам на плошчы (як і ва ўсім Стамбуле) з'яўляецца Егіпецкі абеліск – яму ажно 3,5 тысячы гадоў! Яго з Егіпта прывёз у горад апошні імператар адзінай Рымскай імперыі Феадосій I Вялікі.

Адной з найпрыгажэйшых мячэцяў Стамбула лічыцца Сулейманіе. З будынкамі лазняў, медрэсэ, кухняў, бібліятэк, бальніц і абсерваторыяй мячэць утварае комплекс, па памерах супастаўны з гарадскім кварталам. Мячэць знаходзіцца на адным з пагоркаў Стамбула, таму адсюль адкрываецца фантастычны від на мегаполіс уздоўж Залатога Рога. Тут размешчаныя шматлікія тэрасы кафэ, у якіх можна ▶



DEPOSITPHOTOS.COM_BY_JAVARMAN

**У 2020 годзе Сафійскі сабор стаў мячэццю**, але гэта не шмат што памяняла. Усярэдзіне на чатырох вялікіх драўляных шчытах вісяць цытаты з Карана, а выявы хрысціянскіх святых на час намазу закрываюць тканінай. **Інтэр'ер Сафійскага сабора.**



RESORTTURKEY.RU

**Блакітная мячэць** — зусім побач з Сафійскім саборам.


**Чай у Турцыі** падаюць у чарках.

ФОТА АЎТАРА

▶ пакаштаваць мясцовы чай (яго ў Стамбуле п'юць вельмі шмат і падаюць у характэрных шкляных чарачках), салеп (духмяны напой з архідэйнай мукі) альбо традыцыйную турэцкую каву.

### Тапкапы і іншыя палацы султанаў

Побач з Сафіяй у раёне Султанахмет знаходзіцца велізарны палацавы комплекс Тапкапы. Ён быў заснаваны ў другой палове XV стагоддзя (адразу пасля захопу Канстанцінопаля) і да XIX стагоддзя заставаўся галоўнай рэзідэнцыяй султанаў (хаця ўжо з XVII стагоддзя яны больш любілі жыць у сваіх летніх палацах ля Басфора).

Сёння палац Тапкапы — адзін з найбольш вядомых музеяў свету. Сярод экспанатаў — парадная зброя, ювелірныя вырабы, каштоўны посуд. Тут захоўваюцца найважнейшыя рэлігійныя каштоўнасці мусульман: асабістыя рэчы пракрокаў, самы старадаўні Каран.

На тэрыторыі палацавага комплексу знаходзіцца гарэм, і гэта асобны музей. Не верце мясцовым касірам, якія кажуць, што гарэм можна абысці за 20 хвілін (супрацоўнікі стамбульскіх музеяў чамусьці любяць заніжаць рэальны час, патрэбны для наведвання). Там можна блукаць гадзінамі, каб пабачыць пакоі, дзе адпачывалі султан і яго жанчыны, нечакана сучасныя ўмывальні, раскошныя люстэркі — і канечне, «залаты шлях», якім наложніцы ішлі на ноч кахання да свайго пана.

Дарэчы, перанесці гарэм бліжэй да палаца султана пераканала ўкраінка Раксалана — спачатку наложніца, а потым жонка Сулеймана I.

Па дарозе на Тапкапы можна яшчэ пагуляць у парку Гюльханэ і паглядзець на старажытную Гоцкую калону, узведзеную ў II стагоддзі.

## Турцыя — свецкая дзяржава

Жанчыны могуць не перажываць за сваю бяспеку ў гэтай краіне, але не варта ігнараваць правілы дрэс-коду пры наведванні культавых аб'ектаў. Пры ўваходзе ў мячэці трэба абавязкова зняць абутак, завязаць хустку, прыкрыць ногі і плечы.


DAILYSABAH.COM

**Мячы і лукі прарока Мухамеда** ў музеі Тапкапы.


MIKESTRAVELGUIDE.COM

Багдадскі павільён **палаца Тапкапы.**



WIKIMEDIA COMMONS



**Вітальны ліст Раксаланы да Жыгімонта Аўгуста**, 1549 год.

**Мустафа Кемаль Атацюрк** (1881–1938), пасля паражэння Асманскай імперыі ў Першай сусветнай вайне ачоліў рух за незалежнасць і свецкасць Турцыі, дабіўся ліквідацыі ўрада султана і стварыў новую дзяржаву, у аснове якой быў суверэнітэт нацыі. Дзякуючы яму была ўведзена свецкая адукацыя, прынятыя крымінальны і грамадзянскі кодэксы на еўрапейскі ўзор, рэлігія аддзелена ад дзяржавы, жанчыны атрымалі выбарчае права, створаныя нацыянальныя банкі і нацыянальная прамысловасць. Быў лацінізаваны алфавіт і ўзяты курс на ачышчэнне турэцкай мовы ад арабскіх і персідскіх запазычанняў. Ён мае вялікі аўтарытэт у нацыі і свеце, 1981 год ААН і ЮНЕСКА абвяшчалі Годам Атацюрка. Партрэт Атацюрка — на ўсіх банкнотах турэцкай ліры.




У раёне Бешыкташ, што на поўнач ад Залатога Рога, знаходзіцца іншы палац султанаў — Далмабахчэ. Ён стаў асноўным з сярэдзіны XIX стагоддзя, да таго ж істотна адрозніваецца ад Тапкапы. Абдул-Меджыд I жадаў мець палац у стылі барока, каб паспаборнічаць у вытанчанасці з еўрапейскімі рэзідэнцыямі XVIII стагоддзя. Сярод асноўных славутасцяў — падораная брытанскай каралевай Вікторыяй жырандоля з багемскага шкла і збор карцін Івана Айвазоўскага, якія мастак выканаў па замове султана. З брамаў уздоўж палацавага комплексу адкрываецца фантастычны від на Басфор.

Пасля падзення імперыі ў палацы пасяліўся Мустафа Кемаль Атацюрк, заснавальнік сучаснай турэцкай дзяржавы. Тут ён і памёр 10 лістапада 1938 года. Палац заставаўся музеем аж да верасня 2007 года, калі турэцкі парламент вярнуў яму палітычную функцыю, зрабіўшы Далмабахчэ афіцыйнай рэзідэнцыяй прэм'ер-міністра ў Стамбуле.

## Базары

У Стамбуле знаходзяцца знакамітыя на ўвесь свет базары. На Егіпецкім базары (раён Эмінёну) гандлююць спецыямі, ▶


ISTANBULPOINTS.COM

**Хол у палацы Далмабахчэ.** Жырандоля, падараваная каралевай Вікторыяй, важыць як 4 трамваі.

У 2019 годзе ў выдавецтве «Янушкевіч» выйшаў пераклад нобелеўскага **рамана Архана Памука «Стамбул. Горад і ўспаміны»**. Гісторыя сям'і пісьменніка вельмі моцна перагукаецца з гісторыяй Турцыі.



▶ сухафруктамі, травамі і чаем. На Фермерскім рынку (раён Беяглу) — самыя свежыя прадукты для сваіх. Рынак Лалелі, або Рускі базар, — месца, дзе закупляюцца адзеннем і абуткам гандляры з нашага рэгіёна, а на Еўрапейскім рынку (раён Беяглу) прадаюць антыкварыят.

А найгалоўны, прычым найгалоўнейшы базар на ўвесь свет, — гэта Гранд-базар. Патурэцку ён завецца проста: Крыты або Вялікі рынак. Фактычна, гэта быў першы ў свеце паўнавартасны гандлёвы цэнтр. Будаваць яго сталі для стымуляцыі эканомікі краіны неўзабаве пасля захопу Візантыі туркамі. І перш-наперш паставілі будынак для гандлю тканінай проста побач з палацам султана Мехмеда II.

Цікава, што нават у самым першым будынку, прызначаным для гандлю тканінай, некалькі крамаў былі вылучаныя пад букіністыку, а яго паўночная брама была так і названа: Брама гандляроў патрыманымі кнігамі.


**Мячэць Нурасманіе на плошчы Чамберліташ** была пабудавана ў 1755 годзе ў стылі барока.

WIKIMEDIA COMMONS

Гранд-базар — гэта сапраўдны міні-горад у цэнтры Стамбула са сваімі жылымі памяшканнямі, мячэцямі, крынічкамі і нават могілкамі. У ім 61 вуліца, і яны

DEPOSITPHOTOS.COM, BY MOMO11353@HOTMAIL.COM

захавалі свае гістарычныя назвы: Каўпачнікаў, Кальяннікаў, Самаварная і г. д. У асманскія часы тут працавалі банкі, існавала біржа. Сюды абавязкова трэба прыйсці, каб пабачыць увесь усходні шык і паглыбіцца ў атмасферу турэцкіх базараў, нават калі вы не збіраецеся нічога купляць. Праўда, спакуса нешта набыць такая моцная, што вы наўрад ці ўтрымаецеся. Прынамсі паспрабуйце збіць цану, бо і гэта — частка культуры Гранд-базару.

### Калона Канстанціна

Недалёка ад Гранд-базару стаіць рымская трыумфальная калона Канстанціна, урачыста адкрытая ў 330 годзе ў чарговыя ўгодкі заснавання Канстанцінопаля. Калона стаіць на плошчы Чамберліташ, усутыч да прыпынку хуткаснага трамвая.

Менавіта тут разумееш, наколькі добра туркі ставіліся і ставяцца да неасманскай спадчыны Стамбула. Пасля захопу Канстанцінопаля з цэркваў проста зрабілі мячэці, а з калоны Канстанціна асманы толькі збілі крыж. Шматлікія аб'екты рымскага і візантыйскага перыяду знаходзяцца ў фенаменальным для свайго ўзросту стане. Такі кантраст з Беларуссю, дзе неразумныя і фанатычныя ўлады ў мінулым часам дазвання плюндравалі архітэктурную і духоўную спадчыну мінулага, ужо не кажучы пра тое, каб ашчаджаць яе падчас войнаў. Можа быць, гэтая бяда ішла ад таго, што краіна не была незалежнай, а хто з чужынцаў, «прыблуд», як пісаў Янка Купала, шкадуе чужога і чужое? Толькі светлыя, духоўныя людзі, а не ўсе яны былі такімі.


DEPOSITPHOTOS.COM, BY BOGGY22

**Калона Канстанціна**, IV стагоддзе.

У 1779 годзе калона Канстанціна моцна пацярпела ад пажару, таму на загад султана Абдул-Хаміда I яе ўмацавалі жалезнымі абручамі. Хаця, здавалася б, навошта туркам тая калона...

### Карміць галубоў і бараніць цюркамоўных

Каля Гранд-базару знаходзіцца яшчэ адна плошча — Беязыт. Тут галоўны ўваход Стамбульскага ўніверсітэта, заснаванага адначасова з Гранд-базарам, адразу па захопе Візантыі. Побач мячэць Беязыт, а таксама мармуровая пажарная вежа Беязыт.

Плошча сустракае велізарнай колькасцю галубоў, якіх можна пакарміць, а таксама дэманстрацыяй людзей з уйгурскімі блакітнымі сцягамі і плакатамі з антыкітайскім зместам. Турцыя, якая пазіцыянуе сябе як лідар і галоўны абаронца цюркамоўных народаў ва ўсім свеце, стала і адным з цэнтраў уйгурскай эміграцыі. ▶

**Уйгуры**
(даўней казалі яшчэ джунгары) — карэнны народ Усходняга Туркестана (цяперашні Сіньцзян-Уйгурскі аўтаномны раён Кітая). Заходнія дзяржавы і праваабарончыя арганізацыі абвінавачваюць Кітай у стварэнні канцлагераў для уйгураў, прымусовай стэрылізацыі насельніцтва, называючы гэта сапраўдным генацыдам. Адносіны паміж Турцыяй і Кітаем праз уйгурскі фактар пагоршалі, турэцкія ўлады публічна крытыкуюць Кітай за прыгнёт уйгураў. Але гандлёвыя адносіны паміж дзяржавамі ад гэтага не занепадаюць.



**Уваход у Стамбульскі ўніверсітэт (1453)** на плошчы Беязыт.




Яшчэ адна рэч, якая кінулася ў вочы ў Стамбуле, — увесь горад быў залеплены анонсам серыяла *Bir Zamanlar Kıbrıs* («Аднойчы на Кіпры»). Драма, што ў прайм-тайм ідзе на першым канале турэцкага тэлебачання, расказвае пра цяжкае жыццё турак-кіпрыётаў, якія сталі ахвярамі грэчаскай нацыяналістычнай арганізацыі *ЕОКА В* у 1960–1970-я гады. Аўтары серыяла падводзілі да таго, што толькі турэцкая акупацыя трэціны Кіпра ў 1974 годзе выратавала мясцовых туркаў ад вынішчэння грэкамі, тым самым абгрунтоўваючы афіцыйны погляд Турцыі на тыя падзеі.



## Муры Канстанцінопаля

Старажытны Канстанцінопаль з заходняга боку быў умацаваны пяцікіламетровымі мурамі Феадосія, пабудаванымі ў V стагоддзі для абароны ад варвараў. Перад сцяной быў выкапаны шырокі роў. Кожныя 55 метраў да сцяны былі прыбудаваныя 20-метровыя вежы. Шмат разоў сцены ратавалі горад ад штурму.

У канцы XIX і пачатку XX стагоддзя Феадосіевы сцены пачалі зносіць: маўляў, гораду трэба расці. А ў 1980-я гады ЮНЕСКА выдзеліла сродкі на аднаўленне разабраных адрэзкаў сцяны ў першапачатковым выглядзе.

Каля сцяны Канстанцінопаля можна перакусіць традыцыйнымі турэцкімі бурэкамі, а па дарозе назад у цэнтр паглядзець на акведук Валента. Пабудаваны ў IV стагоддзі, ён і цяпер з'яўляецца адным з сімвалаў горада. У ім было 26 метраў вышыні, і пракладзеныя па версе трубы забяспечвалі горад вадой ажно да сярэдзіны XIX стагоддзя. Сёння пад акведукам праходзіць ажыўленая аўтамагістраль — бульвар Атацюрка.


**Акведук Валента** з часоў Рымскай імперыі да XIX стагоддзя забяспечваў горад вадой.



## Галацкая вежа

Яшчэ адзін з сімвалаў горада — Галацкая вежа вышынёй у 61 метр. Яе ў XIV стагоддзі пабудавалі


DEPOSITPHOTOS.COM, BY DINOSMICHAIL

генуэзцы, якія адбілі гэтую частку горада ў візантыйцаў. Вежа служыла арыенцірам для мараплаўцаў і гандляроў, а сёння ў Галаце знаходзіцца шасціпавярховы музей з аглядной пляцоўкай, з якой бачны ўвесь Стамбул.

З Галацкай вежы можна спусціцца ўніз, да раёна Каракёй, дзе гандляры на кожным кроку прадаюць сувеніры, а ў паветры непаўторны водар смажанай рыбы і гранатавага соку. Варта пакаштаваць мясцовы далікатэс «балык экмек» (смажаная рыба ў булцы) і выпіць фрэшу.

Шмат рыбных рэстаранчыкаў знаходзіцца і на Галацкім мосце цераз Залаты Рог. Мост злучае Каракёй і Емінёму (раёны абапал вусця Залатога Рога), тут вам будуць прапаноўваць паромныя туры, але можна і зэканоміць, сеўшы на звычайны гарадскі паром: маршруты і сэрвіс ідэнтычныя. ▶

# БУРЭК

Для гэтай турэцкай выпечкі патрэбна асаблівае цеста *fillo*, прэснае і надзвычай тонка раскатанае. Уручную так раскатаць амаль немагчыма, таму звычайна набываюць гатовае (прадаецца і ў Беларусі).

Галоўны сакрэт — у начынцы. Паспрабуйце прыгатаваць бурэкі з парэем.

- 2 сцябліны цыбулі-парэю
- 3 сталовыя лыжкі аліўкавага алею
- 1,5 чайныя лыжкі солі
- 0,5 шклянкі тварагу
- 4 прамавугольнікі цеста *fillo*
- 1 яйка + 1 жаўток
- 4 сталовыя лыжкі несалодкага ёгурту
- 0,5 чайнай лыжкі алею для падліўкі
- 1 чайная лыжка чорнага кмену
- 1 чайная лыжка кунжуту

Белую частку сцяблінаў парэю разрэжце ўздоўж напалам, вымыйце і нарэжце тонкімі паўкольцамі. Нагрэйце аліўкавы алей і патушыце ў ім цыбулю. Калі яна размякне — пасаліце, паперчыце і працягвайце тушыць, пакуль не згатуецца. Пасля дайце астыць і змяшайце з тварагом.

Асобна змяшайце ёгурт, яйка і алей. Гэтую падліўку трэба акуратна пэндзлем уцерці ў прамавугольнік цеста, пасля ўздоўж шырокага боку выкласці начынку і асцярожна скруціць цеста трубачкай, нібы блінок. Атрыманую трубачку трэба завіць слімачком і пакласці на пергамент на бляху. Калі ўсе завіткі апынуцца на блясе, у рэшту соусу трэба дадаць жаўток і гэтым намазаць бурэкі зверху. Апошні акцэнт — пасыпаць выпечку кунжутам і чорным кменам.

Выпякаць належыць у добра нагрэтай духоўцы ў тэмпературы 180° на працягу 40 хвілін.

*Afiyet olsun*! Смачна есці!


TR.PINTEREST.COM

▶ Насупраць бухты, ля азіяцкага берага Стамбула, знаходзіцца найбольш рамантычнае месца — Дзявоцкая, або Леандрава, вежа. Дзявоцкая — бо нібыта нейкі султан пабудаваў яе для сваёй дачкі, якой напрарочылі смерць да паўналецця. Леандрава — у гонар юнага грэка Леандра, што палюбіў жрыцу Афрадыты і штоноч пераплываў Басфор, каб спаткацца. І вядома, абедзве гісторыі скончыліся трагічна: сум у Стамбуле — фірмовая «страва».



ФОТА АЎТАРА

Тут скрозь стаяць аўтаматы, куды можна кінуць манетку і атрымаць корм для катоў. Але не спяшайцеся карміць стамбульскіх мурак. Магчыма, рацыён стамбульскага дваровага ката лепшы за ваш. **Яны тут гаспадары, і туркі імі рэгулярна апякуюцца.**

## Сум у Стамбуле — фірмовая «страва»

Вежа-маяк на невялічкім востраве тут была яшчэ з рымскіх часоў: яна паказвала шлях караблям ноччу і ў туманнае надвор'е. У шторм невялікія судны прывязвалі да яе для бяспекі, каб іх не знесла хвалямі.

У сваім сучасным мураваным выглядзе вежа існуе з XVIII стагоддзя. Тут трымалі асуджаных на смерць або выгнанне, ізалявалі хворых на халеру, а ў 1990-я актыўная моладзь дамаглася дазволу ўладаў і выкарыстоўвала



**Дзявоцкая, або Леандрава, вежа.**

DEPOSITPHOTOS.COM, BY FARAWAYS



DEPOSITPHOTOS.COM, BY SEQOYA

будынак як арт-цэнтр. Цяпер яе абсталявалі пад турыстаў: аглядная пляцоўка, рэстаранчык і лаўка сувеніраў. А яшчэ адсюль відаць цудоўны захад сонца.

### Пешаходная вуліца Істыкляль

У паўночнай частцы еўрапейскага Стамбула знаходзіцца самая еўрапейская вуліца мегаполіса — Істыкляль у раёне Беяглу. Вуліца пачынаецца на плошчы Таксім (тут стаіць помнік Рэспубліцы і традыцыйна праходзяць масавыя акцыі пратэсту) і ідзе ў бок заліва Залаты Рог.

Усе 1,5 кіламетра на гэтай вуліцы вы будзеце сустракаць рэстаранчыкі, кафэ, вулічных музыкаў. Сярод цікавых ▶




**Басфор дзеліць горад і кантыненты на Еўропу і Азію.** Найбольш гістарычных аб'ектаў і помнікаў мегаполіса знаходзіцца ў Еўропе. На поўдзень ад бухты Залаты Рог — гістарычны Канстанцінопаль.

**Басфор дзеліць Стамбул на дзве часткі.**


DEPOSITPHOTOS.COM, BY MASTERLU


DEPOSITPHOTOS.COM, BY KORAYSA

### Румеліхісар і Анадолухісар

Гэта дзве крэпасці, якія знаходзяцца адна насупраць адной, Румелійская крэпасць — у Еўропе, Анаталійская — у Азіі. Румеліхісар туркі пабудавалі непасрэдна перад захопам Канстанцінопаля ў 1452 годзе, за рэкордныя 4 месяцы, каб перакрыць візантыйцам выхад у Чорнае мора і пачаць штурм горада. Асманы называлі гэтую крэпасць Боаз-Кесэн («тая, што пераразае горла»). Пасля падзення Канстанцінопаля яна стала мытным пунктам.
Анадолухісар пабудавалі крыху раней, у 1393 годзе, гэта самы стары турэцкі будынак у Стамбуле.

▸ будынкаў — касцёлы Антонія Падуанскага і Святой Марыі. Вулачка пешаходная, але па ёй ездзіць рэтра-трамвай, і з яго вокнаў найзручней ацэньваць архітэктурны ансамбль.

## Канец хрысціянства

«Пасля стварэння нацыянальных дзяржаў урады Турцыі і Грэцыі абыходзіліся з нацыянальнымі меншасцямі як з «закладнікамі», і ў выніку гэтай памылкі за апошнія пяцьдзясят гадоў Стамбул пакінула болей грэкаў, чым за пяцьсот гадоў пасля 1453 года», — піша Архан Памук.

Сёння можна смела канстатаваць, што Стамбул проста на нашых вачах страціў рэшткі сваёй хрысціянскай ідэнтычнасці. Старажытны раён Фанар, у якім пасля захопу Канстанцінопаля асманамі канцэнтравалася грэчаская культурная, духоўная і эканамічная эліта, пакідае найбольш сумнае ўражанне.

Яшчэ ў пачатку ХХ стагоддзя грэкі-хрысціяне складалі да траціны ад насельніцтва горада. Грэкі Стамбула былі інтэграваныя ў палітычную сістэму Асманскай імперыі і мелі ўплыў. Але пагромы, дэпартацыі, эканамічны прыгнёт не пакінулі ім ніякага шанцу.

Цяпер на ўвесь 15-мільённы Стамбул толькі каля 2 тысяч грэкаў. Будучыня ўКанстанцінопальскага патрыярхата змрочная. Праблема нават не ў тым, што большая частка паствы жыве за мяжой. Рэальная бяда ў тым, што турэцкая дзяржава дазваляе служыць у Канстанцінопалі толькі грамадзянам Турцыі, а грэкаў у Турцыі засталося крытычна мала, рэлігійныя ж адукацыйныя ўстановы зруйнаваныя. Хрысціянскі перыяд жыцця горада можна лічыць завершаным. ◆


DEPOSITPHOTOS.COM, BY LESHIY985

Істыкляль.

# МЁРТВАЯ РУКА

**Чым кіраваліся кіраўнікі Захаду ў апошнія гады перад распадам СССР і чым будуць кіравацца ў падыходах да цяперашняй Расіі? Адказы шукаў гісторык Андрэй Вашкевіч.**

Адзін з высокапастаўленых амерыканскіх чыноўнікаў, які наведаў СССР увосень 1991 года, падчас канфідэнцыйнай сустрэчы з Міхаілам Гарбачовым задаў яму пытанне: «Скажыце, калі ласка, а вы гублялі кіраванне атамнай зброяй падчас путчу і вашай прымусовай ізаляцыі ў Фаросе?»




**The Dead Hand: The Untold Story of the Cold War Arms Race and Its Dangerous Legacy** (у рускім перакладзе: Хоффман Дэвид. «Мертвая рука». Неизвестная история холодной войны и ее опасное наследие. Москва, 2012. 736 с.).

Гарбачоў на гэтае пытанне не адказаў.

Чаму гэтае пытанне так цікавіла амерыканцаў? У руках путчыстаў магла апынуцца зброя, здольная за пару гадзін знішчыць планету — стратэгічныя атамныя ракеты.

Кніга Дэвіда Хофмана прысвечаная савецка-амерыканскім адносінам у канцы 1970-х – пачатку 1990-х гадоў з акцэнтам на праблему атамнай, хімічнай і бактэрыялагічнай зброі. Можна сказаць, што гэтая кніга пра тое, як чалавецтва прайшло па мяжы самазнішчэння, само таго не заўважыўшы. 1980-я гады завершыліся канцом халоднай вайны і хуткім распадам СССР, таму можна сказаць, што гэты этап супрацьстаяння дзвюх супердзяржаў недастаткова ацэнены і прааналізаваны. Тады, у аптымістычных 1990-х, калі здавалася, што новая сусветная вайна больш ніколі не паўторыцца, гэта падавалася ўжо не асабліва і патрэбным. Як высветлілася, дарма. Сёння свет па напружанасці адносін Расіі і ЗША знаходзіцца акурат недзе ў першай палове 1980-х.

Маладыя не ведаюць атмасферу таго часу. А менавіта тады, за пару гадоў да з'яўлення класічнага «Тэрмінатара» з ягонай абстрактнай вайной машын супраць чалавецтва, амерыканцы, а пасля і савецкія людзі заходзіліся ад жаху, гледзячы фільмы накшталт «На наступны дзень» (ЗША, 1983), «Ніці» (Вялікабрытанія, 1984) або «Лісты памерлага чалавека» (СССР, 1986), прысвечаныя наступствам атамнай вайны паміж Варшаўскім блокам і НАТО.

То быў час шпіёнаманіі, праксі-канфліктаў у Афганістане, Анголе, Нікарагуа і жорсткіх узаемных абвінавачванняў. Менавіта тады, адкрываючы для сябе новыя і новыя сакрэты савецкіх узбраенняў (у савецкіх сілавых структурах у 1970–1980-я імкліва нарастала колькасць людзей, якія прапаноўвалі свае паслугі Захаду), амерыканцы даведаліся пра сістэму «Перыметр», якую яны, не ведаючы сапраўднай назвы, ахрысцілі «Мёртвая рука». Сістэма прадугледжвала магчымасць аўтаматычнага запуску савецкага атамнага арсенала нават у выпадку адсутнасці прамога загаду з цэнтра. Гэта была своеасаблівая зброя помсты, каб нанесці ўдар нават у выпадку гібелі ўсіх адказных за выкарыстанне атамнай зброі ў СССР. Амерыканцаў асабліва жахнула вельмі высокая аўтаматызацыя «Мёртвай рукі», бо яны разумелі, што менавіта чалавечы фактар з'яўляецца галоўнай перашкодай на шляху памылковага запуску атамных ракет.

## За крок ад гібелі чалавецтва

Аналітыкі Пентагона не памыляліся: чалавецтва было за крок ад гібелі. Напрыклад, 26 верасня 1983 года савецкі афіцэр Станіслаў Папоў атрымаў паведамленне аб пуску балістычных ракет па СССР з боку ЗША. Маючы паўнамоцтвы наносіць удар у адказ, афіцэр правільна вырашыў, што ▸

паведамленне памылковае. А вось што вырашыла б цалкам аўтаматызаваная сістэма?

У гэты час халодная вайна знаходзілася на сваім піку: усяго за тры з паловай тыдні да таго Савецкі Саюз збіў паўднёвакарэйскі пасажырскі «Боінг-747», які парушыў мяжу. Савецкія чыноўнікі апраўдваліся: амерыканцы пастаянна правакавалі савецкую супрацьпаветраную абарону сваімі вайсковымі самалётамі-разведчыкамі. Ужо тады нарадзілася тэорыя аб тым, што амерыканцы свядома падставілі рэйс Нью-Ёрк – Анкарыдж – Сеул пад савецкія знішчальнікі, каб спарадзіць міжнародны скандал.

У пачатку 1980-х гадоў адміністрацыя новаабранага прэзідэнта ЗША Рональда Рэйгана даведалася, што СССР размясціў каля сваіх заходніх межаў наваствораныя комплексы атамных ракет «Піянер». Гэтыя ракеты па сваіх характарыстыках не падпадалі пад савецка-амерыканскія дамовы часоў «разрадкі», але іх выкарыстанне магло хутка прывесці да перамогі савецкіх войскаў у выпадку вайны ў Еўропе. Больш за тое, Рональд Рэйган са здзіўленнем для сябе адкрыў факт, што ніякай гарантыі адбіцца ад савецкай атамнай зброі для амерыканскіх грамадзян няма ўвогуле. Толькі ўзаемнае гарантаванае знішчэнне! Сітуацыя такой бясконцай смяротнай сцэпкі не падабалася быламу галівудскаму акцёру, які абвясціў, што верне Амерыцы яе веліч. Так нарадзілася, з аднаго боку, канцэпцыя Стратэгічнай абаронча ініцыятывы, якую любілі называць «Зорныя войны», а з другога боку, чарга бясконцых зваротаў да савецкага кіраўніцтва з прапановамі сустрэцца, пагаварыць, абмеркаваць перспектывы скарачэння атамных узбраенняў.




**Джордж Буш-старэйшы, ужо прыкуты да інваліднага вазка, і Міхаіл Гарбачоў у 2012 годзе.** Ветэран Другой сусветнай вайны Буш пражыў 94 гады. Гарбачову цяпер 90.

**Гарбачова амерыканцы лічылі адказным палітыкам, а таму да апошняга выступалі супраць незалежнасці Украіны, Беларусі і Казахстана — баючыся, што ядзерныя арсеналы ў адной з краін трапяць у рукі неадэкватнага кіраўніка**

### Страх перад неадэкватам

Ужо калі Савецкі Саюз пачаў рушыцца, галоўным клопатам амерыканцаў было забеспячэнне адэкватнага кантролю за савецкай атамнай зброяй. Гарбачова амерыканцы лічылі адказным палітыкам, а таму да апошняга

выступалі супраць незалежнасці Украіны, Беларусі і Казахстана — баючыся, што ядзерныя арсеналы ў адной з краін трапяць у рукі неадэкватнага кіраўніка.

Як згадвалі пасля дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР Сяргей Навумчык і Зянон Пазняк, у той час ніводзін амерыканскі дыпламат не наведаў ні Мінск, ні Кіеў, ні Алма-Ату. ЗША катэгарычна пагаджаліся з захаваннем Масквой кантролю над тымі саюзнымі рэспублікамі, дзе была атамная зброя, і толькі няўмольная інерцыя распаду знесла савецкую дзяржаву з карты свету.

Пасля распаду СССР страшны сон амерыканцаў пра атамны апакаліпсіс змяніўся страхам таго, што зброя масавага паражэння з постсавецкай прасторы трапіць у Іран, Ірак, Паўночную Карэю ці проста якім-небудзь тэрарыстам. Дэвід Хофман прыводзіць дзясяткі гісторый пра тое, як прыдатны для вырабу «брудных» бомбаў або сапраўднай атамнай зброі ўран знаходзілі на закінутых складах нейкіх інстытутаў або паўразбураных вайсковых часцей па ўсім былым СССР. Амерыканцы патрацілі сотні мільёнаў долараў не толькі на дэмантаж савецкай атамнай зброі, але і на фінансавую падтрымку вучоных, і на збор і ўтылізацыю ўсіх гэтых раскіданых па лясах ды стэпах боепрыпасаў.

Напрыклад, на востраве Адраджэння ў перасохлым Аральскім моры былі адшуканыя магільнікі з нечым падобным да ружовай гліны — дзясяткамі тон спораў сібірскай язвы, якімі планавалася начыняць авіяцыйныя бомбы. А ў адным казахскім гарадку каля 600 кілаграмаў зброевага ўрану «забылі» яшчэ ў сярэдзіне 1980-х пасля няўдачы чарговага савецкага зброевага праекта...

Беларусь, Украіна, Казахстан адмовіліся ад атамнай зброі і ачысцілі сваю тэрыторыю ад наступстваў гонкі ўзбраенняў. А вось Расія ўжо ў другой палове 1990-х пачала сваё змушанае эканамічнай катастрофай супрацоўніцтва з ЗША згортваць.

## Сярод стваральнікаў «Навічка» быў ураджэнец Магілёўшчыны генерал-маёр Анатоль Кунцэвіч

### Дзіўныя смерці

У галоўных герояў кнігі вельмі розныя лёсы. Стваральнік «Навічка» ўраджэнец Магілёўшчыны генерал-маёр Анатоль Кунцэвіч паспеў паўдзельнічаць у працэсах раззбраення, але пасля нават трапіў пад амерыканскую крымінальную справу за продаж кампанентаў хімічнай зброі арабам. І памёр ён дзіўна: у 2002 годзе ад сардэчнага прыступу ў самалёце над тэрыторыяй Сірыі.

Адзін з галоўных распрацоўшчыкаў савецкай бактэрыялагічнай зброі Канатжан Алібекаў перабраўся ў ЗША ў 1992 годзе і адыграў вялікую ролю ў нагнятанні істэрыі аб наяўнасці зброі масавага паражэння ў Ірака, што прывяло да ўварвання амерыканцаў у гэтую краіну — гэта была аперацыя, якая высмактала ў ЗША гіганцкія рэсурсы.

Мікрабіёлаг Уладзімір Пасечнік, які яшчэ ў 1989 годзе праз Францыю збег у Брытанію, раскрыў заходнім спецслужбам маштаб і дэталі савецкай праграмы па стварэнні бактэрыялагічнай зброі. На момант уцёкаў Пасечнік меў званне генерал-маёра. Памёр ён у 2001 годзе ў сваім доме ў англійскім горадзе Солсберы. У тым самым Солсберы, дзе праз амаль два дзесяцігоддзі з'явіліся ўзброеныя «Навічком» «турысты» з ГРУ Пятроў і Башыраў.

### Усё яшчэ страшней

Гісторыя «Мёртвай рукі» не скончылася разам з канцом СССР. Першае выданне кнігі Дэвіда Хофмана пабачыла свет у 2009 годзе, калі Уладзімір Пуцін ужо пачаў рабіць першыя крокі ў бок адбудовы імперыі і, адпаведна, новага супрацьстаяння з ЗША. Колькі ўсяго мы з таго часу пачулі пра новыя расійскія гіпергукавыя ракеты з атамнымі рухавікамі, супертарпеды або яшчэ невядома якую знішчальную зброю. А слова «Навічок» стала мемам. І найбольш небяспечным у акалічнасцях сучаснага супрацьстаяння падаецца тое, што слоганы пра ператварэнне ўмоўнага праціўніка ў «ядзерны попел» гучаць цяпер ледзь не з кожнага праса. У супермілітарызаваным СССР пра магчымае выкарыстанне атамнай зброі ў публічнай прасторы маглі гаварыць толькі генеральны сакратар, міністр замежных спраў і, вельмі рэдка, міністр абароны. Савецкія кіраўнікі, якія прайшлі праз вайну, яшчэ жыва памяталі яе жахі і, хоць самі былі ўжо старцамі, што-што, але небяспеку сусветнага апакаліпсісу разумелі. Самае небяспечнае — калі да ўлады ў адной з ядзерных дзяржаў прыйдуць людзі без гэтага разумення. ◆



# Верхняя Лужыца

## *Карэнныя славяне Нямеччыны*

**Без дзяржаўнасці захавацца народу амаль немагчыма. Лужычане дэманструюць цуды вернасці сваёй культуры. З'ездзіце туды, каб пабачыць гэтых адданых сваёй спадчыне людзей і падтрымаць іх, піша Сяргей Грунтоў.**

Рака называецца Ніса, яна цячэ з поўдня на поўнач і вельмі зручна для палітыкаў дзеліць гэтую зямлю на дзве часткі: нямецкую і польскую. На рацэ ўжо амаль дзевяць стагоддзяў стаіць горад, які называецца Гёрліц, — самы вялікі ў рэгіёне (56 000 жыхароў — меней, чым у Жодзіне). Рака вякамі падзяляла яго на дзве часткі, але ў XX стагоддзі правабярэжжа апынулася на польскім баку мяжы і стала лічыцца асобным горадам з назваю Згажэлец. Хоць папраўдзе горад адзін.

### Шавец, што бачыў, як утварыўся Сусвет

Нашы ўнукі, напэўна, будуць лічыць закрытыя межы недарэчнасцю. У Еўрапейскім саюзе яны ўжо сталі чыста сімвалічнымі.

Упершыню я прыехаў у Гёрліц цягніком у першы дзень Каляд. Засяліўшыся на польскім баку ў стары турыстычны пансіянат, паспяшаў да моста, каб перасячы мяжу. Тут пра яе нагадваюць




польскія і нямецкія памежныя слупкі на берагах — такі дэкаратыўны элемент, — а таксама вялікая і нязграбная бетонная памежная вышка з гэдээраўскіх часоў, якая сцеражэ пешаходны мост на польскім беразе.

Але наіўна было б думаць, што мяжа знікае, як толькі знікаюць памежныя шлагбаумы. Яна тут, яе і сёння перасякаюць тысячы разоў на дзень палякі, якія едуць на працу на багацейшы нямецкі бок, і немцы, якія пешшу прагульваюцца на польскі бок у таннейшыя кавярні і цырульні.

Адна з гэтых кавярняў месціцца ў доме з вокнамі на раку, дзе большую частку жыцця пражыў Якаб Бёмэ, адзін з самых вядомых (і складаных) нямецкіх містыкаў. З дня ў дзень ён шыў боты, і аднойчы да яго прыйшла містычная відзежа пра тое, як уладкаваны ўвесь Сусвет: з Богам, анёламі, дэманамі і чалавекам. Цягам жыцця ён пісаў трактаты, маляваў мудрагелістыя схемы з сістэмамі сусветаў, а па смерці адправіўся ў апошняе падарожжа праз раку, каб спачыць на старых могілках Святога Мікалая, дзе і цяпер захоўваецца яго магіла.

### Не-гатэль «Гранд Будапешт»

З вокнаў шаўцовага дома бачная апсіда гатычнага сабора, да якога ўжо ў XX стагоддзі прыбудавалі дзве вежы. Гмах гэты, як і многія падобныя да яго, уражвае пустатою ўсярэдзіне: Рэфармацыя тут была бязлітаснай і да людзей, і да ікон ды статуй. На хорах пануе велізарны «Сонечны арган» — цуд барочнага майстэрства, выраблены, як і ўсе найлепшыя арганы таго часу, у Гданьску. Фармальна сабор — гэта галоўная атракцыя, але наш час стварыў ёй нечаканую альтэрнатыву.

Не толькі людзям, але і гарадам здараецца прачынацца знакамітымі. У 2014 годзе гэта ▶

**Лужычане** — малы заходнеславянскі народ, блізкі да чэхаў, палякаў і славакаў. Іх саманазва — сербы, па назве аднаго з самых слаўных мясцовых плямён, таму мову часам называюць сербалужыцкай. Дарэчы, навукоўцы дагэтуль не прыйшлі да адной думкі адносна паходжання гэтага прадаўняга кораня «срб».

Немцы называюць іх «сорбамі» або «вендамі».

«Лужыца» — гэта не саманазва, а геаграфічнае паняцце. Яны займаюць балоцістую тэрыторыю, «лужыцу» па-мясцоваму. Цяпер гэта два анклавы сярод немцаў, астатнія балтыйска-палабскія славяне германізаваліся.

Верхнія і ніжнія лужычане гавораць на вельмі адрозных дыялектах, якія многія навукоўцы лічаць асобнымі мовамі. Гісторык Барыс Рыбакоў выказаў гіпотэзу, што гэта былі два розныя, ніяк не звязаныя між сабой племені, якія прыйшлі сюды з розніцай у пару стагоддзяў.

Верхнялужыцкая і ніжнялужыцкая адрозніваюцца як фанетыкай, так і лексікай. Шчасце па-верхнялужыцку «збожо», а па-ніжнялужыцку — «глюка».

Верхнія і ніжнія лужычане належаць да розных рэлігій: адны каталікі, другія — лютэране. Нямецкія манархі ў розны час забаранялі ці абмяжоўвалі выкарыстанне сербалужыцкай мовы. У той жа час цэрквы выкарыстоўвалі мову для прапаведзяў і выдання літаратуры.

Да моманту «Вясны народаў» у XIX стагоддзі лужычанамі сябе лічыла замала людзей, каб яны здолелі стварыць моцныя нацыянальныя інстытуты і застацца ў большасці на нейкай тэрыторыі, як чэхі, славакі ці беларусы. Тым не менш, у 1814 годзе ствараецца «Сербалужыцкае прапаведніцкае таварыства», а пасля «Маціца сэрбска» («маці») і «Дамавіна» («радзіма»).

Лужычане два разы прасілі вялікія дзяржавы дазволіць незалежную Лужыцу: на Версальскай канферэнцыі ў 1919 годзе і ў 1945 годзе. Абодва разы яны спрабавалі абаперціся ў сваіх спробах на Чэхаславаччыну, але ў першым выпадку заходнія саюзнікі, а ў другім — СССР не палічылі гэта патрэбным.

ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

▶ здарылася з Гёрліцам: у пракат выйшла стужка Уэса Андэрсана «Гатэль “Гранд Будапешт”». Эстэцкі фільм атрымаў чатыры «Оскары», шмат іншых узнагарод — і разам з тым нямала прыхільнікаў, якія захацелі той самы гатэль наведаць.

І тут высветлілася, што здымалі фільм у Гёрліцы, што пад гатэль быў «загрыміраваны» будынак гандлёвага дома пачатку XX стагоддзя і што цяпер ён стаіць зачынены. Але турыстаў стала так шмат, што былы гандлёвы дом вырашылі падрамантаваць (бюджэт рэканструкцыі — 30 мільёнаў долараў) і зноў адчыніць. Апошняя з многіх ужо названых датаў адкрыцця — кастрычнік 2021-га.

Гёрліц увогуле вельмі любяць кіношнікі, яго нават называюць «Гёрлівудам». Справа ў тым, што ў час Другой сусветнай вайны ён не быў разбураны, як многія іншыя нямецкія гарады.

### Што яшчэ здымалі ў Гёрліцы?

«Бясслаўныя вырадкі» Квенціна Таранціна
«Вакол свету за 80 дзён» з Джэкі Чанам
«Чытач» з Кейт Уінслет
«Кніжная зладзейка» Браяна Персівала
«Людзі-помнікі» Джорджа Клуні

### Музей настальгіі

Рака Ніса падзяляе не толькі дзяржавы, але і старыя гістарычныя вобласці: Саксонію і Сілезію. Па выніках XX стагоддзя, якое нібыта паставіла крыж на тэрытарыяльных спрэчках у Еўропе, Сілезія дасталася палякам. Так што сілезскія немцы вымушаныя былі выехаць са Згажэльца — і многія асядалі проста за мостам, у Гёрліцы.


TAG24.DE

**Пра мяжу нагадваюць паласатыя слупкі на беразе** і нязграбная гэдээраўская вышка.

Цяпер тут, у самым цэнтры Старога горада, размяшчаецца Сілезскі музей, які лепей было б назваць Музеем настальгіі. Уявіце сабе Нацыянальны гістарычны музей дзяржавы, якой не існуе. Тры паверхі археалагічных знаходак, картаў, партрэтаў князёў, манет, відаў гарадоў, побытавых рэчаў і фотаздымкаў. І амаль ні слова пра пасляваенны час. У гэтай цішыні выразна адчуваецца страх перад уласнай настальгіяй, якая, як усе памятаюць, вельмі лёгка ператвараецца ў разбуральны рэваншызм.

Самы ўсходні горад Германіі, Гёрліц яшчэ і адзін з самых танных, таму сюды папулярна пераязджаць жыць на пенсію. Час тут цячэ павольна і зберагае розныя дзівосы. Напрыклад, у паўночнай частцы Старога горада захавалася сярэднявечная Кальварыя (1480–1504) з капліцай Труны Госпадняй — паменшанай копіяй храма Труны Госпадняй у Іерусаліме. Іерусалімскі прататып быў істотна перабудаваны ў 1555 годзе, але дзякуючы гёрліцкай капліцы можна ўявіць яго першапачатковы выгляд.



**У Гёрліцы здымалі фільм «Гатэль “Гранд Будапешт”».** Цяпер гэта месца паломніцтва культуртурыстаў.

ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА



LOSTFILM.INFO



BUDGETTRAVELLER.ORG

**Бібліятэка ў Гёрліцы поўніцца скарбамі**: ад сярэднявечных манускрыптаў да Бібліі Францыска Скарыны 1519 года.

### Усе назвы — на дзвюх мовах

Ніса працякае праз самае сэрца рэгіёна, вядомага як Верхняя Лужыца, ці па-нямецку *Oberlausitz*. Назва яго паходзіць ад лужычан — чацвёртага заходнеславянскага народа, разам з палякамі, чэхамі і славакамі. Іх саманазва *сорбы* ці *сербы,* таму мову часам называюць сербалужыцкай.

Гэты народ жыве на тэрыторыі Верхняй і Ніжняй Лужыцы, а яго мова таксама дзеліцца на дзве: верхня- і ніжнялужыцкую. Гісторыкі тлумачаць, чаму так. Гэта насамрэч нашчадкі двух зусім розных славянскіх плямён, адно з якіх прыйшло сюды з Дуная з розніцай у пару стагоддзяў. Хоць яны і жылі побач паўтара тысячагоддзя, але розніца паміж імі захавалася.

Мовы абедзве знаходзяцца пад пагрозай вымірання: у Ніжняй




**Радуш.** Рэканструяванае славянскае гарадзішча 1-га тысячагоддзя н.э.

Лужыцы лужыцкай карыстаюцца толькі некалькі тысяч чалавек, у Верхняй на ёй умеюць гаварыць некалькі дзясяткаў тысяч.

Цэнтр Ніжняй Лужыцы — горад Котбус (лужыцкае: Хосэбуз).

Цэнтр Верхняй Лужыцы — горад Бу́дышын (нямецкае: Баўтцэн) за 50 км ад Гёрліца (лужыцкае: Згор'елц). Туды зручна дабрацца чыгункай, сеўшы пад старым дэбаркадарам згор'елецкага вакзала на цягнік у дрэздэнскім кірунку. (На табло Уроцлаў, з якога рушыць цягнік, па-нямецку названы *Breslau* — чым не падарожжа ў часе?) У цягніку добра чуваць польскую і ўкраінскую мову мужчын і жанчын, якія едуць на працу ў заможнейшы Дрэздэн (па-славянску: Дрэзджаны, многія гарады ўсходу Нямеччыны ў свой час заснавалі славяне, але ад колішняга славянскага масіву да сёння захаваліся толькі лужыцкія астраўкі).

Будышын вядомы з часоў Сярэднявечча, пра якое тут нагадваюць маляўнічыя гарадскія сцены з высокімі вежамі. Збольшага сцены былі разабраныя, і толькі фрагменты іх стаяць сярод гарадскіх вуліц. Такі культурны краявід — адна з адметнасцяў рэгіёна і сустракаецца практычна ва ўсіх яго большых гарадах.




**Будышын, лужычанкі.** 1950 год. Фота Рогера Рослінга.

## Яны жывуць адначасова ў двух гарадах

Моўнае і культурнае падваенне тут крыху адрозніваецца ад таго, што ўкладаем у гэтыя словы мы. Можна прыехаць у Баўтцэн з яго касцёламі, мастацкім музеем, нямецкімі віламі з XIX стагоддзя.




**Лужыцкая налепка на аўтамабіль.**




WIKIMEDIA COMMONS




У Будышыне адразу адчуваеш, што патрапіў у новы, адметны край: **усе назвы тут прадубляваныя на лужыцкай мове**, пачынаючы ад шыльды на вакзале: **«***Bautzen — Budyšin***».**

А можна ў Будышын — з яго Сербскім музеем, кнігарнямі з часопісамі і кнігамі на лужыцкай мове, крамамі этнасувеніраў і адпаведнымі фестывалямі.

Падзеленыя на два не толькі ўсе назвы ў Будышыне, але і мясцовы сабор. З невядомай прычыны пры пабудове ў XV стагоддзі сабор выгнуўся роўна пасярэдзіне, «павярнуўшы» ўправа. Гэты закладзены будаўнікамі паварот нечакана аказаўся вельмі дарэчным. У 1524 годзе сабор па той жа лініі згіну быў падзелены паміж дзвюма канфесіямі — і такім застаецца да нашага дня. Пярэдняя частка ад увахода да сярэдзіны належыць пратэстантам, а далей і да алтара — каталікам.

Здавалася б, Будышын выглядае як узорнае месца па падтрымцы этнічнай культуры, якая знаходзіцца пад пагрозай. Але ўсё роўна складана адбіцца ад сумных думак. Так, нямецкі ўрад фінансуе нацыянальныя ініцыятывы, выданні і фестывалі, а не праследуе іх, не насылае на іх падатковую, Дзяржстандарт і МНС. Музеі і культурныя цэнтры атрымліваюць шчодрае фінансаванне, а не выжываюць у паўжабрацкіх умовах.

А ўсё ж цэлы народ, калі ён пазбаўлены ўласнай дзяржавы, робіцца «бяспечным» у палітычным сэнсе і больш ні на што не прэтэндуе. Ён паволі ператвараецца ў турыстычную атракцыю — і гэта не можа не выклікаць шкадавання.

Дэмаграфічная статыстыка няўмольная. У 1900 годзе да лужычан сябе адносіла каля 146 тысяч чалавек. За гітлераўскімі часамі іх не прызнавалі асобнай этнічнай групай, за славянскую культурную дзейнасць пагражалі рэпрэсіі, і ўсё ж у 1945 годзе да лужычан сябе запісвалі прыкладна столькі ж, што і на паўстагоддзя раней. Цяпер іх усяго каля 60 тысяч чалавек. У ваколіцах Згор’елца лужычан увогуле практычна не засталося. Агулам у Саксоніі яны складаюць 0,9% насельніцтва, і нават у «лужыцкім хартландзе» — толькі 12%.

### Мары пра дасканалую прыгажосць

Тым не менш у Будышыне шмат візуальных прысмакаў. Кампактнае і размешчанае на плато паселішча часта канцом вуліцы ўпіраецца ў шырокі далягляд. А калі за Лужыцкім музеем спусціцца пад гарадскія сцены, то можна па адзін бок убачыць амаль ідэальны від на горад, які больш як сто гадоў тыражуецца на паштоўках, а па другі — аркі даўжэзнага чыгуначнага віядука. Цешыць вока і гарадскі музей з невялікай, ▶

***Z tobu sobu*** — песня лужыцкага панк-гурта *Berlinska Dróha*.





**Баўтцэн — Бу́дышын.**

ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

► але добрай мастацкай калекцыяй, у якой можна ўбачыць выдатныя працы Макса Лібермана, Ота Дзікса і тутэйшага майстра Ганса Унгера.

Ганс Унгер нарадзіўся ў Будышыне ў 1872 годзе і з дзяцінства праявіў выдатныя здольнасці да малявання. Бацька не быў арыгіналам: сказаў, што з гэтага не пражывеш, і адправіў сына вучыцца ў гандлёвы каледж. Але сын навучанне кінуў і пайшоў працаваць маляром.

Наступныя дзесяць гадоў можна было назіраць тое, што

На падтрыманне сваіх культурных інстытутаў лужыцкія сербы штогод атрымліваюць ад нямецкай дзяржавы 16,8 мільёна еўра.

называецца гісторыяй поспеху. Спачатку вучань-памочнік у мясцовага мастака-дэкаратара, потым тое ж у Дрэздэнскім тэатры, потым навучанне ў Дрэздэнскай мастацкай акадэміі — і вось, нарэшце, у 1897 яго працу «Муза» набыла Дрэздэнская мастацкая галерэя.

Далей прыйшлі слава і грошы. Ад карціны да карціны ён


WIKIMEDIA COMMONS

**Ганс Унгер**, каля 1925 года.




**Так скурчылася тэрыторыя, на якой гавораць па-лужыцку.** Знікала мова — а праз пару пакаленняў людзі пераставалі лічыць сябе асобным народам. Цяпер лужычане жывуць у двух маленькіх анклавах — у абсалютнай меншасці.

маляваў уяўную Аркадыю — аголеная жанчына на фоне паўднёвага краявіду (мадэллю заўсёды была ягоная жонка Марыя Антонія, а пасля — дачка Мая), кіпарысы, кветкі ў залатых вазах. Мары пра дасканалую прыгажосць і жанчыны з дзіўным халодным позіркам.

Але пачалася Першая сусветная — і ўсім стала не да прыгажосці. Мастакам паваеннага пакалення Унгер падаваўся ўжо безнадзейна састарэлым. Майстра, праўда, гэта мала турбавала. Свой стыль ён змяняць не збіраўся і працягваў жыць ва ўласнаруч створаным «залатым веку». Ён памёр у 1936-м — у адзін год з аўтарам «Заняпаду Еўропы» Освальдам Шпенглерам і спеваком брытанскай імперыі Рэдзьярдам Кіплінгам.

## Уздоўж ракі цягніком або роварам

Калі выправіцца з Гёрліца на поўдзень па чыгуначнай лініі, якая ідзе ўздоўж Нісы, пераскокваючы часам з берага

на бераг — з польскага на нямецкі бок і назад, можна ўбачыць шмат цікавага. Гэту дарогу можна адолець і на ровары — уздоўж усяго цячэння Нісы ідзе папулярная ў турыстаў веласцежка.

Радамежыцэ — з вялікім барочным палацам на востраве, акружаным шырокім ровам, і адно са старэйшых у Польшчы надмагілляў з выявай пахаванага на цвінтары — рыцара фон Лоса, памерлага ў 1313 годзе. Пры дарозе — вялікае возера, якое насамрэч з'яўляецца затопленым вугальным кар'ерам. Адна з манструёзных машын, якая рыла тут нетры, захоўваецца на нямецкім беразе як экспанат. А вось з польскага боку яшчэ кіпіць праца і працягваюць распрацоўваць кіламетровай даўжыні кар'еры.

Ніжэй па цячэнні ў лясах на беразе схаваўся цыстэрцыянскі кляштар Марыенталь, які быў закладзены ў 1234 годзе і бесперапынна дзейнічае да нашага дня. Падарожнаму ён гатовы прапанаваць цішыню, барока і піва ўласнай вытворчасці пад назвай «*St. M.*».

## 91-е дзіва

Хоць цягніком, хоць роварам, хоць пешшу — дарога непазбежна прывядзе ў горад пад назваю Цытау. Тут жыве 27 тысяч чалавек, але ёсць універсітэт (самы малы ў Германіі) і некалькі музеяў.

Самы вялікі прадмет гонару і скарб горада — гэта Вялікае велікоднае пакрывала з Цытау, якое захоўваецца ў спецыяльна для яго створаным музеі ў царкве Святога Крыжа.

І зараз у нашых касцёлах працягваецца традыцыя закрываць выявы Хрыста на алтарах перад Вялікаднем.


WJELBIK.DE

### Што наведаць у Лужыцы

**Сербскі музей у Будышыне**
Экспанаты для яго пачалі збіраць ад 1856 года. У 1937 годзе нацысты раскідалі экспазіцыю. Пасля вайны лужычане музей аднавілі. Цяпер пад яго аддалі вялізны будынак былых саляных складоў XVIII стагоддзя.

**«*Wjelbik*», лужыцкі рэстаран у Будышыне**

Падобная традыцыя была і ў Сярэднявеччы, калі спецыяльным радном закрывалі ўвесь алтар. Такіх пакрывалаў у свеце засталося ўсяго некалькі, і адно з самых вялікіх — 8,2 на 6,8 метра — і старых — 1472 год — захоўваецца ў Цытау.

Шмат разоў за гісторыю яно магло проста знікнуць у пажары ці ад рукі радыкальнага прыхільніка Рэфармацыі. Апошні раз выпрабаванне напаткала яго ў 1945 годзе. Палатно невядома навошта забраў з сабою салдат Чырвонай арміі як трафей, а пасля, вырашыўшы, што пакунак зацяжкі і не надта яму патрэбны, кінуў яго ў лесе. Але пакрывалу пашанцавала — яго выпадкова знайшоў адзін з жыхароў недалёкай вёскі, які ўзгадаў, як бачыў яго на экскурсіі ў школьныя гады. Ён забраў яго з сабою, прасушыў, а пазней перадаў у музей. Пакрывала ўтрымлівае 90 выяў з біблейскімі гісторыямі, а гэтую, 91-ю, пра цудоўнае ўратаванне, дзень пры дні расказвае аўдыягід кожнаму наведвальніку.

Гарадскі музей Цытау нагадвае нечым кабінет дзівосаў. Відаць, тут можна знайсці што заўгодна — ад жаночага абутку часоў барока да чэрапа мясцовага асветніка з XVII стагоддзя. Адна з самых папулярных частак у гарадскіх нямецкіх музеях сёння — гэта экспазіцыі пра штодзённае жыццё ў часы ГДР. Людзям падабаецца пазнаваць рэчы з уласнага дзяцінства, знаходзіць іх у музейнай экспазіцыі і наноў адкрываць іх каштоўнасць. ▶


WIKIMEDIA COMMONS

## ▸ Шпацыр па дэкарацыях

Для многіх турыстаў Цытау — гэта толькі прамежкавы пункт, каб адсюль паехаць далей у горы, да якіх тут толькі дзесяць кіламетраў. Найлепшы спосаб зрабіць гэта — скарыстацца вузкакалейнай чыгункай, якую аднавілі энтузіясты. Маленькі паравоз, які па дарозе абкурвае дымам усю ваколіцу, цягне за сабою некалькі вагонаў. Ехаць можна на адкрытай платформе (але тады давядзецца крыху наглытацца дыму), у звычайным вагоне ці ў вагоне-буфеце, дзе можна, гледзячы ў акно, выпіць усё тое ж «*St. M.*».

Цягнік едзе да станцыі Ойбін, вядомага курорта яшчэ з XIX стагоддзя. Слова «курорт» не азначае тут мінеральныя воды ці SPA — толькі выдатныя прагулачныя маршруты сярод лясоў і лесвіцы, па якіх можна падняцца на вакольныя скалы. Увесь пасёлак стаіць пад аднайменнай гарою, якая выглядае як скальнае плато, на якім у XIV–XV стагоддзях былі пабудаваныя сістэма


WIKIMEDIA COMMONS

**Летуценнік.** Каспар Давід Фрыдрых.

ўмацаванняў і гатычны касцёл. Ад усяго гэтага засталіся вельмі маляўнічыя руіны, па якіх можна гуляць як па лабірынце скалаў, сцен і гатычных арак. Тут жа, уверсе, захаваліся старыя могілкі і рэстаран, пабудаваны для турыстаў у XIX стагоддзі.

Ойбін знакаміты і тым, што яго неаднаразова маляваў самы


ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

вядомы нямецкі мастак часоў рамантызму Каспар Давід Фрыдрых. Ягоныя відарысы касцельных руінаў і асабліва арак гатычнага акна мясцовага сабора замалёўваліся менавіта тут. Яны моцна паўплывалі на візуальную культуру ўсёй Еўропы, а зададзеныя ім вобразы дагэтуль адгукаюцца ў многіх ілюстрацыях кніг, музычных альбомаў і ў дэкарацыях фільмаў.

З Ойбіна толькі гадзіна пешшу да чэшскай мяжы, палова дня да чэшскага горада Ябланэ-ў-Пад'ешцедзі (гл. пра яго ў №3/2021 «Нашай гісторыі»). Але я вяртаюся ў Гёрліц. Туды хочацца вяртацца, хай сабе вяртанне гэтым разам і азначае канец падарожжа ў Верхнюю Лужыцу. Але, як пісаў іншы нямецкі рамантык, «жыццё — гэта толькі доўгае вяртанне дадому». ◆



ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

Турыстаў з Цытау да Ойбіна возіць **сапраўдны паравоз.**

Вэб-сайт **штодзённай газеты «Сэрбске новіны»** — serbske-nowiny.de






**Георгій Лазычэнка,**
май 2021 года.

# «На вайне не хварэлі доўга — альбо паміралі, альбо папраўляліся»

**Сапраўдных ветэранаў Другой сусветнай вайны засталося ўжо вельмі мала. Адзін з іх — былы ваенны фельчар Георгій Лазычэнка. Двойчы паранены на вайне, якую прайшоў ад першага дня ў беларускім Барысаве да апошняга ў балтыйскім Сопаце, двойчы кавалер ордэна Чырвонай Зоркі, мае шмат баявых медалёў. Сёлета 21 красавіка ён адсвяткаваў сваё стагоддзе, незадоўга да таго ачуняўшы ад каранавіруса. І расказаў пра сваё жыццё Антону Рудаку.** ▸

### Сям'я

Нарадзіўся ва Украіне, у сяле Грэкава-Вішнявецкае на Луганшчыне, у 1921 годзе, акурат перад пачаткам вялікага голаду, які пракаціўся на Данбасе ў 1921–1922 гадах. Бацькі — непісьменныя сяляне. У сям'і нарадзілася адзінаццаць дзяцей. Праўда, усе сёстры, акрамя адной, памерлі немаўляткамі, выжывалі толькі хлопцы. Георгій нарадзіўся чацвёртым, старэйшым за яго быў брат Міхаіл, які знік без вестак у першыя дні вайны пад Кіевам.

### Сталенне

Пасля сканчэння чатырохкласнай школы малога хацела ўсынавіць бяздзетная сям'я настаўнікаў: маўляў, у беднай сям'і і так хапае дзяцей, усіх цяжка пракарміць. А быў жа акурат Галадамор. Ужо амаль сышліся, але ў апошні момант маці адмовілася і пакінула дзіця ў сям'і. У пяты клас хлопец пайшоў ужо ў суседнюю вёску, дзе ў дзесяць гадоў пачаў жыць адзін, у інтэрнаце — сам на пліце, у бляшанцы ад кансерваў, гатаваў сабе есці з прадуктаў, якія прыносіў з дому на тыдзень наперад. У 1928 годзе быў абвешчаны набор на шахты, бацька Георгія запісаўся ў шахцёры, а сам малы працягнуў навучанне ў школе побач з новым месцам бацькавай працы — за сем кіламетраў ад дому.

### Хвароба

У 1935 годзе яму раптам забалела горла — выявілася, флегманозная ангіна. На раніцу пасля аперацыі не здолеў паварушыцца — забралі ў шпіталь. Ляжаў доўга, не лепшала, і яго, чатырнаццацігадовага, выпісалі паміраць. Давялося ісці дадому дваццаць кіламетраў — і калі па роўнай паверхні крочыў лёгка, то на кожным пад'ёме ногі зноў адмаўляліся служыць. Тым часам побач праязджалі аднавяскоўцы, суседзі — ніхто і не падумаў падвезці хлопца, а ён сам не наважыўся папрасіцца. Затое маці прыехалі сказалі: ваш сын прыйдзе, але жыць ужо не будзе. Такія былі жорсткія часы і жорсткія людзі.

Аднак хлопец не толькі дабраўся дадому, але неўзабаве і ачомаўся ад хваробы.

### Медык

Скончыўшы школу, у верасні 1939-га пайшоў станавіцца на ўлік у ваенкамаце, а тады акурат абвясцілі дадатковы набор у вайсковыя вучылішчы. Малым марыў зрабіцца лётчыкам, але цяпер разумеў: здароўе не дазволіць, меў парок сэрца. Таму пайшоў у Харкаўскае вайскова-медыцынскае вучылішча. Вучыліся па скарочаным курсе, два гады замест трох. Нагрузкі былі дужа цяжкія, але цярпеў: баяўся, што, калі будзе скардзіцца, могуць адлічыць.



ФОТА З СЯМЕЙНАГА АРХІВА ГЕОРГІЯ ЛАЗЫЧЭНКІ

**Масква, 26 лютага 1942 года.**

Палову грошай, якія плацілі ў вучылішчы, дасылаў бацькам, а палову адкладаў — перад выпускам набыў сабе гадзіннік.

**Палову грошай, якія плацілі ў вучылішчы, дасылаў бацькам, а палову адкладаў — перад выпускам набыў сабе гадзіннік**

### Прызначэнне

Загад аб выпуску з вучылішча быў падпісаны 11 мая 1941-га, а праз месяц маладога фельчара размеркавалі ў Барысаў, куды ён мусіў з'явіцца 19 чэрвеня. Прыехаўшы ў вайсковы гарадок у Лядзішчы, атрымаў пасаду начальніка аптэкі медыка-санітарнага батальёна. Яго паабяцалі засяліць у адрамантаваны пакой пры Доме афіцэраў у панядзелак, 23 чэрвеня, а пасля — адпусціць дадому, у адпачынак.

### Вайна

Яшчэ ў вучылішчы ім так і казалі: «Вы едзеце на вайну». Ранак 22 чэрвеня заспеў Георгія на беразе Бярэзіны, калі ён глядзеў, як купаюцца чырвонаармейцы. Калі з «эмкі», якая пранеслася паўз яго, нейкі афіцэр пракрычаў: «Баявая трывога!» — ніхто нават не зрэагаваў, тады гэта была звыклая справа. А ўжо назаўтра ваенфельчар Лазычэнка атрымаў першае заданне: праравацца на машыне ў Мінск і забраць у адным з ваенкаматаў папаўненне — мабілізаваных медыкаў.

Дарога была страшнай: уся Маскоўская шаша была запоўненая ўцекачамі, якія беглі на ўсход. Над натоўпам раз-пораз беспакарана сноўдалі нямецкія штурмавікі, палівалі людзей кулямётным агнём. Падбітыя машыны проста спіхвалі на ўзбочыну.

### Страх

Параненых пад Мінскам у Магілёве ўжо не прымалі, шпіталь быў забіты пад завязку. Давялося везці ў Смаленск, а адтуль неўзабаве, перад пагрозай нямецкага наступу, перабірацца ажно ў Вязьму.

Самымі страшнымі на вайне былі моманты адступлення, бо тады была найбольшая рызыка трапіць у палон. Потым падобнае ён перажыве яшчэ раз — падчас маскоўскай панікі ў сярэдзіне кастрычніка таго ж года, калі будзе служыць там у эвакапрыёмніку цэнтральнага аэрадрома імя Фрунзэ на Хадынскім полі.

У астатнім — на вайне ўсё як і ў звычайным жыцці, толькі з больш трагічнымі наступствамі, кажа Георгій Лазычэнка.

**На вайне ўсё як і ў звычайным жыцці, толькі з больш трагічнымі наступствамі**

### «Шпіён»

Іх авіяцыйны эвакапрыёмнік фарміраваўся ў Вязьме. Начальнікам туды прызначылі іспанца, які перабраўся ў Савецкі Саюз пасля паразы рэспубліканцаў у Грамадзянскай вайне 1936–1939 гадоў.

(Пра лёсы іспанцаў у Беларусі чытайце ў артыкуле Андрэя Дзмітранка ў №2/2021: «Родны дом 52 гады даглядаў брат. Верыў, што яны вернуцца. І яны вярнуліся». Гэта пра бежанцаў з Іспаніі падчас грамадзянскай вайны 1930-х, якія апынуліся ў Беларусі. А некаторыя іх нашчадкі жывуць тут дагэтуль.)


ФОТА З СЯМЕЙНАГА АРХІВА ГЕОРГІЯ ЛАЗЫЧЭНКІ

**З будучай жонкай Валянцінай.** Тула, 1942 год.

Камандзір з’явіўся ў часці эфектна: у пэўны момант прыбеглі мясцовыя жыхары і закрычалі, што бабы схапілі пераапранутага немца. Калі Георгій выбраўся паглядзець на «шпіёна», аказалася, што гэта і быў той іспанец.

### Мара

Параненых перавозілі самалётамі-біпланамі У-2, насілкі змяшчалі паміж крыламі, у прымацаваных да іх фанерных скрынях, а ў зваротны бок, на фронт, везлі кроў для пералівання.

Ляталі без тэхнікаў, бо месца ў самалёце заставалася толькі адно, для ваенфельчара, таму і заводзіць самалёт, раскручваючы прапелер, даводзілася таксама яму.

Так своеасабліва спраўдзілася дзіцячая мара аб авіяцыі.

### Валя

Тулу, як і Маскву, немцы не ўзялі, але вывезці з горада збройнікаў параненых наземным шляхам было немагчыма з-за акружэння. Тут ён сустрэў будучую жонку.

Аднойчы на аэрадром прыйшлі на лыжах дзве дзяўчынкі. ▶


ФОТА З СЯМЕЙНАГА АРХІВА ГЕОРГІЯ ЛАЗЫЧЭНКІ

**На такіх біпланах У-2 вазілі кроў на фронт і забіралі параненых.** Станцыя Шамякіна пад Тулай, снежань 1942 года.



Фота з сямейнага архіва Георгія Лазычэнкі

Берлін, 27 мая 1945 года.

▶ Георгій папрасіў пакатацца — адна адмовіла, а другая пагадзілася. Катаючыся, так захапіўся, што, калі вярнуўся, уладальніца лыж ледзь не плакала. Георгію якраз надакучыла жыць у неацепленай хатцы на ўскрайку аэрадрома і спаць, не распранаючыся, і ён спытаўся ў новай знаёмай, ці няма ў іх дома месца, каб падсяліцца. Тая спытала дазволу ў мамы, і, разважыўшы, што лепш у хаце адзін афіцэр, чым пяць салдат, гаспадары прынялі кватаранта. Валі тады было шаснаццаць.

## Фронт

Пасля вызвалення Арла ён трапіў камандзірам санітарнага ўзвода на фронт ля Віцебска. У сярэдзіне чэрвеня іх дывізія пайшла ў наступленне, і ўжо 26- га горад быў узяты. Пэўны час заняла праца трафейных брыгад, папаўненне запасаў правіянту — у выніку яны адсталі ад свайго палка, нагнаўшы яго толькі ў раёне Паставаў.

У Літве яго чамусьці лічылі за свайго — толькі потым у сям'і даведаліся, што ў бацькоў, верагодна, насамрэч былі нейкія літоўскія карані.

Сур'ёзны супраціў ад немцаў сустрэлі ля Біржаў — тут ён атрымаў першае цяжкае раненне, у жывот. Лячыўся ў шпіталі ў тым самым Віцебску, але там кепска карміліі, і ў снежні ён зноў уцёк на фронт.

На вайне ўвогуле не хварэлі доўга — альбо паміралі, альбо папраўляліся, кажа фельчар.

## Вораг

У баявы кантакт з немцамі ўступаць не даводзілася, а мірнае насельніцтва, калі ўвайшлі ва Усходнюю Прусію, паўцякала ў страху перад абяцанымі прапагандай расправамі. У вучылішчы казалі, што клятва Гіпакрата абавязвае аднолькава ставіцца да любога хворага ці параненага і што трэба аказаць дапамогу кожнаму, але сутыкнуцца з ворагам у гэткіх абставінах яму так і не прыйшлося.

## Перамога

Канец вайны ён сустрэў на балтыйскім узбярэжжы ў Сопаце, прычым даведаўся аб гэтым ад сувязіста ў штабе дывізіі яшчэ 8 мая: той расказаў, што саюзнікі перадалі па радыё вестку пра капітуляцыю Германіі, акт аб якой быў падпісаны яшчэ 7 мая ў французскім Рэймсе. Афіцэры штаба сустрэлі вестку аб перамозе салютам з пісталетаў. Пры канцы мая наведалі Берлін і Патсдам, схадзілі на экскурсію па бункеры Гітлера.

## Вяртанне

З Германіі сваім ходам дабраліся ў Брэст. Праз горад вярталіся ў Савецкі Саюз остарбайтары, вывезеныя на працу ў Германію, ды іншыя ўцекачы. З іх фарміравалі працоўныя батальёны і часова накіроўвалі на шахты і будаўнічыя аб'екты, дзе яны працавалі, пакуль адбывалася фільтрацыя — правяралі, ці не супрацоўнічаў хто з немцамі. Адзін з такіх батальёнаў акурат мусілі накіраваць пад Тулу, куды Георгій хацеў вярнуцца да нявесты, таму ён ахвотна заняў там пасаду фельчара. Напрыканцы 1945-га яны з Валяй распісаліся, а ўжо ў наступным годзе ў іх з'явілася дачка.

## Горкі

Пасля вайны яго накіравалі ў Горкаўскае вучылішча зенітнай артылерыі. Найбольш уражвала, што ў горадзе, які нават не быў акупаваны, уздоўж трамвайных шляхоў расла бульба. Жытло таксама трэба было шукаць самім, з жонкай і нованароджанай дачкой ледзь адшукалі куток на прыватнай кватэры, дзе жыла сям'я з пяці чалавек.

З вайны ён прынёс толькі пару пакінутых уцекачамі нямецкіх лыжак, больш збіраць трафеяў не было як і куды — цяпер гэта, лічы, і была ўся яго маёмасць.

## Бульба

З прадуктамі было зусім кепска. Аднойчы начальнік медслужбы вучылішча афіцыйна выпісаў літр малака, каб бацькам было чым карміць дачку, а іншым разам малую пакусалі згаладалыя пацукі.

Участкі падсобнай гаспадаркі вучылішча, дзе можна было пасадзіць бульбу, былі выдзеленыя за 20–30 кіламетраў ад горада. Пасля малады афіцэр гандляваў гэтай бульбай на рынку ў цэнтры Горкага — як быў, у форме, бо цывільнай вопраткі не меў.

## Блуканні

З двума мяхамі накапанай бульбы жыццё пакрысе пачынала наладжвацца, ажно яго раптам выклікалі ў Маскву, дзе загадалі ехаць у Берлін: тады дачыненні між нядаўнімі саюзнікамі па антыгітлераўскай кааліцыі акурат пачалі абвастрацца (гл. пра гэта артыкул Андрэя Акушкі ў № 1/2021 «Нашай гісторыі»). Тут давялося правесці наступныя чатыры гады і толькі пасля вярнуцца да сям'і, атрымаўшы накіраванне ў Кішынёў. Тут Лазычэнка скончыў вечаровую школу і паступіў у Ленінградскую акадэмію тылу і транспарту — заскочыў у апошні вагон, бо толькі ў гэтай установе прымалі людзей да 32 гадоў.

Назаўтра пасля залічэння ўвесь курс — афіцэраў, у парадны форме — на цэлы месяц павезлі капаць бульбу.

## Лёс

Пасля, у 1961–1965 гадах, зноў была служба ў групе савецкіх войскаў у Германіі, адкуль вярнуліся з сям'ёй ужо ў Мінск. Тут ён у 1971-м, адслужыўшы ў войску трыццаць тры з паловай гады, выйшаў у адстаўку і заняў у Міністэрстве культуры БССР пасаду начальніка аддзела забеспячэння Галоўнага ўпраўлення рамонтна-вытворчых прадпрыемстваў.

У сярэдзіне 1960-х акурат зрабілі непрацоўным Дзень Перамогі і пачалі яго маштабна святкаваць. Калі ветэран упершыню выйшаў з дому ў парадная форме на свята, то нейкая жанчына на ўсю вуліцу пачала ўшчуваць яго за тое, што начапіў бацькавы ўзнагароды.

Ён і сёння выглядае гадоў на дваццаць маладзейшым за свой узрост, але прызнаецца, што ў розных абставінах па жыцці яму гэта і дапамагала, і шкодзіла. ◆

ФОТА З СЯМЕЙНАГА АРХІВА ГЕОРГІЯ ЛАЗЫЧЭНКІ



Георгій Лазычэнка і сёння выглядае гадоў на дваццаць маладзейшым за свой узрост, але прызнаецца, што ў розных абставінах па жыцці яму гэта і дапамагала, і шкодзіла.
**На фота: пасля вайны.**




# Агуркі

## Няспелая паўднёвая ягада на беларускім стале

**Ад нядаўніх часоў у Беларусі ёсць два помнікі агурку — у палескіх Альшанах і падняпроўскім Шклове. Абодва тыя паселішчы і іх жыхары здаўна славяцца агурковым промыслам, які захацелі ўвекавечыць у камені і бронзе. Увогуле ж агуркі займаюць прыкметнае месца і ў гісторыі ўсёй нашай цывілізацыі, і ў гісторыі Беларусі. Піша доктар гісторыі Алесь Белы.**

### З Індыі ў Еўропу

Агуркі людзі пачалі вырошчваць як культурную расліну каля 5–6 тысяч гадоў таму. Радзіма гэтай расліны — трапічныя і субтрапічныя раёны Індыі, падножжа Гімалаяў. Там продкі агурка да гэтага часу растуць у натуральных умовах. Гэтак званы агурок Хардвіка — дзікая ліяна, якая віецца па ствалах дрэў.

З Індыі агурок распаўсюдзіўся спачатку па ўсёй Азіі, трапіўшы ўжо ў легенды старажытных шумераў. А больш як 3 тысячы гадоў таму ён патрапіў і ў Егіпет. У егіпецкім храме Дахір-эль-Барс афарбаваныя ў зялёны колер агуркі намаляваныя разам з вінаградам. А габрэі, паводле біблійнай Кнігі Лікі, падчас Зыходу з Егіпта наракалі на тыя выгоды, што яны страцілі, кінуўшы наладжанае рабскае жыццё: «Мы памятаем рыбу, якую ў Егіпце мы елі задарам, гуркі і дыні, цыбулю і часнык» (Лік.11:5, пераклад Васіля Сёмухі).

Грэкі, здаецца, ведалі агуркі ўжо ў часы Гамера. Але асабліва яны распаўсюдзіліся ў антычным свеце пасля заваёў Аляксандра Македонскага. Вялікай пашанай гэтая агародніна карысталася ў Старажытным Рыме, дзе яе вырошчвалі не толькі ўлетку,

> Вясновы дождж абсыпаў градкі.
> Цвітуць, што зоркі, агуркі,
> А з клёна, што ідзе ўпрысядкі,
> Спадаюць пырскі-светлякі.
>
> *Пятрусь Броўка*

але і зімой, у цяпліцах. І лічылі не толькі важным прадуктам, але і лекамі ледзь не ад усіх магчымых хваробаў, уключаючы праблемы са зрокам і ўкусы скарпіёнаў.

Падзенне імперыі агуркі перажылі таксама лёгка і працягнулі сваю гістарычную кар'еру ў сярэднявечнай Еўропе. У часы Карла Вялікага (канец VIII стагоддзя) яны ўжо былі распаўсюджаныя па ўсім Захадзе. А да славян і да многіх германскіх народаў агурок трапіў з Візантыі — недзе ў другой палове І тысячагоддзя н. э., — што бачна па агульнай падобнай назве.

### «Паўночныя персікі»

Аднымі з піянераў масавага вырошчвання агуркоў у ВКЛ былі караімы, гэтыя цюркі-юдаісты (з XV стагоддзя), а таксама татары, якім наша агародніцтва шмат чым абавязанае. Цалкам верагодна, што сістэматычнае вырошчванне агуркоў спачатку нават прыйшло да нас з поўдня менавіта дзякуючы гэтым цюркскім народам.

Жыццё многіх пакаленняў троцкіх караімаў працякала перадусім у рытме вырошчвання і продажу агуркоў, прыкладна як сёння гэта адбываецца ў патомных агароднікаў у Альшанах або Шклове. Троцкім агуркам прысвячалі вершы, згадвалі ў дарожных дзённіках (у тым ліку і Уладзіслаў Сыракомля) задоўга да таго, як у поле зроку масавага спажыўца трапіла іншая, сёння найбольш вядомая мясцовая гастранамічная славутасць — кібіны (традыцыйная караімская выпечка з баранінай і цыбуляй). Нехта з віленчукоў нават запусціў у абарот паэтычнае вызначэнне троцкіх агуркоў — «паўночныя персікі».

Трэцяя «агурковая сталіца» Беларусі, акрамя Альшанаў і Шклова, — гэта райцэнтр Іўе на Гродзеншчыне, і менавіта дзякуючы шматлікім тут татарам. Праўда, помніка агурку тут няма: татары, на жаль, жывуць вельмі закрытай грамадой і знешніх маніфестацый іх культуры ў нас увогуле вельмі мала. Да таго ж апошнім часам, сыходзячы ад канкурэнцыі, яны ўсё больш пераключаюцца на памідоры і цыбулю.



ANTROPOCENE.IT

**Агурок пасяўны**, ці **агурок звычайны** (*Cucumis sativus*) аднагадовая травяністая расліна сямейства гарбузовых. Патрабуе шмат цяпла і вільгаці.
Плод агурка — шматнасенны, сакавіты, смарагдава-зялёны, пузырысты. Будова плода характэрная для сямейства гарбузовых і ў батанічнай літаратуры вызначаецца як гарбузіна. Але з пункту гледжання батанікі плод агурка — ілжывая ягада.
У пладах агурка нікчэмна малая колькасць бялкоў, тлушчаў і вугляводаў. У той жа час агурок утрымлівае шмат калію, а калій надта важны для здароўя сэрца.

### Агуркі па-віленску

Відаць, ад візантыйцаў быў пераняты нашымі продкамі ▶



GREENBELARUS.INFO

Альшаны.



Шклоў.

NN.BY

старажытны, вядомы яшчэ з антычнасці звычай есці агуркі з мёдам. Рэч у тым, што дзікія агуркі і многія пакаленні іх культурных нашчадкаў былі даволі горкімі. Таму мёд спачатку быў пакліканы проста заглушыць непрыемную горыч. А сённяшнія «салодкія» сарты былі выведзеныя селекцыянерамі ўсяго некалькі стагоддзяў таму.

Але дзе-нідзе стары звычай захаваўся дагэтуль. І перадусім у Літве, дзе агуркі з мёдам сёння лічацца традыцыйным нацыянальным дэсертам. У сучаснай Польшчы яго настальгічна называюць «агурок па-віленску», дый у Беларусі ён вядомы паўсюль. Літоўцы ўсяляк папулярызуюць яго ў турыстычным бізнэсе і нават у 2016 годзе прысвяцілі яму паштовую марку.




Лічыцца, што вялікім аматарам такіх агуркоў быў вялікі князь літоўскі і кароль польскі Ягайла. У рахунках яго і каралевы Ядвігі кракаўскага двара ў 1380-х гадах агуркі часта фігуруюць разам з мёдам.

У плане маніфестацыі «агурковай культуры» Беларусь, трэба сказаць, увогуле значна саступае Літве. Напрыклад, у былых радзівілаўскіх Кейданах, вядомых у гісторыі спробай заключэння уніі ВКЛ са Швецыяй у 1656 годзе, ужо амаль чвэрць стагоддзя праводзіцца маштабны фэст агурка. Цэнтральнай падзеяй яго з'яўляецца «чэмпіянат свету» па кіданні агуркоў удалечыню. Ды і папулярызацыі халадніку, немагчымага без агуркоў, на глабальнай гастранамічнай карце свету ў Літве надаецца вялікая ўвага і грамадствам, і дзяржавай.

### Агурок = няспелы

Лічыцца, што ў грэцкай мове візантыйскага перыяду агурок называлі *ἄγουρος / agouros* — «няспелы». Сапраўды, у адрозненне ад іх блізкіх сваякоў, дыняў, кавуноў і гарбузоў, агуркі ядуць і кансервуюць зялёнымі. Спелы агурок для харчовых мэтаў не надта прыдатны і надаецца толькі на насенне. Апроч славянскіх (і балцкіх) моў, падобныя назвы мае гэтая ягада ў дацкай (*agurk*), нямецкай (*gurke*), галандскай (*gurk i agurk*) мовах.

### «Буду паліваці дробнаю слязою»

Над «літоўскімі агуркамі», дарэчы, некалі зласлівілі польскія публіцысты: маўляў, «гэта выраджаныя польскія дыні». Такіх абразлівых стэрэатыпаў пра ВКЛ некалі ў Польшчы існавала процьма: тут і бацвінне — «свінская ежа», і бярозавік, і лёгкадаступныя жанчыны... Усе яны так ці інакш абыгрывалі беднасць і неўрадлівасць мясцовай зямлі, а таксама кепскі клімат «крэсаў».

Бо даўней агуркі лічыліся ежай беднякоў. Часам агурок быў адзінай ежай, у міжсезонне даступнай у незаможным доме. Нездарма ў польскай кухні салата з агуркоў са смятанай дагэтуль называецца *mizeria* — папросту «жабрацтва» на лаціне. Даводзілася чытаць, што такая назва стравы была калісьці шырока пашыраная ў Еўропе, але толькі ў Польшчы дажыла да нашых дзён. Між тым агуркі, памідоры і цыбуля са смятанай — гэта мегаздаровая ежа.

Неўраджай агуркоў у 1604 годзе занатаваны ў Баркулабаўскім летапісе як вялікая драма: «На Васіля святога... агуркі ў цвеце мароз пабіў, яка ж на той час у гаспадарстве мала хто бы меў агуркамі пахваліцца, хоць жа іх гаразда і добра кукобілі*».

А славуты гісторык і этнограф Зыгмунт Глогер, сплаўляючыся ў 1875 годзе на лодцы па Бугу, спыніўся ў вёсцы Мяжэнін (цяпер *Mężenin* у Замбраўскім павеце Падляшскага ваяводства Польшчы) на начлег і занатаваў:

«Наскрозь прамоклыя, мы былі радыя вітаць вялікі агонь у карчомным каміне. Аднак наколькі шынкарка была гасцінная, настолькі ў яе каморы было пуста. Пасля гарэлкі яна давала кожнаму госцю ў якасці закускі толькі сыры агурок. А паколькі Пракоп, наш вясляр, піў гарэлку, а мы знайшлі ў каробках некалькі плітак шакаладу, дык зварылі сабе шакаладны суп, які наша гаспадыня праз надмерную гасціннасць нечакана пасаліла, а на закуску паклала перад намі па жоўтым сырым агурку».

Няма чаго дзівіцца, што і ў нашым фальклоры агурок перадусім адлюстраваўся ў вельмі сумнай песні пра чалавечыя нягоды:

Пасею гурочкі
Нізка над вадою,
Сама буду паліваці
Дробнаю слязою.

* **Кукобіць** — старанна даглядаць, песціць, старабеларускае слова.




**Цяпліцы ў мусульманскім квартале Іўя**, Гродзенская вобласць.

**«Пасееш на Пахом — будзеш збіраць мяхом»**

У традыцыйнай беларускай вёсцы рэдкая гаспадыня не садзіла ў сваім агародзе хаця б 2–3 шнуркі агуркоў. Як гэта раней выглядала, апісала ў сваім цікавым даследаванні «Гісторыя на градках», што выйшла ў 2008 годзе, Любоў Ракава.

Садзілі агуркі на добра асветленых месцах, абароненых ад вятроў дрэвамі ці будынкамі. Часта побач сеялі мак, гарчыцу, каляндру, якія вабілі пчол.

Для атрымання больш ранніх агуркоў здымалі верхні пласт зямлі, укладалі пласт гною, а потым ізноў прысыпалі зямлёй. Пры перапраўванні гною выдзялялася цяпло, якое агуркі — усё ж такі трапічная ліяна! — вельмі любяць. «Дзе гноем смярдзіць, там і радзіць» — склалася на гэты конт прыказка.

Свята верылі, што найбольшы ўраджай будзе ў тых, хто пасее агуркі «на Пахома» (28, а па старым стылі — 15 мая). «Пасееш агуркі на Пахом — будзеш збіраць іх мяхом». Як правіла, гэта быў ужо не першы, а другі ці нават трэці пасеў — і папярэдне пасеяныя агуркі ўжо пайшлі ў рост, але хаця б адну градку ў гэты дзень пасадзіць лічылася абсалютна неабходным. Самы ж апошні тэрмін для таго, каб пасеяць гуркі, — свята Пятра і Паўла, якое прыпадае на 12 ліпеня (29 чэрвеня па старым стылі). Хоць увішныя гаспадыні да гэтага дня ўжо пачыналі збіраць першы ўраджай. Так, вікіпедыстка Вольга Сітнік, актыўная ўдзельніца групы «Сімвалічны свет беларускіх раслінаў», успамінае: «Мой прадзед Пятрок святкаваў імяніны на святога Пятра тым, што адкатваў свежы мёд і еў яго з першымі агурочкамі». ►

## Прарадзіма ў сучаснасці

Кітай, частку тэрыторыі якога таксама адносяць да прарадзімы культурнага агурка, — сусветны рэкардсмен у валавым зборы гэтай гародніны. Больш за 60 млн тон штогод — у 30 разоў больш, чым два наступныя «прызёры» гэтага п'едэстала, Расія і Турцыя. Гэтаму спрыяюць і тры ўраджаі на год, і фантастычныя па нашых мерках сярэднія памеры пладоў, у прыватнасці, сорта, які так і называецца, — «кітайскі цуд». А вось Індыі, афіцыйнай радзімы агурка, чамусьці няма нават у першай дзясятцы краін-вытворцаў. Магчыма, лічыцца, што, каб пракарміць амаль паўтарамільярднае насельніцтва, нельга разменьвацца на малапажыўную вадзяністую зялёную ягаду?



НОВЫ ЧАС



**Мачэнне агуркоў перад засолкай.** Ваколіцы Брэста-над-Бугам. 1930 год.

Агуркі, якія амаль цалкам складаюцца з вады, вельмі чуйныя да паліву, які быў галоўным клопатам пры іх вырошчванні. Палівалі іх, як правіла, увечары вадой, налітай у бочкі з раніцы і сагрэтай за дзень сонечным цяплом. Часта ў вадзе настойвалі каравяк ці птушыны памёт, каб заадно і падкарміць расліны. На суглінку пасля паліву часта ўтваралася корка, якую трэба было разбіць матыкай, а заадно і збіць пустазелле ды абгарнуць агуркі зямлёй з бакоў. Але ў сухія дні гэтага ніколі не рабілі, дый пустазелле падчас засухі лічылася хутчэй абаронай ад бязлітаснага сонца.

## Ранішні ўраджай

Збор агуркоў гаспадыня праводзіла заўжды з раніцы. Тады яны самыя сакавітыя.

Адна з яскравых запамінальных сцэн з міцкевічаўскага «Пана Тадэвуша» — Зося ў лёгкай летняй ранішняй вопратцы збірае агуркі, адно што толькі не ў фартух, а ў кошык, і Граф, які аслупянеў ад гэтага нечаканага харастава:

Пад плотам грады без кустоў,
без дрэў і кветак —
Гарод на агуркі займае ўвесь палетак.
Прыгожа выраслі і лісцем лапушыстым
Пакрылі плошчу, быццам дываном
пушыстым.
Сярэдзінай дзяўчына ў ранішнім адзенні
Ішла, а зелень ёй сягала па калені.
Сыходзячы ў баразны, быццам
не ступала,
А па лістах плыла і ледзь-ледзь іх
кранала.

*(Пераклад Пятра Бітэля)*

І, нарэшце, раптоўнае з'яўленне ксяндза Робака, які іранічна, але настойліва выводзіць Графа з эратычных летуценняў і намякае, што заглядацца на Зосю яму не выпадае:

Гуркоў вам хочацца? Іх тутака багата!
Не лезь у шкоду, пане, бо на гэтым полі
Чужы ўраджай, тваім не быць яму ніколі!

## Ежа на ўсе сезоны

Кансерваваць агуркі, як лічаць гісторыкі кулінарыі, пачалі ў Месапатаміі каля 2400 гадоў да нашай эры. Гай Юлій Цэзар карміў марынаванымі агуркамі сваіх легіянераў, верачы, што гэта дадасць ім фізічную і псіхічную сілу. А егіпецкая царыца Клеапатра была перакананая, што ўжыванне вялікай колькасці марынаваных агуркоў захавае яе непаўторную прыгажосць.

У Еўропе марынаванне і засолка агуркоў найбольш распаўсюджаны на ўсход ад г. зв. «мерыдыяна пікуляў» (Берлін – Вена). Памятаеце, у фільме «Гудбай, Ленін!» гераіня вельмі любіла шпрэевальдскія агуркі (між іншым, традыцыйны прадукт лужыцкіх сербаў)?

Да нас, як і ў Польшчу, тэхналогія кансервавання агуркоў прыйшла, магчыма, менавіта з усходняй Германіі. Першы ў Рэчы Паспалітай рэцэпт марынавання агуркоў зафіксаваны ў «Зельніку» Шымана Сырэньскага (1613 год),



**Кадр з фільма Анджэя Вайды «Пан Тадэвуш».**

## Цікавыя факты пра агуркі

- **Рэкордна вялікі** агурок меў даўжыню 183 см. А **рэкордна цяжкі** важыў 13 кг.
- **Утрыманне вады** ў агурках дасягае 96%.
- **Тэмпература** на паверхні агурка і ў яго сярэдзіне можа адрозніваеца на 20 градусаў.
- **У шклянцы** дробна пакрышаных агуркоў — усяго 16 калорый.




## Расольнік традыцыйны

(з «Літоўскай кухаркі» Вінцэнты Завадскай выдання 1913 года)

**Інгрэдыенты**

3 фунты ялавічыны (каля 1 300 г), 1 ялавічная нырка, некалькі лаўровых лісткоў, некалькі гарошын перцу, 1 пятрушка, 1 цыбуля-парэй, 1 салера, 3–4 сушаныя баравікі, 5–6 салёных агуркоў, агурковы расол і соль на смак. Можна дадаць 1 шклянку смятаны.

Прыгатуйце булён з ялавічыны і ныркі, разбаўце агурковым расолам, каб смак быў прыемна-кіславатым. Дадайце зеляніну, можна некалькі сухіх белых грыбоў, і праварыце. Нарэжце некалькі пачышчаных салёных агуркоў пласцінамі, зварыце іх асобна, зліце, заліце празрыстым булёнам і падавайце да стала разам з парэзанай ныркай. Можна падаваць гэты суп і забяліўшы смятанай.

у якім напісана: «Некаторыя соляць і квасяць (г. зн. марынуюць) агуркі ў воцаце з соллю, італьянскім кропам [фенхелем] і маяранам, як рабілі і старажытныя людзі».

У кансервацыі агуркоў асабліва шанавалася ўменне засцерагчы іх ад утварэння поласці ўнутры. У бочкі ці слоікі з гуркамі кладуць дубовае, парэчкавае ды вішнёвае лісце, эстрагон, карэнішчы ды лісце хрэну і кропу, маяран, гваздзік, гарчыцу, часнок, перац. Бочкі, у якіх саліліся агуркі, больш ні для чаго не выкарыстоўвалі, а пасля кожнай засолкі выпарвалі іх чаборам і іншымі духмянымі зёлкамі.

У падляшскай вёсцы Крушава на рацэ Нарва па традыцыі ўжо не першае стагоддзе агуркі соляць у драўляных бочках, якія шчыльна закрываюць і прытопліваюць у рацэ. Халодная рачная вада дазваляе захаваць агуркі да летніх сенакосаў.

Мясцовыя жыхары да гэтага часу любяць распавядаць легенду, што гэтыя агуркі вельмі спадабаліся Напалеону ў самым пачатку ягонага паходу на Расію. Ён нібыта нават хацеў назапасіць на Падляшшы агуркоў для ўсёй сваёй вялізнай арміі, якой потым вельмі бракавала вітамінаў у халоднай Маскве і пры адступленні. Такім чынам, няўважлівасць да крушаўскіх агурочкаў быццам бы адгукнулася імператару катастрафічнай паразай. Але гэта, вядома, жарты. Калі ж сур'ёзна, то такая тэхналогія ў нас калісьці была ці не асноўнай, ды яе і дагэтуль яшчэ можна сустрэць у Беларусі.

### Гарачыя стравы — не толькі расольнік

У кухні Рэчы Паспалітай, як і ва ўсёй Еўропе, у часы Сярэднявечча ды Новага часу ўжыванне агуркоў было значна шырэйшым, чым цяпер. Іх не толькі кансервавалі і ўжывалі ў салатах, але і выкарыстоўвалі ў прыгатаванні гарачых страў, што выклікае ў нас сёння пэўнае здзіўленне. Бо цяжка з ходу назваць хоць бы адну такую




сучасную, апроч хіба што толькі расольніку.

Некалі ж агуркі тушылі ў смятане, загушчанай яйкам, або фаршыравалі — прыкладна як цяпер перцы, начыняючы іх курыным, цялячым або рыбным фаршам. Тушылі ў булёне, дадаючы да іх мяса, гародніну і смятану: нешта падобнае на расольнік, толькі густы, як рагу. ◆



Больш пра агуркі і іншыя беларускія расліны можна даведацца ў Фэйсбук-суполцы **«Сімвалічны свет беларускіх раслінаў»**, якую адмініструе аўтар гэтага артыкула.

Адна з удзельніц гэтай суполкі, Зінаіда Сугак, прыгадала цікавы выпадак выкарыстання агуркоў для аздаблення спіртавых напояў. У чыстую бутэльку накіроўваюць парастак агурка на градцы з маленькай завяззю. Гэты агурочак у бутэльцы расце, дасягаючы прыкладна 10–15 см. Тады парастак выдаляюць, у бутэльку налліваюць гарэлку і ўстаўляюць корак. Гэта, з аднаго боку, надае гарэлцы крыху агурковага паху, а з другога — стварае незвычайны антураж. Тое самае можна ажыццявіць і з папрыкай ці вострым перцам.

# Стары Мінск быў такі

Журналіст і гісторык **Сяргей Абламейка** так піша пра гэты малюнак у сябе ў Фэйсбуку:

«Высокі рынак. Малюнак невядомага мастака. Да 1835 года. Захоўваецца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве.

Я прасіў максімальную якасць сканавання і заплаціў вялікія грошы, але копія ўсё роўна аказалася так сабе. Амаль не відаць, што каля Ратушы стаіць салдат з дзвюма белымі партупеямі на грудзях крыжам. Такая форма была і ў расейцаў, і ў французаў. Каб было больш часу папрацаваць з арыгіналам, то можна было б дакладна вызначыць прыналежнасць формы, а значыць, і больш дакладна датаваць малюнак. Белыя кароткія штаны з ботамі могуць сведчыць пра шарагоўца расійскага грэнадзёрскага палка, але я не спецыяліст. Ледзьве відаць і карэту з канём у цэнтры, і шыкоўна апранутых жанчын злева. Затое выгляд царквы Святога Духа, кляштара базыльянаў агаломшвае. Калі б мая кніжка выйшла раней [маецца на ўвазе кніга “Невядомы Менск: гісторыя зьнікненьня”, што нядаўна выйшла ў серыі “Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе”], то, можа, і Святадухаўку аднавілі б з арыгінальным франтонам. Бо, калі параўноўваць гэты малюнак з актуальным выглядам царквы, сённяшні варыянт моцна прайграе. І нельга пазбыцца адчування, што на франтоне не малюнкі, як лічаць мастацтвазнаўцы, а рэальныя паўкалоны і рэальныя нішы са скульптурамі.

Наогул, гэты малюнак дае для прафесіяналаў мноства дэталяў. Напрыклад, галерэя ад жаночага кляштара заканчвалася пры царкве двухпавярховай прыбудовай са стромым чарапічным дахам. Як кажа знаўца Мінска Уладзімір Дзянісаў, гэта была фактычна каплічка, адкуль з-за кратаў і заслоны клаўзурныя манашкі слухалі літургію. А перад прыбудовай былі маленькія




**Раней на мора было дабрацца з Мінска куды прасцей.**

кляштарныя могілкі, якія апаганілі ў 1926 годзе пры земляных працах бальшавікі».

## А потым пастаўкі нафты скараціліся

Этнолаг **Павел Церашковіч** згадвае ў Фэйсбуку пра перыпетыі ўзаемадачыненняў дзвюх брацкіх краін саракагадовай даўніны:

«Пачатак маштабнага эканамічнага, а потым і палітычнага крызісу ў ГДР быў пакладзены ў 1980 годзе, калі СССР скараціў штогадовыя пастаўкі нафты з 19 да 17 млн тон. Маленькай ГДР такая колькасць (што 19, што 17) была не патрэбная, тым больш што насельніцтва ўжо прызвычаілася да прамога тавараабмену з пастаўшчыкамі нафтапрадуктаў у выглядзе прапаршчыкаў Групы савецкіх войскаў. Але значная частка паліва, выробленага з савецкай нафты, прадавалася на заходніх рынках, што давала ГДР вялікі прыбытак, ды яшчэ ў валюце.

Эрых Хонэкер паляцеў у Маскву. "Ці каштуюць гэтыя няшчасныя два мільёны страты даверу нашага народа да партыйнага кіраўніцтва і дэстабілізацыі ГДР?" — пытаўся ён у Леаніда Брэжнева, але нафты не атрымаў. Прыйшлося пазычаць грошы ў галоўнага ідэалагічнага ворага — ФРГ. Не дапамагло і гэта. Па словах тагачаснага кіраўніка гэдээраўскага дзяржплана Герхарда Шурэра, эканоміка трапіла ў клубок трывог і безнадзейнасці».



**Эрых Хонэкер і Леанід Брэжнеў у 1971 годзе.** Тады яшчэ схема «нафта ў абмен на пацалункі» працавала без збояў.





**Джэрэмі Дэнтан** на тым самым допыце.

## Прамаргалі

Гэтая незвычайная гісторыя адбылася ў 1960-я гады, у час в'етнамскай вайны. Амерыканскага пілота Джэрэмі Дэнтана, які трапіў у палон, катаваннямі змусілі зняцца ў прапагандысцкім фільме. Але ён падчас «прызнанняў» мірганнем вачэй азбукай Морзэ сказаў *T-O-R-T-U-R-E* — «катаванні» па-англійску. Яго калегі гэта заўважылі і расшыфравалі слова, пасля чаго інфармацыя разышлася па ўсім свеце.

Дэнтан правёў у палоне 8 гадоў, а пасля вызвалення даслужыўся да контр-адмірала амерыканскай арміі. А пасля выхаду ў адстаўку стаў сенатарам ЗША ад свайго роднага штата Алабама. Пражыў ён без малога 90 гадоў, памёр у 2014-м.

## Суцінскія грошы

У Нацыянальным гістарычным архіве нядаўна знойдзены дакумент, непасрэдна датычны сямейнай гісторыі сусветна вядомага мастака, аўтара знакамітай «Евы» Хаіма Суціна, які быў родам з нашага мястэчка Смілавічы, цяперашняга гарадскога пасёлка ў Чэрвеньскім раёне (пра Суціна ў № 11/2019 «Нашай гісторыі» друкаваўся вялікі артыкул Надзеі Вусавай).

Супрацоўнік архіва **Ігар Жыляеў** адшукаў заяву мешчаніна Залмана Ёселевіча Суціна (бацькі мастака) аб унёску 20 рублёў у Смілавіцкую паштова-тэлеграфную ашчадную касу. Гэта былі першыя адкладзеныя грошы ў небагатай сям'і Суціных, а паклалі іх на кніжку ў 1899 годзе, калі Хаіму было 6 гадоў.

Інфармацыя пра важныя і ўнікальныя, а таксама проста цікавыя архіўныя знаходкі рэгулярна з'яўляюцца на старонцы Нацыянальнага гістарычнага архіва ў Фэйсбуку. ◆





Книжка выдана:
№ 487 Разрядъ 1

ЗАЯВЛЕНІЕ О ПЕРВОНАЧАЛЬНОМЪ ВЗНОСѢ

въ Почтово-Телеграфную Сберегательную Кассу

въ м. Смиловичах
Минской губерніи, Игуменского уѣзда.
№ 2 2 Октября 1899 г.

Прошу Сберегательную Кассу записать представленный взносъ въ суммѣ двадцать руб.
на имя слѣдующаго вкладчика:
Фамилія (или прозваніе) Сутина
Имя Залманъ
Отчество Иоселевич
Фамилія по рожденію (для замужней или вдовы)
Возрастъ 40 л.
Мѣсто и время рожденія м. Смиловичи Мин. губ. 1859 г.
Мѣсто постояннаго жительства или прописки м. Смиловичи Минск. губ.
Званіе и въ подробности родъ занятій мѣщанинъ портной

Если взносъ дѣлается на имя малолѣтняго его родителями, то сихъ послѣднихъ.
Фамилія
Имя
Отчество

Если вкладчикъ пожелаетъ указать лицо, или учрежденіе, которому послѣ


























**Пачынаючы з сакавіка 2021-га мы два дні на месяц прадаём часопіс у Рэдакцыі (Мінск, Энгельса 34а). Сачыце за графікам продажаў на nn.by і ў тэлеграме @nashaniva**

Па тэхнічных прычынах у Рэдакцыі часопіс прадаём толькі два дні на месяц, астатнія дні гэта не робіцца.

Шукайце часопіс таксама ў кнігарнях, гіпермаркетах, а таксама ў шапіках «Белдрука» Магілёўскай вобласці. Вось спіс кнігарань:

**Мінск**

Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 41–42 і 44–45

«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)

«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)

«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз knihi.by, kniganosha.by, mmkut.by, halijafy.by, kniger.by

**Гродна**

«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).

**Віцебск**

«Светач» (вул. Кірава, 10)

**Бабруйск**

«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.